Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР



10 КАСТРЫЧНІКА 1928 г.

№ 11 (54)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР


10 КАСТРЫЧНІКА 1928 г.

**№ 11 (54)**

IV-ты год ВЫДАНЬНЯ





ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК—1928




# ЗЬМЕСТ

## 1. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра ўвядзеньне ў дзеяньне згоды НКЮстыцыі БССР і Беларускага Кіраўніцтва Сувязі за 30 чэрвеня 1928 году аб парадку перасылкі і дастаўкі судовых павестак і лістоў.

*Усім органам юстыцыі БССР.*

Абвяшчаючы разам з гэтым інструкцыю Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і Беларускага Кіраўніцтва Сувязі пра парадак перасылкі і аплаты судовых павестак і лістоў з паведамленьнем аб атрыманьні органаў і службовых асоб Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і інструкцыю Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР пра запаўненьне судовых павестак і паведамленьняў аб атрыманьні іх і закрытых судовых лістоў, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе наступнае:

1. З моманту абвяшчэньня гэтага абежніку ўсе павесткі па судовых справах, паведамленьні і іншыя паперы органаў юстыцыі, пры якіх пасылаюцца якія-небудзь дакумэнты, калі патрэбна расьпіска атрымальніка (копіі іскавых заяў і касацыйных скарг, якія ўручаюцца супраціўнай старане, копіі абвінавальных заключэньняў і завочных прысудаў для ўручэньня падвіноўнаму і інш.), павінны пасылацца паводле правіл паказанай вышэй інструкцыі Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і Беларускага Кіраўніцтва Сувязі.

2. Заказны парадак пасылкі павестак і лістоў павінен ужывацца ў выключных выпадках, калі, напрыклад, перасылаецца цэнны дакумэнт, рэчавы довад і інш.

3. Калі перасылаюцца справы ў бандэролях, то, як агульнае правіла, ня трэба далучаць перасылальных папер і не рабіць перасылальных надпісаў у справе або на вокладцы яе, бо гэтыя паперы і надпісы зьяўляюцца лішнімі тады, калі ў справе ёсьць пастанова аб перадачы справы іншаму органу або аб звароце яе ў орган, адкуль яна паступіла, напрыклад, калі справы накіроўваюцца для дасьледваньня ці па падсуднасьці, або для новага разгляду.

4. Калі перасылальную паперу трэба пасылаць канечна, то яна можа быць укладзена ў бандэроль разам з справаю, але ў такіх выпадках перасылальная папера аплачваецца асобна, як закрыты ліст.

Штраф за неаплату ўкладзенай у бандэроль перасылальнай паперы, які прадугледжаны ўвагаю 1 да па параграфу 4 інструкцыі, спаганяецца з асобы, якая дапусьціла ўкладаньне ў бандэроль неаплачанай паперы.

5. Зусім не дазваляецца перасылаць лістоў і іншых перапісак у бандэролях і пасылках.

Таксама не дазваляецца ўкладаць у пасылкі перасылальных папер.

6. Перапіска, якая пасылаецца без паведамленьня аб атрыманьні, а таксама перапіска, якая тычыцца адміністрацыйна-гаспадарчых і фінансавых пытаньняў, калі яна ня тычыцца судовых спраў, аплачваецца паводле агульных паштовых тарыфаў.

7. Старшыні акруговых судоў і акруговыя пракуроры павінны ўжыць тэрміновыя захады да забясьпечаньня падпарадкаваных ім органаў юстыцыі блянкамі адпаведных павестак і паведамленьняў за кошт канцылярскіх сродкаў, якія адпушчаюцца ў каштарысе гэтым органам.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

21 жніўня 1928 г.,
№ 74.

---

*Дадатак А.*

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і Беларускага Кіраўніцтва Сувязі

### пра парадак перасылкі і аплаты судовых павестак і лістоў з паведамленьнем аб атрыманьні органаў і службовых асоб Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

На падставе згоды Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і Беларускага Кіраўніцтва Сувязі за 30 чэрвеня 1928 году, якая набыла сілу з 19 ліпеня 1928 г., устанаўляецца наступны парадак перасылкі і аплаты судовых павестак і судовых лістоў з паведамленьнем аб атрыманьні:

1. Кіраўніцтва Беларускай Акругі Сувязі прымае для перасылкі і дастаўкі ў межах БССР ад усіх судовых органаў і службовых асоб Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР (судоў, сьледчых, пракуратуры і судовых выканаўцаў) паводле асобнага тарыфу: а) судовыя павесткі з паведамленьнем аб атрыманьні ў выглядзе падвойнай паштовай карткі ўстаноўленай формы, разьмерам 105×148 м/м. і б) судовыя лісты, вагаю да 50 грамаў, з паведамленьнем аб атрыманьні, у якіх перасылаецца перапіска, зьвязаная з справаю, што знаходзіцца ў справавядзеньні. Лішак вагі звыш 50 грамаў судовых лістоў з паведамленьнем аб атрыманьні аплачваецца паводле агульнай таксы для лістоў.

*Увага 1.* Перапіска органаў і службовых асоб Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР, якая тычыцца адміністрацыйна-гаспадарчых і фінансавых пытаньняў, а таксама ўся перапіска, якая пасылаецца без паведамленьня аб атрыманьні, аплачваецца паводле агульных паштовых тарыфаў.

*Увага 2.* Дазваляецца скарыстаць блянкі павестак іншага, чымся паказаны ў гэтай інструкцыі, разьмеру, якія ёсьць у органаў Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР, але не пазьней як да 1 кастрычніка 1928 г.

2. За перасылку і дастаўку паказаных у п. 1 гэтай інструкцыі адпраўленьняў устанаўляецца, пры простым спосабе перасылкі, наступная аплата:

а) за кожную судовую павестку з паведамленьнем аб атрыманьні яе: мясцовую—6 кап., немясцовую—10 кап.,

б) за кожны судовы закрыты ліст, вагаю да 50 грамаў, з паведамленьнем аб атрыманьні яго: мясцовы—8 кап., немясцовы—12 кап.

За перасылку павесткі ці судовага лісту заказным парадкам дадаецца збор за заказ за кожную частку павесткі ці лісту, якая перасылаецца заказным парадкам, г. зн., калі заказным парадкам перасылаецца толькі павестка або ліст, то за павестку або ліст, а калі паве-

дамленьне аб атрыманьні, то—і за паведамленьне: па 5 кап. за мясцовае адпраўленьне і па 10 кап. за немясцовае.

3. Усе паштовыя зборы аплачваюцца наклейкаю паштовых марак на першы экзэмпляр адпраўленьня, г. зн. на судовую павестку або на ліст. Паведамленьне аб атрыманьні павесткі ці лісту перасылаецца без наклейкі на яго марак.

4. Судовыя справы, якія перасылаюцца ў бандэролях па таксе для бандэроляй з дзелавымі паперамі, калі бандэролі адпраўляюцца заказным парадкам, апроч звычайнага вагавага збору, аплачваюцца зборам за заказ у разьмеры, паказаным у п. 2, г. зн. за мясцовае адпраўленьне па 5 кап. і за немясцовае—па 10 кап. з адпраўленьня.

Дазваляецца перасылаць у бандэролях з судовымі справамі перасылальныя да іх паперы з аплатаю кожнай перасылальнай паперы, як простага закрытага лісту. Кожная такая бандэроль аплачваецца, апроч збораў за бандэроль, яшчэ зборам у разьмеры кошту простага закрытага лісту найменшай вагі (20 гр.).

*Увага 1.* Калі будзе выяўлена ў бандэролі неаплачаная перасылальная папера, то спаганяецца штраф у 5 разовым разьмеры таксы для закрытага лісту.

*Увага 2.* Ні ў якім разе не дазваляецца перасылаць перасылальныя паперы да судовых спраў у пасылках.

5. Звычайныя (незаказныя) судовыя павесткі і судовыя лісты перасылаюцца як простыя адпраўленьні і здаюцца на пошту звычайным парадкам, г. зн. без расьпіскі пошты аб атрыманьні, або кідаюцца ў паштовыя скрынкі. Такім самым парадкам (г. зн. простым) перасылаюцца органам Народнага Камісарыяту Юстыцыі і паведамленьні аб атрыманьні судовых павестак і лістоў тады, калі яны не аплачаны за заказ.

6. Судовыя павесткі і лісты павінны мець поўныя адрэсы: пры адрэсаваньні ў горад, апроч назвы гораду, павінна быць паказана вуліца, нумар будынку і кватэры і поўная назва адрэсату, а пры адрэсаваньні ў вёску, апроч назвы бліжэйшага паштовага пункту,—ясная назва паселішча, у якім жыве адрэсат, сельскага савету і поўная назва адрэсату.

Скарочваць назву адрэсату не дазваляецца.

Судовыя лісты на пярэдняй старонцы павінны мець надпіс: „*Судовае з паведамленьнем аб атрыманьні*“.

Паштовыя маркі на судовыя павесткі і лісты наклейваюцца абавязкова ў правым верхнім куце адрэснага боку.

7. Судовыя павесткі і лісты выдаюцца поштаю адрэсатам пад расьпіску на паведамленьні аб атрыманьні, а калі адрэсат няпісьменны, пад расьпіску пісьменнага сьведкі (каго-небудзь з суседзяў); калі адрэсат адсутнічае, то павестка або ліст выдаецца пад расьпіску на паведамленьні: пражываючым з адрэсатам яго бацьку, мацяры, жонцы, паўналетнім дзецям, брату, сястры, бліжэйшым суседзям, службовай асобе ўстановы, у якой працуе адрэсат, адміністрацыі домакіраўніцтва, дворніку або члену сельскага савету.

Калі судовыя павесткі і лісты выдаюцца не беспасрэдна адрэсату, то асоба, што атрымоўвае павестку ці ліст за адрэсата, у расьпісцы паказвае свае адносіны да адрэсата, напрыклад: жонка, бацька, старшыня кіраўніцтва жылішчнага таварыства, член сельскага савету і іншыя.

8. Судовыя павесткі і лісты, адрэсаваныя ў паселішчы, якія поштаю беспасрэдна не абслугоўваюцца, выдаюцца ўпаўнаважаным паселішчаў, якія зьяўляюцца ў вызначаныя пункты. Упаўнаважаныя паселі-

шчаў выдаюць павесткі і лісты пад расьпіску адрэсатаў або асоб, паказаных у п. 7, на паведамленьні аб атрыманьні.

Паведамленьні аб атрыманьні судовых павестак і лістоў з расьпіскамі аб атрыманьні іх здаюцца ўпаўнаважанымі паселішчаў на пошту; паштовы працаўнік правярае наяўнасьць устаноўленых зьвестак і подпіс атрымальніка, што і сьцьвярджае сваім подпісам і прыкладам паштовага каляндарнага штэмпеля.

9. Калі павестку ці ліст немагчыма аддаць, бо адрэсат памёр або выехаў невядома куды, то паштовы працаўнік робіць аб гэтым адзнаку на лісьце ці павестцы і на паведамленьні аб атрыманьні.

Калі адрэсат адмовіцца атрымаць павестку ці ліст, то ён павінен напісаць аб гэтым на павестцы або лісьце, а калі ён адмовіцца зрабіць гэта, то факт адмаўленьня адрэсата павінен быць пасьведчаны сельскім саветам, сельскім выканаўцам, службоваю асобаю ўстановы, адміністрацыяю домакіраўніцтва і інш.

10. Калі адрэсат выехаў і адрэс яго невядомы, то аб гэтым робіцца адзнака на павестцы ці на лісьце і яны пасылаюцца ў новае месцазнаходжаньне адрэсата.

11. Подпісы адрэсата або іншага атрымальніка (не адрэсата) аб часе атрыманьня, адносіны атрымальніка да адрэсата, зьвесткі аб прычынах немагчымасьці ўручыць, надпісы на паведамленьні аб атрыманьні, а таксама адзнакі на самых павестках і лістох сьведчацца подпісам паштовага працаўніка, які дастаўляе адпраўленьне, і прыкладам паштовага каляндарнага штэмпеля. Пасьля афармленьня паведамленьняў паказаным парадкам яны адсылаюцца ўстановам, якія пасылалі павестку або ліст.

12. Паказаныя ў п. 2 гэтай інструкцыі льготы даюцца органам Народнага Камісарыяту Юстыцыі тады, калі яны перасылаюць паказаныя вышэй павесткі і лісты толькі праз пошту без скарыстаньня іншых арганізацый.

У асабліва тэрміновых і выключных выпадках дазваляецца дастаўка мясцовых павестак і лістоў супрацоўнікамі данага органу Юстыцыі. Таксама дазваляецца перадача павестак судовымі органамі і службовымі асобамі на рукі цяжбенікам і для ўручэньня супраціўнай старане.

Невыкананьне гэтай абавязнасьці Народнага Камісарыяту Юстыцыі яго органамі выклікае спыненьне абавязнасьці пошты па льготнай перасылцы судовых павестак і лістоў органу або службовай асобы, якія зрабілі парушэньні.

13. З часу ўваходу ў сілу паказанай у інструкцыі згоды касуюцца ўсе ранейшыя дагаворы паміж Народным Камісарыятам Юстыцыі і паштовым ведамствам на перасылку і дастаўку паштовых адпраўленьняў органаў Народнага Камісарыяту Юстыцыі ў межах БССР.

14. Усе загадчыкі паштовых прадпрыемстваў і агэнцтваў павінны падрабязна інструктаваць лістаносцаў аб парадку дастаўкі і ўручэньня судовых павестак і лістоў і аб запаўненьні паведамленьняў аб атрыманьні.

*Дадатак.* Формы павестак №№ 1—10 і паведамленьняў аб атрыманьні іх і судовых лістоў.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі у **Я. Бутар.**

Нам. Упаўнаважанага Народнага Камісарыят
Пошт і Тэлеграфаў **С. Гейсін.**

21 жніўня 1928 г.,
№ 72.

Разьмер: 105×148 мм. *Дадатак 1.*

Пярэдні бок судовай павесткі
(агульны для ўсіх форм павестак)

| Месца для паштовай маркі |
|---|

СУДОВАЯ ПАВЕСТКА

з паведамленьнем аб атрыманьні.

(Уручаецца пад расьпіску на адваротным баку паведамленьня).

Куды . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(назва месца, дзе знаходзіцца пошта, і акругі, а для станцый назва чыгункі).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(раён, сельскі савет, сяло або вёска).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(вуліца, № дому і кватэры).

Каму . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(падрабязная назва атрымальніка)

*Дадатак 2.*

Адваротны бок павесткі ф. № 1.

| Гэрб БССР |
|---|

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
выклікае Вас, як падвіноўнага, на . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.
а . . . гадзіне па справе аб . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Яўка абавязкова.
. . . . . . . . . . . . . 192 . . г. Сьледчы . . . . . . . . .

*Вынікі няяўкі.*

Калі падвіноўны ня зьявіцца бяз важных прычын, то ён, на падставе арт. 131 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу БССР, прыводзіцца прымусова.

ф. № 1.

*Дадатак 3.*

Адваротны бок павесткі ф. № 2.

| Гэрб БССР |
|---|

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
выклікае Вас, як сьведку, на . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.
а . . . гадзіне па справе аб . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Яўка абавязкова.
. . . . . . . . . . . 192 . . г. Сьледчы . . . . . . . . . .

*Вынікі няяўкі.*

Ухіленьне сьведкі ад яўкі выклікае, на падставе арт. 104-б Крымінальнага Кодэксу БССР, прымусовыя работы на тэрмін да 6 месяцаў або штраф да 500 рублёў.

ф. № 2.

*Дадатак 4.*

Адваротны бок павесткі ф. № 3.

| |
|---|
| Гэрб<br>БССР |

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

выклікае Вас, як падвіноўнага, на „ . . . “ . . . . . . . . . . 192 . . г. а . . . гадзіне па справе . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Яўка . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . 192 . . г. Сакратар суда . . . . . . . .

*Вынікі няяўкі.*

1. Па справах аб злачынствах, за якія мераю сацыяльнай абароны вызначана пазбаўленьне волі на тэрмін ня менш 6 месяцаў, яўка падсуднага абавязкова.

2. У такіх выпадках справа без падсуднага можа разглядацца толькі тады, калі падсудны на гэта згодзіцца (арт. 265 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу).

3. Па іншых справах яўка падсуднага неабавязкова, аднак суд можа палічыць яўку падсуднага патрэбнай (арт. 265 Крымін. Працэс. Кодэксу).

4. Калі падсудны ня зьявіцца бяз важных прычын па справах, па якіх яўка зьяўляецца абавязковаю, апроч выпадкаў, паказаных у п. 2, а таксама па справах, па якіх суд палічыў яўку патрэбнай, то суд адкладае разгляд справы і ўскладае на падсуднага судовыя страты на адкладзенае пасяджэньне. Апроч таго, суд мае права вынесьці пастанову аб прыводзе падсуднага і аб павялічэньні спыняльнай меры або аб назначэньні яе, калі яна ня была прынята (арт. 267 Крымін. Прац. Кодэксу).

*Правы падсуднага.* На падставе арт. 246 Крымін. Прац. Кодэксу падвіноўны мае права выбраць абаронца або хадайнічаць аб назначэньні яго па распараджэньні суда, знаёміцца з справаю, прасіць аб вытрабаваньні іншых довадаў, апроч далучаных да справы, і прасіць аб выкліканьні дадатковых сьведак і экспэртаў, паказаўшы для выяўленьня якіх акалічнасьцяй яны павінны быць выкліканы.

ф. № 3.

*Дадатак 5.*

Адваротны бок павесткі ф. № 4.

| |
|---|
| Гэрб<br>БССР |

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

выклікае Вас, як сьведку, на „ . . . “ . . . . . . . . . . . . 192 . . г. а . . . гадзіне па справе аб . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„ . . . “ . . . . . . . . 192 . . г. Сакратар суда . . . . . . . .

*Вынікі няяўкі.*

Ухіленьне сьведкі ад яўкі выклікае, на падставе арт. 104-б Крымінальнага Кодэксу, прымусовыя работы на тэрмін да 6 месяцаў або штраф да 500 рублёў.

ф. № 4.

*Дадатак 6.*

Адваротны бок павесткі ф. № 5.

| Гэрб БССР |
|---|

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
выклікае Вас, як пакрыўджанага, на „. . . “ . . . . . . . . 192 . . г.
а . . . гадзіне па справе аб . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . 192 . . г. Сакратар суда . . . . . . . . . .

*Вынікі няяўкі.*

Калі пакрыўджаны або яго прадстаўнік ня зьявяцца па справах, па якіх падтрыманьне абвінавачваньня дадзена законам пакрыўджанаму (арт. 10 Крымін. Прац. Кодэксу), то справа, на падставе арт. 270 Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу, можа быць спынена.
ф. № 5.

*Дадатак 7.*

Адваротны бок павесткі ф. № 6.

| Гэрб БССР |
|---|

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
выклікае вас, як . . . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.
а . . . . гадзіне па справе аб пададзеным . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . іску . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . 192 . . г. Сакратар суда . . . . .

*Вынікі няяўкі.*

Няяўка старон, пра якіх суду вядома, што павесткі яны атрымалі, не зьяўляецца перашкодаю для разгляду і выращэньня справы (арт. 98 ГПК). Па справах аб алімэнтах і аб заработнай плаце суд можа пастанавіць аб прыводзе адказчыка (арт. 101 ГПК).

*Правы старон.* Стораны могуць падаваць усе довады, якія ёсьць у іх па справе, да пачатку разгляду справы. Падаваць новыя довады пасьля пачатку разгляду справы дазваляецца толькі тады, калі суд палічыць уважлівасьць прычын, якія перашкодзілі сваячаснай падачы довадаў (арт. арт. 106—118 ГПК).

Стораны і трэція асобы, якія дапушчаны да ўдзелу ў справе, а таксама іх прадстаўнікі маюць права разглядаць справу, рабіць з яе выпіскі і атрымоўваць копіі папер і дакумэнтаў, якія знаходзяцца ў справе (арт. 11 ГПК).
ф. № 6.

*Дадатак 8.*

Адваротны бок павесткі ф. № 7.

Гэрб
БССР

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
выклікае Вас, як сьведку, на . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . году
а . . . гадзіне па . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Яўка абавязкова
„ “ . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г. Сакратар суда . . . .

*Вынікі няяўкі.*

За няяўку бяз важных прычын сьведка плаціць, на падставе арт. 49 Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу, у першы раз штраф ад 3 да 10 рублёў, у залежнасьці ад маемаснага становішча, а ў другі раз—прымусова прыводзіцца і плаціць штраф у падвойным разьмеры.

ф. № 7.

*Дадатак 9.*

Адваротны бок павесткі ф. № 8.

Гэрб
БССР

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Акруговы суд
(адрэс: гор. . . . . . . . . . . . . . . . . . . вул. д. № . . . . . . . )
выклікае Вас на . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г. а . . . . гадзіне,
у . . . . . касацыйнае аддзяленьне, дзе будзе разглядацца касацыйная скарга . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . па справе аб . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
„ “ . . . . . . . . . . . . 192 . . г. Сакратар суда . . . . . . . .

*Вынікі няяўкі.*

Няяўка старон, якім абвешчана аб дні разгляду справы, не зьяўляецца перашкодаю для разгляду яе.

ф. № 8.

*Дадатак 10.*

Адваротны бок павесткі № 9.

Гэрб
БССР

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
паведамляе, што на падставе выканальнага лісту народнага суда . .
па справе № . . . . за . . . . . . . . . . 192 . . г. трэба спагнаць
з гр. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
у карысьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . руб. . . . . . . кап.

З гэтай прычыны, на падставе арт. арт. 333—335 Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу, прапануецца тэрмінова, але не пазьней . . . . . . . 192 . . г., паведаміць у паказаны вышэй адрэс зьвесткі аб заработнай плаце, якую атрымоўвае даўжнік, уключаючы ўсе дадатковыя выдачы, і ўтрымоўваць з заработнай платы, апроч дзяржаўнага мінімуму ў суме . . . . . р. . . . . . к., . . . . . . . . . . . . . . . .
у карысьць спагнальніка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Грошы $\frac{\text{выдаваць}}{\text{пасылаць}}$ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г. Судовы выканавец . . . . . . . . .

*Вынікі невыкананьня.* За непаведамленьне запатрэбаваных зьвестак накладаецца штраф да 100 руб. на падставе арт. 340 ГПК. За нявыплату спагнальніку памянёнай сумы ўстанова нясе адказнасьць перад спагнальнікам у разьмеры гэтай сумы.

Зьвесткі, паказаныя ў павестцы, павінны быць паведамлены па наступнай форме: „Гр. . . . . атрымоўвае (штомесяц, штодзень) асноўнага акладу . . . . . руб. . . . кап. і дадатковых відаў заработнай платы . . . . руб. . . . . кап.; апошні разьлік па ўсіх відах заработнай платы зроблены . . . . . 192 . . г.; абавязваюся ўтрымоўваць з даўжніка ў карысьць спагнальніка, пачынаючы з першачарговай выдачы заработнай платы, г. зн. з . . . . . 192 . . г., па . . . . . р. . . . . к. да выплаты ўсяе паказанай вамі сумы спагнаньня“.

ф. № 9.

*Дадатак 11.*

Адваротны бок павесткі ф. № 10.

| Гэрб БССР |
|---|

ПАВЕСТКА № . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На падставе . . . . . . . . . . . . . народнага суда . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . прапануе Вам на працягу . . . . . . дзён . . . . . . . . . . . . руб. . . . . кап. і збору па таксе . . . . руб. . . кап., а ўсяго . . . . руб. . . . кап.

Калі паказанае ня будзе выканана . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . 192 . . г. Судовы выканавец . . . . . . . . . . . . . .

ф. № 10.

*Дадатак 12.*

Пярэдні бок паведамленьня аб атрыманьні судовай павесткі (агульны для ўсіх форм павестак).

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ АБ АТРЫМАНЬНІ СУДОВАЙ ПАВЕСТКІ (простае)

| Аплачана наклейкаю маркі на павестцы. |
|---|

(Пры ўручэньні павесткі паведамленьне адрываецца ад апошняй і зараз-жа перадаецца для адпраўкі па паказанаму тут адрэсу. Астаўляць паведамленьне ў атрымальніка павесткі забараняецца).

Куды . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каму . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Дадатак 13.*

Адваротны бок паведамленьня аб атрыманьні судовай павесткі (агульных для ўсіх форм павестак).

РАСЬПІСКА АБ АТРЫМАНЬНІ ПАВЕСТКІ ПА СПРАВЕ № . . . . .

На імя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Павестку аб яўцы на „ . . . “ 192 . г. а . . . . гадзіне

атрымаў „ . . . “ . . . . . . . . . 192 . г.

1. Асабіста . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(подпіс атрымальніка)
2. Для перадачы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(паказаць адносіны атрымальніка да адрэсата — жонка, бацька і інш., назву службовай асобы і подпіс атрымальніка).
Подпіс атрымальніка сьведчу. Лістаносец . . . . . . . . . . . . . .
(подпіс)

| Месца для штэмпеля |
|---|

3. Калі павестка не перададзена—паказаць прычыны неперадачы . . . . . . . . . . . . . . . подпіс лістаносца . . . . . . . . . . . . . .

I. Павестка перадаецца асабіста адрэсату пад яго расьпіску. Калі атрымальнік няпісьменны, то павестка аддаецца пад расьпіску, зробленую ў яго прысутнасьці пісьменнаю асобаю.

II. Калі адрэсат адсутнічае, то павестка аддаецца пад расьпіску для перадачы яму паўналетнім членам сям'і, бліжэйшым суседзям, сельскаму выканаўцу, члену сельскага савету, адміністрацыі домакіраўніцтва ці ўстановы, у якім адрэсат працуе.

III. Калі павестка ня можа быць аддана, то прычына неаддачы паказваецца ў п. 3 гэтага паведамленьня.

*Дадатак 14.*

Паведамленьне аб атрыманьні судовага ліста

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ АБ АТРЫМАНЬНІ СУДОВАГА ЛІСТА
(простае)

| Аплачана наклейкаю . . . маркі на лісьце. |
|---|

Пры аддачы ліста паведамленьне адрываецца ад апошняга і неадкладна перадаецца для адпраўкі па паказанаму тут адрэсу. Пакідаць паведамленьне ў утрымальніка лісту забараняецца.
Куды . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Каму . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Дадатак 15.*

Адваротны бок паведамленьня аб атрыманьні судовага ліста.

РАСЬПІСКА АБ АТРЫМАНЬНІ ПА СПРАВЕ № . . . .

На імя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ліст з . . . . . . . . . . . . . . . . . атрымаў „ . . “ . . . . 192 . г.
1. Асабіста . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(подпіс атрымальніка)
2. Для перадачы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(паказаць адносіны атрымальніка да адрэсата: жонка, бацька і інш., назву службовай асобы і подпіс атрымальніка)
Подпіс атрымальніка сьведчу. Лістаносец . . . . . . . . . . . . . .
(подпіс)

| Месца для штэмпеля |
|---|

3. Калі ліст не пераданы, то паказаць прычыны неперадачы . . . . .
Подпіс лістаносца . . . . . . . . . . . . . .

Правілы аддачы лістоў.

I. Ліст аддаецца асабіста адрэсату пад яго расьпіску. Калі атрымальнік ліста няпісьменны, то тады аддаецца пад расьпіску, зробленую ў яго прысутнасьці пісьменнаю асобаю.

II. Калі адрэсат адсутнічае, то ліст аддаецца пад расьпіску для перадачы яму паўналетнім членам сям'і, бліжэйшым суседзям, сельскаму выканаўцу, члену сельскага савету, адміністрацыі домакіраўніцтва ці ўстановы, у якой адрэсат працуе.

III. Калі ліст ня можа быць адданы, то прычына неаддачы паказваецца ў п. 3 гэтага паведамленьня.

Ф. № 11.

---

*Дадатак Б.*

## Інструкцыя Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра запаўненьне судовых павестак і паведамленьняў аб атрыманьні іх і закрытых судовых лістоў.

§ 1. Судовая павестка па сваёй форме зьяўляецца паштоваю карткаю, якая замяняе сабой першы экзэмпляр павесткі і павінна аставацца на руках у выкліканага, а паведамленьне аб атрыманьні яе замяняе другі экзэмпляр павесткі, які зварочваецца ў судовы орган.

§ 2. Пярэдні бок судовай павесткі і паведамленьня аб атрыманьні яе і адваротны бок паведамленьня аб атрыманьні судовай павесткі зьяўляюцца агульнымі формамі для ўсіх відаў павестак—сьледчых, судовых, касацыйных і судовых выканаўцаў, а адваротны бок судовай павесткі мае розны тэкст, у залежнасьці ад прызначэньня яе, і запаўняецца розным парадкам.

§ 3. У адпаведнасьці з розным тэкстам адваротнага боку судовай павесткі ўстаноўлены наступныя формы яе:

1. Для сьледчых:

Форма № 1—аб выкліканьні падвіноўнага.
Форма № 2—аб выкліканьні сьведкі.

2. Для 1 судовай інстанцыі:

а) па крымінальных справах.

Форма № 3—аб выкліканьні падвіноўнага.
Форма № 4—аб выкліканьні сьведкі.
Форма № 5—аб выкліканьні пакрыўджанага.

б) па грамадзянскіх справах.

Форма № 6—аб выкліканьні ісца, адказчыка і трэцяй асобы.
Форма № 7—аб выкліканьні сьведкі.

3. Для 2 судовай інстанцыі:

Форма № 8—аб выкліканьні старон, агульная для крымінальных і грамадзянскіх спраў.

4. Для судовых выканаўцаў.

Форма № 9—з прапановаю ўстанове ці прадпрыемству, дзе працуе даўжнік, аб утрыманьні, для выкананьня пастановы суда, дакладна вызначанай сумы з заработнай платы даўжніка.

Форма № 10—з прапановаю даўжніку выканаць пастанову суда або судовы загад.

§ 4. Пярэдні бок судовай павесткі прызначаецца для напісаньня адрэсу атрымальніка павесткі, а пярэдні бок паведамленьня аб атрыманьні павесткі—для напісаньня адрэсу адсылальніка (напрыклад, суда, сьледчага, судовага выканаўца), які лепш адзначыць штампам наступнага, напр., зьместу:
„Народны суд . . . . . . . . . . . . . . раёну . . . . . . . . . . . .
акругі, г. . . . . . . . . . . . . . , вул. . . . . . . . . . дом № . . . “

§ 5. Адваротны бок паведамленьня аб атрыманьні павесткі прызначаецца для расьпіскі асобы, якая выклікаецца або абвяшчаецца павесткаю, аб атрыманьні павесткі.

На ім адзначаецца:

а) пасьля слоў „па справе №“—нумар справы;

б) пасьля слоў „на імя“—прозьвішча і ініцыялы асобы, якая выклікаецца;

в) пасьля слоў „павестку аб яўцы на...“—дзень (цыфрамі), месяц (літарамі), апошняя цыфра году і гадзіна яўкі.

Усе гэтыя надпісы робяцца канцылярыяю судовага органу; наступныя графы запаўняюцца асобаю, што атрымала павестку, і паштальлёнам.

§ 6. Паказаны вышэй парадак запаўненьня пярэдняга боку павесткі і пярэдняга і адваротнага бакоў паведамленьня аб атрыманьні зьяўляецца аднолькавым для павестак усіх форм.

§ 7. Адваротны бок павесткі формы № 1, для выкліканьня сьледчым падвіноўнага, запаўняецца наступным чынам:

а) пасьля слоў „Павестка №“ паказваецца нумар справы, па якой выклікаецца падвіноўны;

б) наступныя два радкі запаўняюцца ад рукі, або штампам, паказваючы назву сьледчага і яго адрэс, напр.
„Сьледчы . . . . . . . . . вуч. . . . . . . . . . акругі . . . . . . . .
адрэс: гор. . . . . . . . . . . . . . вул. . . . . . . . . . . . . д. № . . . . “;

в) пасьля слоў „як падвіноўны, на...“ паказваецца дата яўкі спосабам, паказаным у параграфе 5;

г) пасьля слоў „па справе аб“ паказваецца ў кароткіх словах сутнасьць справы, па якой выклікаецца падвіноўны і

д) пасьля слоў „яўка абавязкова“ паказваецца дата адпраўкі павесткі і падпісваецца сьледчы.

§ 8. Адваротныя бакі павестак па формах №№ 2, 3, 4 і 5 запаўняюцца аналёгічным парадкам з тою толькі розьніцаю, што ў павестцы па форме № 3, аб выкліканьні падвіноўнага ў суд, пасьля слова „яўка“ паказваецца — „абавязковая“, „неабавязковая“ або „прызнана патрэбнаю“.

§ 9. Адваротны бок павесткі па форме № 6, аб выкліканьні ў суд ісца, адказчыка, або трэцяй асобы,—запаўняецца наступным чынам:

а) пасьля слоў „выклікае Вас, як“ паказваецца—„ісца“, „адказчыка“, „трэцяй асобы“;

б) пасьля слоў „па справе аб пададзеным“ паказваецца: калі павестка пасылаецца ісцу—„Вамі“, калі адказчыку—„да Вас“, а калі трэцяй асобе прозьвішча або назва ісца;

в) пасьля слова „іску“ паказваецца: калі павестка пасылаецца ісцу або трэцяй асобе—прозьвішча або назва адказчыка і сутнасьць іску, а калі павестка пасылаецца адказчыку—прозьвішча або назва ісца і сутнасьць іску, а пасьля гэтага—дата адпраўкі павесткі і подпіс сакратара суда.

§ 10. Адваротны бок павесткі па форме № 7, прызначанай для выклíканьня сьведак па грамадзянскіх справах, запаўняецца парадкам, паказаным у параграфе 7, як і павестка па форме № 1, пры гэтым пасьля слова „па...“ паказваецца сутнасьць іску і прозьвішча або назва іcца і адказчыка.

§ 11. Павестка па форме № 8, для выклíканьня старон у касацыйную інстанцыю па крымінальных і па грамадзянскіх справах, запаўняецца такім чынам:

а) на адваротным боку павесткі пасьля слоў „Павестка №“ паказваецца нумар справы народнага суда;

б) перад словамі „Акруговы Суд“ паказваецца назва акруговага суда, напрыклад, „Менскі“, а далей у дужках—адрэс Акруговага Суду (горад, вуліца і № дому);

в) перад словамі „...касацыйнае аддзяленьне“ паказваецца „Крымінальнае“ або „Грамадзянскае“, у залежнасьці ад таго, якая справа разглядаецца;

г) пасьля слова „скарга“—прозьвішча і ініцыялы або назва скаржніка, а калі павестка пасылаецца скаржніку, то пасьля слова „скарга“ паказваецца „пададзеная Вамі“;

д) усё іншае на адваротным баку павесткі запаўняецца таксама, як і ў павестцы па форме № 1, пры гэтым пасьля слоў „Сакратар суда“ паказваецца подпіс сакратара таго народнага суда, у якім разглядалася справа і

е) на пярэднім баку паведамленьня аб атрыманьні судовай павесткі па гэтай форме (№ 8) паказваецца адрэс акруговага суда, адзначаючы касацыйнае аддзяленьне яго, у якім павінна разглядацца справа па касацыйнай скарзе, а на адваротным баку паведамленьня ў першым радку, пасьля слоў „па справе №“ паказваецца нумар справы народнага суда і кароткае азначэньне назвы народнага суда, напрыклад,— „Н. С. I вуч.“

§ 12. Павестка № 9 запаўняецца наступным чынам:

а) пасьля слоў „спагнаць з гр...“ паказваецца прозьвішча, імя і імя па бацьку даўжніка;

б) пасьля слоў „у карысьць“—прозьвішча, імя і імя па бацьку спагнальніка і далей—сума спагнаньня, а калі сума гэтая вызначана, як некаторая доля заработнай платы, напр., па справах аб алімэнтах, то словы „ . . . . руб. . . . . кап.“ закасоўваюцца, а замест іх паказваецца доля заработнай платы, напр.,—„1/3 заработнай платы“;

в) пасьля слоў „не пазьней“ паказваецца дзень, месяц і год;

г) пасьля слоў „апроч дзяржаўнага мінімуму ў суме“ паказваецца лічбаю сума-дзяржаўнага мінімуму;

д) пасьля слоў „у карысьць спагнальніка“ паказваецца доля штомесячнага ўтрыманьня з заработнай платы;

е) пасьля слоў „грошы $\frac{\text{выдаваць}}{\text{пасылаць}}$“ адзначаецца, як трэба выдаваць грошы—асабіста спагнальніку або па пошце: калі асабіста, то паказваецца „спагнальніку“, а калі па пошце, то паказваецца адрэс спагнальніка;

ж) усё іншае ў гэтай форме запаўняецца таксама, як і іншыя формы павестак.

§ 13. Павестка па форме № 10, з прапановаю выканаць пастанову або судовы загад, запаўняецца наступным парадкам:

а) пасьля слоў „на падставе“ паказваецца „пастановы“ або „загаду“;

б) пасьля слова „Народнага Суда“ адзначаецца назва народнага суда і дата вынясеньня пастановы або загаду;

в) пасьля слоў „прапануе Вам у...“ паказваецца тэрмін выкананьня, напр., „сямідзённы“.

г) далей паказваецца сутнасьць прапановы судовага выканаўца;

д) пасьля слоў „калі паказанае ня будзе выканана...“ коротка паказваюцца вынікі невыкананьня прапановы судовага выканаўца (напр., арышт маемасьці, прымусовае высяленьне і інш.).

§ 14. Паведамленьне аб атрыманьні закрытых судовых лістоў (форма № 11) запаўняецца таксама, як і паведамленьне аб атрыманьні павестак, з тою толькі розьніцаю, што пасьля слоў „ліст з...“ паказваецца назва дакумэнтаў, якія ўкладзены ў канвэрт.

Паведамленьне аб атрыманьні прыклейваецца праклеенаю паласою да ліста і, калі аддаецца ліст, адрываецца па лініі пунктыру.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Я. Бутар.**

21 жніўня 1928 г., № 73.

---

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Арганізацыйнага Аддзелу Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

### пра правядзеньне і парадак выбараў народных засядаталяў на 1929 год.

*Усім акруговым выканаўчым камітэтам. Копія акруговым судом.*

Паводле пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 23 жніўня 1928 г. (газэта „Савецкая Беларусь“ № 196 за 1928 г.) перавыбары дзейнага складу народных засядаталяў будуць праводзіцца з 1 кастрычніка да 1 лістапада 1928 г.

Перавыбары народных засядаталяў даюць магчымасьць прыцягнуць увагу да іх шырокіх мас працоўных і гэты момант павінен быць поўнасьцю скарыстаны для азнаямленьня насельніцтва з працаю судовых органаў, з задачамі суда і з асновамі рэвалюцыйнай законнасьці, ажыцьцяўленьне якой астаецца аднэю з першачарговых задач Савецкай улады.

Удзел народных засядаталяў у судовай працы мае вельмі важнае значэньне ня толькі ў сэнсе забясьпечаньня судовых органаў цьвёрдаю клясаваю правасьвядомасьцю, але і ў тым сэнсе, што ён робіць з народных засядаталяў праваднікоў асноў рэвалюцыйнай законнасьці сярод шырокіх мас працоўных, з якімі яны штодзённа зьвязаны ў сваёй працы і жыцьці.

Асаблівае значэньне набывае ўдзел у судовай працы, праз выбары ў народныя засядаталі, жанчын з складу работніц і сялянак, якія раней, да Кастрычнікавай рэвалюцыі, былі пазбаўлены правоў прымаць удзел у працы дзяржаўных устаноў.

Трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на сваечасовае правядзеньне выбараў народных засядаталяў на 1929 год, каб сваечасова забясьпечыць судовыя органы народнымі засядаталямі, а таксама каб даць усім органам юстыцыі магчымасьць сваечасова разгарнуць працу сярод народных засядаталяў праз арганізацыю сыстэматычных заняткаў з імі ў найбольш зручны зімовы пэрыяд часу.

Гэтыя заняткі маюць на мэце ня толькі падвысіць кваліфікацыю народных засядаталяў, якія ў значнай сваёй частцы выклікаюцца да выкананьня сваіх абавязкаў беспасрэдна ад сахі і варштату і ня могуць здавальняюча выконваць гэтыя абавязкі без набыцьця патрэбных ведаў у розных галінах права, але і ўзмоцніць клясавую правасьвядомасьць сярод працоўных.

З гэтае прычыны своечасовае правядзеньне кампаніі па выбарах народных засядаталяў набывае выключна важнае значэньне, бо, як паказала практыка мінулых гадоў, зацяжка кампаніі, у некаторых выпадках да самай вясны, даводзіць да поўнага зрыву працу органаў юстыцыі сярод народных засядаталяў.

Бяручы пад увагу паказанае вышэй, Народны Камісарыят Юстыцыі і Арганізацыйны Аддзел Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту просяць прыняць да ведама, кіраваньня і выкананьня наступнае:

1. Перавыбарную кампанію народных засядаталяў на 1929 год пачаць з 1 кастрычніка 1928 году і скончыць яе не пазьней 1 лістапада 1928 г. з тым, каб да 1 сьнежня 1928 году ўсе судовыя ўстановы былі забясьпечаны новымі сьпісамі народных засядаталяў і каб з 1-га студзеня 1929 году яны маглі пачаць выклік народных засядаталяў паводле новых сьпісаў.

2. Выбары, складаньне і зацьверджаньне сьпісаў народных засядаталяў на 1929 год павінны быць зроблены ў строгай адпаведнасьці з інструкцыяю Народнага Камісарыяту Юстыцыі, узгодненаю з Арганізацыйным Аддзелам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту за 23 красавіка 1928 году № 51.

3. Для складаньня сьпісу народных засядаталяў, у адпаведнасьці з патрабаваньнем п. 6 адзначанай вышэй інструкцыі, зараз-жа пасьля атрыманьня гэтага арганізаваць акруговыя і раённыя камісіі па перавыбарах і складаньні сьпісаў народных засядаталяў у складзе асоб, паказаных у п. п. 7 і 8 той-жа інструкцыі, і ўскласьці на гэтыя камісіі правядзеньне самой кампаніі, а таксама і ўсю папярэднюю працу па яе падрыхтоўцы.

4. Беспасрэднае правядзеньне выбараў народных засядаталяў ускласьці на фабрычна-заводзкія камітэты, мясцовыя камітэты, сельскія саветы, вайсковыя часьці і аб‘яднаньні саматужнікаў.

*Увага.* Усе ўтрыманцы рабочых, гэта зн. жонкі і іншыя асобы, якія знаходзяцца на матар‘яльным забясьпечаньні рабочых і якія ня зьвязаны беспасрэдна з вытворчасьцю і не зьяўляюцца членамі прафэсіянальных саюзаў, але маюць права голасу пры выбарах у саветы, удзельнічаюць у выбарах народных засядаталяў або разам з рабочымі адпаведных прадпрыемстваў, або на самастойных сходах.

5. Пры разьмеркаваньні патрэбнага ліку народных засядаталяў і кандыдатаў да іх для кожнага сьпісу па прадпрыемствах, установах, арганізацыях, сельскіх саветах і вайсковых часьцях, а таксама пры выбары і складаньні сьпісаў народных засядаталяў, трэба, у адпаведнасьці з патрабаваньнем п. 10 памянёнай вышэй інструкцыі № 51, зьвярнуць увагу на тое, каб выбранымі былі асобы, якія маюць цьвёрдую клясавую правасьвядомасьць, з складу рабочых, служачых і саматужнікаў, бядняцкіх і серадняцкіх пластоў сялянства, пры гэтым трэба забясьпечыць павялічэньне колькасьці рабочых у гарадох і мястэчках, а на вёсцы—бядняцкіх і серадняцкіх пластоў сялянства, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на павялічэньне колькасьці выбраных на вёсцы батракоў, сельска-гаспадарчых рабочых і беднякоў, а ў мястэчках—на

прыцягненьне да выбараў саматужнікаў, якія маюць права голасу пры выбарах у саветы.

6. Зьвярнуць увагу на тое, каб выбарамі народных засядаталяў былі ў поўнай меры забясьпечаны інтарэсы нацыянальных меншасьцяй, праз складаньне адпаведных сьпісаў народных засядаталяў для нацыянальных камэр народных судоў і нацыянальных складаў акруговых судоў.

7. Ужыць захады да таго, каб выбары прайшлі пры самым шырокім і актыўным удзеле ўсіх працоўных—рабочых, сялян, чырвонаармейцаў, служачых і саматужнікаў, якія маюць права голасу пры выбарах у саветы, і каб у выбарах народных засядаталяў таксама прынялі шырокі ўдзел і былі выбраны ў значнай колькасьці жанчыны—працаўніцы, жонкі рабочых і сялянкі з бядняцкіх і серадняцкіх пластоў сялянства, лік якіх у існуючым складзе народных засядаталяў зьяўляецца нездавальняючым.

8. Ужыць захады да таго, каб на выбарных сходах рабочых, сялян, чырвонаармейцаў і іншых груп выбаршчыкаў, у гарадох і на вёсцы, на прадпрыемствах і ўстановах, арганізацыях, вайсковых часьцях і сельскіх саветах, перад выбарамі народных засядаталяў былі выслуханы даклады працаўнікоў юстыцыі, а таксама народных засядаталяў на тэмы: аб правох і абавязках народных засядаталяў, аб значэньні іх удзелу ў судзе, аб працы суду і самых народных засядаталяў (з тэю, аднак, умоваю, каб ня была абвешчана таямніца судовай нарады па асобных справах), аб рэвалюцыйнай законнасьці і гэтак далей, і каб дакладчыкам была зроблена ўсякая дапамога ў пастаноўцы імі адзначаных дакладаў.

9. Каб прыцягнуць увагу шырокіх мас працоўных да выбараў народных засядаталяў, трэба ўжыць захады да своечасовага асьвятленьня ў мясцовым і цэнтральным друку ходу перавыбарнай кампаніі і галоўных яе момантаў.

10. Для своечасовага і найбольш здавальняючага правядзеньня адзначанай кампаніі, трэба даручыць акруговым і раённым камісіям па перавыбарах і складаньні сьпісаў народных засядаталяў распрацаваць пляны кампаніі, узгадніўшы адпаведныя пытаньні з акруговымі і народнымі судамі і прафэсіянальнымі органамі, і аддаць па акрузе ўсе патрэбныя распараджэньні з тым, каб кампанія па перавыбарах была пачата і скончана ў тэрміны, паказаныя ў п. 1 гэтага абежніку.

11. Складзеныя ў паказаным вышэй парадку пляны павінны быць загадзя паведамлены адпаведным калектывам выбаршчыкаў і судом.

12. Прыблізная колькасьць народных засядаталяў, патрэбных для акруговых судоў на 1929 год, пры гэтым таксама дадаецца.

13. Пасьля сканчэньня перавыбарнай кампаніі да 1 студзеня 1929 г. у Народны Камісарыят Юстыцыі павінна быць падана справаздача аб ходзе перавыбараў, аб дасягнутых выніках і падрабязныя зьвесткі аб складзе народных засядаталяў, паводле формы, дадаанай да гэтага абежніку.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **Я. Бутар.**

Загадчык Арганізацыйнага Аддзелу Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **Файнбург.**

29 жніўня 1928 г.,
№ 75.

*Дадатак 1.*

## Прыблізная колькасьць народных засядаталяў, патрэбных для акруговых судоў на 1929 год.

| Назва акруговых судоў і тэрыторый, для якіх павінны быць складзены сьпісы народных засядаталяў | НАЗВА СЬПІСАЎ | Колькасьць патрэбных сьпісаў | Колькасьць патрэбных народных засядаталяў для кожн. сьпісу | Агульная колькасьць патрэбных народных засядаталяў | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|
| **1. Аршанскі Акруговы Суд** | | | | | |
| а) для г. Воршы: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . | 1 | 250 | 250 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крым. і грамадзянскіх спраў . | 1 | 60 | 60 | |
| б) для раёнаў: | Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў на кожны раён. | 14 | 10 | 140 | Для выязных сэсій акругова суда |
| Усяго для Аршанскага Акруговага Суда 16 сьпісаў на 450 чалавек. | | | | | |
| **2. Бабруйскі Акруговы Суд** | | | | | |
| а) для г. Бабруйску: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 200 | 200 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымін. і грамадзянскіх спраў . | 1 | 100 | 100 | |
| б) для г. Слуцку: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 80 | 80 | Для выязных сэсій акругова суда |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымін. і грамадз. спраў . . | 1 | 50 | 50 | |
| в) для раёнаў: | Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 13 | 10 | 130 | |
| Усяго для Бабруйскага Акруговага Суда 17 сьпісаў на 560 чалавек. | | | | | |
| **3. Віцебскі Акруговы Суд** | | | | | |
| а) для г. Віцебску: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 300 | 300 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . . . . | 1 | 60 | 60 | |
| | 3) Нацыянальны латыскі для разгляду крымін. і грамадзянскіх спраў . | 1 | 40 | 40 | |
| б) для раёнаў: | Агульны для разгляду крым. і грам. спраў на кожны раён . . . | 11 | 10 | 110 | Для выязных сэсій акругова суда |
| Усяго для Віцебскага Акруговага Суда 14 сьпісаў на 510 чалавек. | | | | | |

| Назва акруговых судоў і тэрыторый, для якіх павінны быць складзены сьпісы народных засядаталяў | НАЗВА СЬПІСАЎ | Колькасьць патрэбных сьпісаў | Колькасьць патрэбных народных засядаталяў для кожн. сьпісу | Агульная колькасьць патрэбных народных засядаталяў | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|
| **4. Гомельскі Акругові Суд** | | | | | |
| а) для г. Гомелю: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 300 | 300 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . . . . . | 1 | 60 | 60 | |
| б) для г. Рэчыцы: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . | 1 | 60 | 60 | Для выязных сэсій акругавага суда |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . . . . . | 1 | 25 | 25 | |
| в) для раёнаў: | Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў на кожны раён . | 11 | 10 | 110 | |
| Усяго для Гомельскага Акругавага Суда 15 сьпісаў на 555 чалавек. | | | | | |
| **5. Магілеўскі Акругові Суд** | | | | | |
| а) для г. Магілева: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 250 | 250 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . . . . . | 1 | 60 | 60 | |
| | 3) Нацыянальны польскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . | 1 | 40 | 40 | |
| б) для г. Клімавічы: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 60 | 60 | Для выязных сэсій акругавага суда |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . . . . . | 1 | 20 | 20 | |
| в) для раёнаў: | Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў на кожны раён . | 16 | 10 | 160 | |
| Усяго для Магілеўскага Акругавага Суда 21 сьпіс на 590 чалавек. | | | | | |
| **6. Мазырскі Акругові Суд** | | | | | |
| а) для г. Мазыра: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 250 | 250 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . . . . . | 1 | 60 | 60 | |
| б) для раёнаў: | Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў на кожны раён . | 10 | 10 | 100 | Для выязных сэсій акругавага суда |
| Усяго для Мазырскага Акругавага Суда 12 сьпісаў на 410 чалавек. | | | | | |

| Назва акруговых судоў і тэрыторый, для якіх павінны быць складзены сьпісы народных засядаталяў | НАЗВА СЬПІСАЎ | Колькасьць патрэбных сьпісаў | Колькасьць патрэбных народных засядаталяў для кожн. сьпісу | Агульная колькасьць патрэбных народных засядаталяў | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|
| **7. Менскі Акруговы Суд** | | | | | |
| а) для г. Менску: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . | 1 | 300 | 300 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . . . . | 1 | 60 | 60 | |
| | 3) Нацыянальны польскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . | 1 | 40 | 40 | |
| б) для г. Барысава: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 140 | 140 | Для выязных сэсій акругавага суда |
| | 2) Нацыянальны польскі для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . | 1 | 50 | 50 | |
| в) для раёнаў: | Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў на кожны раён . | 17 | 10 | 170 | |
| Усяго для Менскага Акруговага Суда 22 сьпісы на 760 чалавек. | | | | | |
| **8. Полацкі Акруговы Суд** | | | | | |
| а) для г. Полацку: | 1) Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў . . . | 1 | 250 | 250 | |
| | 2) Нацыянальны яўрэйскі для разгляду крымінальных і грам. спраў . | 1 | 60 | 60 | |
| б) для раёнаў: | Агульны для разгляду крымінальных і грамадзянскіх спраў на кожны раён . | 9 | 10 | 90 | |

Усяго для Полацкага Акруговага Суда 11 сьпісаў на 400 чалавек.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **Я. Бутар.**

*Дадатак 2.*

## Зьвесткі аб складзе народных засядаталяў.

| НАЗВА ГРУП НАРОДНЫХ ЗАСЯДАТАЛЯЎ. | Агульная колькасьць выбраных народных засядаталяў | У тым ліку. | | Па партыйнасьці | | | | Па сацыяльн. станов. ў сучасны момант | | | | | Па асьвеце | | | | | Па нацыянальнасьці | | | | | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Мужчын | Жанчын | Членаў КПБ | Кандыдатаў у члены КПБ | Членаў ЛКСМБ | Беспартыйных | Рабочых | Сялян | Чырвонаармейцаў | Служачых | і г. д. | Няграматных | Малаграматных | Ніжэйшая | Сярэдняя | Вышэйшая | Беларусаў | Вялікарусаў | Яўрэяў | Палякаў | Латышоў | Іншых | |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | |
| Для акруговага суда: | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| а) у акруговых гарадох . . . | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| б) у раёнах . . | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Для народных судоў: | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| а) у акруговых гарадох . . . | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| б) у раёнах . . | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Разам . . | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

**Увага.** У гр. гр. з 4 да 23 уключна лічбы паказвэюцца дробам, пры чым лічнік абазначае колькасьць мужчын, а назоўнік—колькасьць жанчын. У гр. гр. павінны быць, апроч паказаньня абсалютных лічбаў, уключаны процантавыя адносіны падгрупы да агульнай колькасьці народных засядаталяў.

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра захады да правядзеньня кампаніі па перавыбарах народных засядаталяў на 1929 год і пра працу па праўнай іх асьвеце

*Усім старшыням акруговых судоў; копіі акруговым пракурорам.*

У зьвязку з пастановаю Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 23 жніўня 1928 г. аб перавыбарах народных засядаталяў і ў разьвіцьцё абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Арганізацыйнага Аддзелу ЦВК за 29 жніўня 1928 г., № 75, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе выконваць наступнае:

1. Ужыць усе залежныя ад акруговых судоў захады да своечасовага правядзеньня кампаніі па перавыбарах народных засядаталяў на 1929 год і да падрыхтоўкі гэтай кампаніі ў адпаведнасьці з тэрмінам, вызначаным паказанаю вышэй пастановаю Прэзыдыуму ЦВК БССР.

2. Зараз-жа ўвайсьці ў зносіны з акруговымі выканаўчымі камітэтамі аб арганізацыі пры іх і пры раённых выканаўчых камітэтах камісій па перавыбарах і складаньні сьпісаў народных засядаталяў на 1929 год. Склад камісіі павінен адпавядаць патрабаваньням арт. арт. 25 і 28 Палажэньня аб судабудаўніцтве.

3. Ужыць захады да таго, каб органы юстыцыі рабілі ўсялякую дапамогу акруговым і раённым камісіям у падрыхтоўцы, а таксама ў правядзеньні кампаніі па перавыбарах народных засядаталяў, праз актыўны ўдзел ў распрацоўцы плянаў кампаній і асьвятленьне ў мясцовым друку галоўных момантаў і ходу кампаніі.

4. Прыцягнуць да ўдзелу ў кампаніі дакладчыкамі на сходах выбаршчыкаў усіх працаўнікоў юстыцыі—суду, сьледзтва, пракуратуры і калегіі абаронцаў, а таксама паасобных народных засядаталяў і членаў юрыдычных гурткоў, якія не зьяўляюцца працаўнікамі юстыцыі.

5. Пры вызначэньні колькасьці сьпісаў і колькасьці народных засядаталяў і кандыдатаў да іх для акруговых судоў кіравацца інструкцыяю Народнага Камісарыяту Юстыцыі ўзгаднёнаю з Арганізацыйным Аддзелам ЦВК па выбарах і складаньні сьпісаў народных засядаталяў за 28 красавіка 1928 году № 51 і далучаным да абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Арганізацыйнага Аддзелу ЦВК за 29 жніўня г/г. № 75 на імя ўсіх акруговых выканаўчых камітэтаў прыблізным разьлікам колькасьці народных засядаталяў.

6. Трэба зьвярнуць увагу на тое, каб пасьля сканчэньня перавыбарнай кампаніі ў Народны Камісарыят Юстыцыі была своечасова пададзена справаздача.

7. Апроч таго акруговыя суды павінны падаць у Народны Камісарыят Юстыцыі справаздачу, у якой павінна быць адзначана: а) як скарыстаны судамі сьпісы дзейнага складу народных засядаталяў за ўвесь пэрыяд іх паўнамоцтваў, на працягу 1927 і 1928 г.г., б) адносіны народных засядаталяў да паасобных катэгорый спраў, в) ці былі выпадкі, каб народныя засядаталі аставаліся пры асобнай думцы і як часта і па якіх пытаньнях, г) аб працы па праўнай асьвеце народных засядаталяў. Пры гэтым Народны Камісарыят Юстыцыі лічыць патрэбным адзначыць невыкананьне большасьцю акруговых судоў патрабаваньняў абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі № 111 за 1927 г. аб справаздачнасьці па рабоце сярод народных засядаталяў.

8. Пасьля перавыбараў арганізаваць у акруговых гарадох і ў раёнах заняткі з народнымі засядаталямі, у адпаведнасьці з дырэктывамі, якія былі дадзены НКЮ ў таварыскім лісьце на імя старшыняў акруговых судоў за 3 лютага 1927 г. № 3, і па праграме, якая далучана

да абежнікаў Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 5 лістапада 1926 г. № 140 і за 14 сьнежня 1927 году № 111, у поўнай меры скарыстаўшы для гэтых заняткаў зімовы пэрыяд часу і працягнуўшы да гэтай працы ўсіх працаўнікоў органаў юстыцыі, а таксама паасобных членаў юрыдычных гурткоў, якія не зьяўляюцца працаўнікамі юстыцыі.

9. Для найбольш плянавага правядзеньня заняткаў па праўнай асьвеце народных засядаталяў, старшыні акруговых судоў павінна запрапанаваць народным судом скласьці плян гэтых заняткаў у раёнах і самім скласьці гэты плян для абслугоўваньня ўсіх народных засядаталяў акруговага гораду.

10. Устанавіць нагляд за выкананьнем намечанага пляну правядзеньня заняткаў сярод народных засядаталяў, праз праверку пры рэвізіях, абсьледваньнях, дакладах народных судзьдзяў, а таксама завесьці дакладны падлік гэтай працы.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **Я. Бутар.**

31 жніўня 1928 г.,
№ 76.

---

## 4. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра парадак выдачы грамадзянам СССР агульна-грамадзкіх замежных пашпартоў і віз для чужаземцаў.

Выдана на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 5 чэрвеня 1925 г. „Аб прыезьдзе на абшары СССР і аб выезьдзе за межы Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік" (Дадатак № 1) і пастановы ЦВК і СНК БССР за 24 ліпеня 1925 году (Дадатак № 2).

**I. Агульны парадак падачы заяў.**

1. Грамадзяне СССР і чужаземцы, якія жадаюць выехаць за граніцу, павінны падаць аб гэтым заяву беспасрэдна ў адміністрацыйны аддзел акруговага выканаўчага камітэту па месцы свайго пражываньня. Асобы, якія маюць 16 гадоў, павінны падаць асобную заяву і дакумэнты, якія патрабуюцца гэтаю інструкцыяю. Асобы, якія яшчэ ня маюць 16 гадоў, упісваюцца ў заявы асоб, з якімі яны едуць за граніцу. Заявы на выезд асоб, якія яшчэ ня маюць 16 гадоў і якія выяжджаюць самастойна, падаюцца іх бацькамі або апякунамі, да заяў абавязкова дадаюцца дакумэнты аб веку і фатаграфічныя карткі.

*Увага.* На дзяцей, якія ня маюць яшчэ 4 гадоў, фатаграфічных картак можна і не падаваць.

2. Заявы аб выдачы дазволаў на выезд за граніцу прымаюцца адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых выканаўчых камітэтаў пад квіток (Дадатак № 3), у якім паказваецца, калі заяўнік можа зьявіцца за адказам. Даведкі аб паданай заяве выдаюцца пасьля паказаньня квітка. Пры дачы канчатковага адказу квіток забіраецца. Аб страце квітка павінна быць заяўлена ў адміністрацыйны аддзел акруговага выканаўчага камітэту па месцы выдачы яго. Адміністрацыйныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў не пазьней як праз тры дні пасьля атрыманьня ад грамадзян СССР і не пазьней наступнага дня—ад чужаземцаў, перасылаюць атрыманыя заявы ў чужаземную частку НКУС.

Адказы на паданыя заявы аб выдачы дазволаў на выезд за граніцу выдаюцца адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых выканаўчых камітэтаў у наступныя тэрміны: грамадзянам СССР, якія заўсёды жывуць па месцы падачы заявы, ад 10 да 20 дзён; грамадзянам СССР,

якія не зьяўляюцца сталымі жыхарамі, тэрміны могуць быць павялічаны да $1^1/_2$ месяца, і для чужаземцаў—ад 2 да 10 дзён.

*Увага 1.* У паказаныя тэрміны павінен быць уключан час, патрэбны для перасылкі дакумэнтаў.

*Увага 2.* Чужаземцы могуць заявы аб выдачы віз на выезд беспасрэдна падаваць у Чужаземную Частку НКУС, калі яны маюць пасьведчаньні (Дадатак № 4) аб тым, што няма перашкод на выезд.

3. Асобы, якія атрымалі дазвол на выезд за граніцу (агульна-грамадзянскія замежныя пашпарты, або візы) і страцілі іх да выезду з абшараў СССР, могуць падаваць заявы аб выдачы новага дазволу на выезд толькі пасьля выкананьня правілаў, прадугледжаных інструкцыяю НКУС за 26 сакавіка 1927 году № 57 (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 7). Аб страце павінна быць зараз-жа падана адпаведная заява ў НКУС праз адміністрацыйны аддзел акругавага выканаўчага камітэту.

**II. Дакумэнты, якія падаюцца чужаземцамі і парадак атрыманьня віз.**

4. Чужаземцы падаюць заявы паводле ўстаноўленнай для іх формы (Дадатак № 6) у адным экзэмпляры.

Да заявы павінны быць прыкладзены:

а) нацыянальны пашпарт, а для асоб, якія заяўляюць сябе чужаземцамі, іншыя чужаземныя дакумэнты;

б) адна фатаграфічная картка, калі такая ўжо ёсьць на нацыянальным пашпарце, а калі яе няма на пашпарце, то дзьве фатаграфічных карткі;

в) квіток скарбовай часткі або агэнцтва Дзяржаўнага Банку аб выплаце збору, што бярэцца на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 6 красавіка 1926 г. (Дадатак № 8) і інструкцыі Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР за 9 лістапада 1926 году № 12.

*Увага.* Пры падачы нацыянальнага пашпарту, або іншых дакумэнтаў для накладаньня візы, пасьведчаньне на пражываньне аддзяляецца адміністрацыйным аддзелам акругавага выканаўчага камітэту і зварочваецца чужаземцу з адпаведнаю адзнакаю. (Дадатак № 9).

5. Чужаземцы, якія камандыруюцца за граніцу дзяржаўнымі ўстановамі і грамадзкімі арганізацыямі СССР, апроч падачы дакумэнтаў, паказаных у арт. 4, выконваюць правілы, устаноўленыя для камандыраваных грамадзян СССР, паводле арт. 13 гэтай інструкцыі.

6. Чужаземцы, якія хадайнічаюць аб выезьдзе, павінны падаваць заявы, а таксама атрымоўваць адказ на іх асабіста; у выключных выпадках могуць падавацца заявы, а таксама атрымоўвацца адказы ня імі асабіста, а асобамі, якія маюць натарыяльна пасьведчаныя давераннасьці, або супрацоўнікамі чужаземнага пасольства ці консульства адпаведнай дзяржавы, афіцыйна на гэта ўпаўнаважанымі гэтым пасольствам або консульствам.

Чужаземцы, якія выяжджаюць па прыватных справах, апроч дакумэнтаў, паказаных у арт. 4, падаюць дакумэнты, прадугледжаныя літ. „а“, „б“, „в“, „г“ і „д“ арт. 14, як і грамадзяне СССР.

*Увага.* Асобы, якія заяўляюць сябе чужаземцамі, калі яны выяжджаюць за граніцу, падаюць дакумэнты, як і грамадзяне СССР (арт. арт. 12, 13, 14), і, апроч таго, свае нацыянальныя дакумэнты.

7. Для чужаземцаў дазволам на выезд з абшараў СССР зьяўляецца віза, якая накладаецца на іх нацыянальным пашпарце (Дада-

так № 10). Пры накладаньні і запаўненьні тэксту візы выконваюцца наступныя правілы:

а) калі ў адзін нацыянальны пашпарт упісана некалькі асоб, дык на ім накладаецца толькі адзін штамп візы, у якой пералічваюцца ўсе асобы, якія едуць з уласьнікам пашпарту;

б) у залежнасьці ад жаданьня заяўніка, у візе могуць быць паказаны адзін, або некалькі кантрольна-прапускных пагранічных пунктаў, з ліку абвешчаных у дадатку № 11.

*Увага 1.* Аптантам віза накладаецца на аптацыйным дакумэнце, выданым прадстаўніцтвам, або консульствам дзяржавы, грамадзянства якой яны аптавалі.

Аптацыйныя пасьведчаньні, выданыя НКУС БССР, а таксама адміністрацыйнымі аддзеламі іншых саюзных рэспублік, пакідаюцца ў справах Чужаземнай Часткі НКУС БССР.

*Увага 2.* Рэпатрыянтам віза накладаецца на дакумэнтах, выданых прадстаўніцтвам, або консульствам іх дзяржавы. Дакумэнты (білеты ўцекача, пасьведчаньне асобы грамадзян СССР і іншыя) пакідаюцца ў справах Чужаземнай Часткі НКУС.

*Увага 3.* Асобам, якія заяўляюць себя чужаземцамі і няmaюць нацыянальных пашпартоў, віза выдаецца на асобным аркушы (Дадатак № 12). Чужаземныя дакумэнты гэтых асоб прыкладаюцца да гэтай візы. Такая самая віза выдаецца і тады, калі ў нацыянальным пашпарце няма месца, каб накласьці візу, або няма фатаграфічнай карткі.

8. Чужаземцы і асобы, якія заяўляюць себя чужаземцамі, аптанты і рэпатрыянты, якія атрымалі візы на выезд, павінны выехаць з абшараў СССР у тэрмін, паказаны ў візе. Тэрмін гэты ня можа быць большым месяца.

*Увага.* Калі ёсьць важныя прычыны (хвароба і інш.), то асобам, паказаным у гэтым разьдзеле, на падставе іх пісьмовага хадайніцтва, тэрмін візы можа быць адкладзены. На нацыянальных пашпартох або на іншых чужаземных дакумэнтах Чужаземнаю Часткаю НКУС накладаецца штамп (Дадатак № 13).

9. Пры выдачы візы на выезд, пасьведчаньне на пражываньне пакідаецца ў справах адміністрацыйнага аддзелу акруговага выканаўчага камітэту. Выязная віза ў форме штампу на нацыянальным пашпарце, або на іншых чужаземных дакумэнтах, а таксама віза, якая выдаецца на асобным аркушы, замяняюць пасьведчаньне на пражываньне на працягу тэрміну іх дзеяньня.

10. У выключных выпадках адначасна з візаю на выезд чужаземцам можа быць выдана віза на зваротны ўезд у СССР, а таксама віза на пэрыядычную паездку ў СССР. Візы гэтыя выдаюцца на тэрмін ня больш 2-х месяцаў. (Дадаткі №№ 14 і 15).

### III. Дакумэнты, якія падаюцца грамадзянамі СССР.

11. Разам з заяваю аб выдачы дазволу на выезд за граніцу, паводле арт. 1 гэтай інструкцыі, грамадзяне СССР мужчыны павінны падаваць і падлічальна-вайсковыя дакумэнты з адзнакаю аб зьняцьці іх з падліку з прычыны выезду за граніцу, або дакумэнты, якія іх замяняюць. Дакумэнты гэтыя пасьля праверкі аддаюцца назад падаўцу.

12. Грамадзяне СССР падаюць заявы паводле ўстаноўленай для іх формы (Дадатак № 5) у адным экзэмпляры.

Да заявы павінны быць прыкладзены наступныя дакумэнты:

а) квіток скарбовай часткі, або агэнцтва Дзяржаўнага Банку аб выплаце збору, які бярэцца паводле пастановы ЦВК і СНК СССР з

6 красавіка 1926 году (Дадатак № 8) і інструкцыі Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР № 12 за 9 лістапада 1926 году;

б) дзьве фатаграфічныя карткі.

*Увага.* Асобы, якія падаюць фатаграфічныя карткі для атрыманьня агульна-грамадзянскага пашпарту, павінны быць сфатаграфаваны без капелюша і „анфас" (увесь твар), прычым здымак павінен быць выразны і з подпісам на першай старонцы сфатаграфаванай асобы.

13. Заявы грамадзян СССР, якія камандыруюцца за граніцу дзяржаўнымі ўстановамі, або грамадзкімі арганізацыямі СССР, падаюцца не асабіста, а ўстановамі, якія іх камандыруюць. Адказы на заявы таксама даюцца ў такім самым парадку.

Да заявы асобы, якая камандыруецца, апроч дакумэнтаў, паказаных у арт. 12, павінны быць даданы:

а) копія камандыровачнага дакумэнту;

б) даведка ад адміністрацыі ўстановы, у якой паказаны адносіны да сакрэтнай перапіскі асобы, якая камандыруецца ўстановаю;

в) даведка ад адміністрацыі ўстановы аб тым, што за асобаю, што выяжджае, ня лічыцца падаткаў;

г) служачыя, якія адначасна зьяўляюцца асобамі вольных прафэсій, апроч таго, павінны падаваць даведкі грашовых органаў аб выплаце ўсіх падаткаў і збораў;

д) калі камандыруюцца асобы па справах замежнага гандлю, то трэба падаць згоду Народнага Камісарыяту Гандлю ў парадку і паводле формы, устаноўленай інструкцыяю Савету Працы і Абароны за 18/IV—23 г. (Дадатак № 16).

*Увага 1.* З заяваю павінен быць паданы арыгінал камандыровачнага дакумэнту. Камандыровачны дакумэнт тады зьяўляецца сапраўдным, калі ён падпісан народным камісарам, або яго намесьнікам, а на мясцох—начальнікам установы, які атрымаў ад адпаведнага народнага камісара права камандыроўкі супрацоўнікаў за граніцу.

*Увага 2.* Камандыроўка на ўласныя сродкі выяжджаючага, а таксама прыватных устаноў і арганізацый разглядаецца як асабістая паездка заяўніка.

*Увага 3.* Адміністрацыйныя аддзелы, калі гэта трэба, могуць запрашаць асобу, якая камандыруецца, для асабістых аб'ясьненьняў.

14. Грамадзяне СССР, якія выяжджаюць за граніцу па асабістых справах (за ўласны кошт), павінны асабіста падаць заяву і атрымаць адказ на яе. У выключных выпадках, з папярэдняга дазволу адміністрацыйнага аддзелу акруговага выканаўчага камітэту з яго адказнасьцю, дазваляецца прымаць заявы і выдаваць на іх адказы не асабіста, а па паданьні натарыяльна пасьведчанай даверанасьці, выдадзенай іншым асобам.

Агульнаграмадзянскія замежныя пашпарты выдаюцца толькі асабіста іх уласьнікам. Як выключэньне, пашпарты могуць быць выдадзены сваякам па паданьні натарыяльна пасьведчанай даверанасьці. Непаўналетнім пашпарты выдаюцца іх бацькам, або апякунам.

Апроч пералічаных у арт. 12 дакумэнтаў, да заявы павінны быць прыкладзены:

а) грамадзянскі пашпарт, або дакумэнт, які яго заменяе;

б) даведка аб занятках і часе пражываньня ў апошнім адрасе, якія выдаюцца: у гарадох—органамі міліцыі, а ў сельскіх мясцовасьцях—сельскімі саветамі (Дадатак № 7);

в) даведка аб тым, што за выяжджаючаю асобаю ня лічыцца ніякіх падаткаў: асобам, што жывуць у гарадох,—ад фінансавых органаў, а ў сельскіх мясцовасьцях—ад раённых выканаўчых камітэтаў;

г) для асоб, якія знаходзяцца на службе ў дзяржаўных установах і грамадзкіх арганізацыях,—даведкі, падпісаныя кіраўніком установы, аб тым, што ад установы няма перашкод на выезд за граніцу. У даведцы, апроч таго, павінна быць паказана, якія адносіны мае гэтая асоба да сакрэтнай перапіскі;

д) для мужчын, век і катэгорыі якіх прадугледжаны арт. арт. 14 і 15 „Палажэньня аб выезьдзе і прыезьдзе“, а таксама правіламі Рэволюцыйна-Ваеннага Савету СССР (Дадатак № 17),—даведкі адпаведнай вайсковай установы аб тым, што няма перашкод на выезд;

е) для асоб, якія знаходзяцца на спэцыяльным падліку (Дадатак № 18),—даведкі аб тым, што яны зьняты адпаведнаю ўстановаю з падліку на час выезду за граніцу;

ж) для асоб, якія выяжджаюць па справах замежнага гандлю,—згода Народнага Камісарыяту Гандлю;

з) асобы, якія выяжджаюць марскім, або мяшаным чыгуначна-марскім шляхам, павінны выконваць правілы, устаноўленыя НКУС у разьвіцьцё пастановы ЎсеЦВК і Савету Працы і Абароны за 9-V-1928 г. (З. З. СССР 1923 г., № 41, арт. 446) Аб манаполіі Саюзфлёту (Дадатак № 19).

**IV. Пра агульнаграмадзянскія замежныя пашпарты.**

15. Для грамадзян СССР дазволам на выезд за граніцу, на пражываньне за граніцаю і на зваротны прыезд на абшары СССР зьяўляецца агульнаграмадзянскі пашпарт устаноўленай формы.

Пры запаўненьні блянку пашпарту захоўваюцца наступныя правілы:

а) у адпаведнасьці з § 1 „Палажэньня аб саюзным грамадзянстве“ (З. З. СССР 1924 г., № 23, арт. 202), у агульнаграмадзянскіх замежных пашпартох паказваецца грамадзянства адпаведнай саюзнай рэспублікі і грамадзянства СССР. Грамадзянства саюзных рэспублік устанаўляецца на падставе запісаў у дакумэнтах грамадзяніна, а калі ў дакумэнтах адпаведных паказаньняў няма, то на падставе яго пісьмовых адказаў на адпаведныя пытаньні ў заяве;

б) у залежнасьці ад жаданьня заяўніка паказваецца адзін або некалькі кантрольна-пагранічных прапускных пунктаў, з ліку абвешчаных у дадатку № 11;

в) у пашпартох асоб, якія камандыруюцца за граніцу дзяржаўнымі ўстановамі, або грамадзкімі арганізацыямі, паказваюцца толькі тыя краіны, у якія яны адпраўляюцца, а таксама, у адпаведнасьці з пастановаю Савету Працы і Абароны за 18-IV-1923 г., мэта паездкі (каротка: „па гандлёвых справах“, „з навуковаю мэтаю“ і інш.);

г) у пашпартох асоб, якія выяжджаюць па асабістых справах, паказваецца: „Выяжджае з абшараў СССР“, не паказваючы краіны куды ўласьнік пашпарту жадае выехаць; па пісьмовай просьбе выяжджаючага паказаньне краіны, куды ён едзе, можа быць зроблена; у пашпартох такіх асоб абавязкова паказваюцца краіны, у якія выезд заяўніку не дазволен.

*Увага.* Да выданьня асобнага загаду грамадзянам СССР не дазваляецца выяжджаць у Румынію і Баўгарыю.

д) у пашпартох асоб, якія выяжджаюць па асабістых справах і па камандыроўках, можа быць, па пісьмовай просьбе і па паданьні адпаведных дакумэнтаў, упісана вучоная назва (напрыклад: прафэсар, член акадэміі навук і г. д.) і пасада па службе.

16. Асобам, якія маюць 16 гадоў, выдаецца асобны агульнагрмадзянскі замежны пашпарт. Асобы, якія яшчэ ня маюць 16 гадоў, ўпісваюцца ў пашпарт мацяры, а калі мацяры няма—у пашпарт бацькі, апякуна, або асобы, з якою яны едуць. Гэтыя асобы таксама могуць атрымаць асобны пашпарт або могуць быць упісаны ў пашпарт іншых асоб толькі па просьбе бацькоў або апякуна. Паказаная просьба павінна быць пасьведчана натарыяльным парадкам.

17. Агульнаграмадзянскі замежны пашпарт выдаецца на 1 год ад дня фактычнага выезду з абшараў СССР.

18. Агульнаграмадзянскі замежны пашпарт правадзейны для прыватных асоб на адну паездку. Кожная асоба, якая атрымала агульнаграмадзянскі замежны пашпарт, павінна выехаць на працягу трох месяцаў ад дня выдачы пашпарту. Асобна на пашпарце паказваецца канчатковы тэрмін выезду (дзень і месяц) уласьніка пашпарту. Адкладаць паказаны вышэй тэрмін не дазваляецца. Уласьнік пашпарту, які ня выехаў у паказаны тэрмін, павінен здаць яго ў Народны Камісарыят Унутраных Спраў у тэрміны і ў парадку, паказаныя ў арт. 21.

Асобы, пашпарт якіх скасаваны на падставе гэтага артыкулу, калі яны пажадаюць выехаць за граніцу, павінны выканаць нанава ўсе патрабаваньні, прадугледжаныя гэтаю інструкцыяю.

*Увага 1.* Правілы, паказаныя ў гэтым артыкуле, не пашыраюцца на асоб, якія камандыруюцца за граніцу дзяржаўнымі ўстановамі або грамадзкімі арганізацыямі. Па матываванай просьбе ўстаноў або арганізацый, якія іх камандыруюць, тэрмін дзеяньня пашпарту можа быць адноўлен.

*Увага 2.* Да сканчэньня тэрміну, устаноўленага гэтым артыкулам, у агульнаграмадзянскім замежным пашпарце Чужаземнаю Часткаю НКУС могуць быць зроблены розныя папраўкі, такія як: прапіска, або зьмена кантрольна-прапускных пунктаў і прыпіска дзяцей. Калі робяцца папраўкі ў пашпарце, то на адвароце яго накладаецца штамп (Дадатак № 20). За кожную папраўку бярэцца консульскі збор ва ўстаноўленым разьмеры (Дадатак № 8).

19. У час дзеяньня тэрміну, паказанага ў арт. 18, агульнаграмадзянскі замежны пашпарт зьяўляецца дакумэнтам, які замяняе пасьведчаньне асобы, а таксама можа служыць дакумэнтам для прапіскі.

20. Агульнаграмадзянскія замежныя пашпарты з непрапушчаным тэрмінам, выданыя паводле ўстаноўленай формы, правадзейны на зваротны прыезд на абшары СССР бяз віз паўнамоцных прадстаўніцтваў або консульстваў СССР за граніцаю.

*Увага.* Замежныя пашпарты, выданыя раней паводле іншых формаў да ўвядзеньня агульнаграмадзянскага пашпарту агульнасаюзнага ўзору, правадзейны на зваротны прыезд толькі тады, калі на іх ёсьць зваротная віза або віза Ўпаўнаважанага Прадстаўніцтва або Консульства СССР за граніцаю.

21. Грамадзяне СССР, якія варочаюцца з заграніцы, павінны, прыбыўшы на месца свайго пражываньня, здаць скарыстаныя агульнаграмадзянскія замежныя пашпарты для перасылкі ў Чужаземную Частку НКУС: асобы, якія жывуць у акруговых гарадох,—у адміністрацыйныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў на працягу трох

дзён, а ў сельскіх мясцовасьцях—у раённыя выканаўчыя камітэты на працягу сямі дзён.

*Увага.* Грамадзяне СССР, якія прыяжджаюць з заграніцы па візах на прыезд, накладзеных на заграпічных пасьведчаньнях на пражываньне, на пасьведчаньнях на зварот у СССР і на эвакуацыйных пасьведчаньнях, павінны здаць памянёныя дакумэнты ў адміністрацыйныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў у тэрміны, устаноўленыя гэтым параграфам, для перасылкі ў Народны Камісарыят Унутраных Спраў.

### V. Іншыя формы дазволаў на выезд для грамадзян СССР.

22. Супрацоўнікам дзяржаўных устаноў або грамадзкіх арганізацый, якія па сваёй службе часта езьдзяць за граніцу і наадварот, могуць быць па пісьмовай просьбе ўстаноў выданы:

а) віза на выезд (Дадатак № 10) і віза на зваротны пырезд (Дадатак № 14) на раней выданым і скарыстаным агульнаграмадзянскім пашпарце;

б) візы на пэрыадычныя пераезды граніцы туды і назад тэрмінам ня больш, як на 6 месяцаў, праз накладаньне асобнага штампу (Дадатак № 15) на агульнаграмадзянскім замежным пашпарце;

в) па просьбе народных камісарыятаў, або ўпаўнаважаных імі на гэта мясцовых устаноў, пэрыадычныя візы, як паказана ў літ. „б", могуць быць выданы на асобных пасьведчаньнях (Дадатак № 21), што выдаюцца ўстановамі, якія камандыруюць супрацоўнікаў.

Паказаныя ў літ. „в" пасьведчаньні могуць выдавацца толькі тым супрацоўнікам, якія абслугоўваюць пагранічныя зносіны, напрыклад: чыгуначным агэнтам, праваднікам вагонаў, паштальёнам для прыйманьня і здачы заграпічнай пошты, агэнтам мытні, рабочым для сплаву лесу і інш.

23. Грамадзяне СССР, якія атрымалі агульна-грамадзянскія замежныя пашпарты для выезду за граніцу па асабістых справах, павінны самі паклапаціцца аб атрыманьні чужаземных віз на прыезд у дзяржаву, куды яны мяркуюць выехаць, і віз дзяржаў, праз якія яны павінны праяжджаць транзітам.

З тае прычыны, што агульнаграмадзянскі замежны пашпарт дае права на выезд за граніцу толькі на працягу трох месяцаў, трэба раіць грамадзянам СССР зварочвацца ў адміністрацыйны аддзел акруговага выканаўчага камітэту за атрыманьнем агульнаграмадзянскага замежнага пашпарту толькі пасьля згоды адпаведнага чужаземнага прадстаўніцтва аб выдачы візы на ўезд. Па просьбе грамадзян СССР, у выключных выпадках для паданьня ў чужаземныя місіі, калі апошнія будуць патрабаваць, можа быць выдана даведка (Дадатак № 24) аб тым, што ім будзе выданы агульнаграмадзянскі замежны пашпарт. Для атрыманьня паказанай даведкі грамадзяне СССР павінны падаць заяву і прылажыць усе дакумэнты, якія патрабуюцца гэтаю інструкцыяю, апроч квітка аб унясеньні збору. Адзначаны квіток павінен быць паданы грамадзянамі тады, калі яны атрымаюць ад чужаземнага прадстаўніцтва згоду на выдачу візы на ўезд.

### VI. Нявыдача і скасаваньне агульнаграмадзянскага замежнага пашпарту.

Заявы могуць быць ня прыняты:

а) калі ня будуць паданы патрэбныя дакумэнты і даведкі—да падачы гэтых дакумэнтаў і даведак;

б) калі заяўнік зварочваецца ў адміністрацыйны аддзел акругова выканаўчага камітэту не па месцы свайго пражываньня.

*Увага 1.* Месцам пражываньня лічыцца той горад або сельская мясцовасьць, якія даная асоба выбрала для сталага пражываньня, і ва ўстаноўленым парадку ў гэтай мясцовасьці прапісалася, калі асоба жыве ў горадзе. Чужаземнай Частцы НКУС даецца права аб кожнай асобе, якая нядаўна пасялілася ў гэтай мясцовасьці, запытаць патрэбныя даведкі па месцы ранейшага яго пражываньня.

*Увага 2.* Для чужаземцаў, якія жывуць на абшарах СССР ня болей 6 месяцаў, месцам пражываньня зьяўляецца той горад або тая мясцовасьць, дзе яны ў апошні раз былі прапісаны.

25. Дазволы на выезд за граніцу могуць быць ня выданы:

а) па матывах агульна-дзяржаўных інтарэсаў і аховы бясьпечнасьці СССР;

б) калі асоба, якая просіць дазволу на выезд, знаходзіцца пад судом або дазнаньнем і адпаведныя органы ўлады не даюць свае згоды на яе выезд за граніцу;

в) калі ня выкананы ўсялякія павіннасьці і падаткі—аж да выкананьня іх.

26. Калі дазвол на выезд за граніцу ня будзе выданы заяўніку, то яму выдаецца даведка (Дадатак № 22) і варочаецца квіток аб спагананьні збору, каб атрымаць гэты збор назад.

27. Атрымаўшы замежны пашпарт з Чужаземнай Часткі НКУС, адміністрацыйны аддзел акруговага выканаўчага камітэту паведамляе заяўніка аб тым, што ён можа зьявіцца атрымаць яго, або перасылае па месцы пражываньня заяўніка для выдачы яму. Калі заяўнік ня зьявіцца за агульнаграмадзянскім замежным пашпартам, або ня выедзе на працягу тэрмінаў, устаноўленых для выезду, то пашпарт варочаецца ў Чужаземную Частку НКУС для скасаваньня. Асобы, пашпарты якіх былі скасаваны або згублены, калі яны падаюць новую заяву аб выдачы ім дазволу, павінны выканаць усе правілы, прадугледжаныя гэтаю інструкцыяю.

### VII. Адказнасьць за парушэньне правілаў, прадугледжаных гэтаю інструкцыяю.

28. Асобы, якія дадуць няправільныя зьвесткі аб сабе ў заявах, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 226-б Крымінальнага Кодэксу 1923 г. Асобы, якія выехалі або прыехалі на абшары СССР без устаноўленага дазволу, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 98 Крымінальнага Кодэксу. Асобы, якія падрабляюць агульнаграмадзянскія замежныя пашпарты, а таксама якія зробяць у пашпартох якіянебудзь папраўкі або зьмены, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 189 Крымінальнага Кодэксу. Асобы, якія ня выканаюць правілаў арт. арт. 18 і 21 гэтай інструкцыі, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку тады, калі даныя пытаньні прадугледжаны абавязковаю пастановаю акруговага выканаўчага камітэту.

### VIII. Выняткі з правілаў, устаноўленых гэтаю іструкцыяю.

29. Гэтыя правілы не пашыраюцца на наступныя катэгорыі асоб, якія атрымоўваюць дазвол на выезд за граніцу ў асобным парадку:

а) на службовы пэрсанал савецкіх і чужаземных чыгунак, які абслугоўвае пагранічныя зносіны і атрымоўвае дазвол на выезд у парадку міжведамственых правілаў Народнага Камісарыяту Шляхоў і Народнага Камісарыяту Чужаземных Спраў;

б) на асоб, якія маюць візу на зваротны выезд з непрапушчаным тэрмінам (Дадатак № 23), выданую Ўпаўнаважаным Прадстаўніцтвам або Консульствам СССР за граніцаю, адначасна з візаю на ўезд.

**IX. Парадак увядзеньня ў дзеяньне гэтай інструкцыі.**

30. Парадак атрыманьня замежнага пашпарту і візы абвяшчаецца адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых выканаўчых камітэтаў у мясцох падачы заяў і ў мясцовых органах друку.

Да агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў грамадзян СССР Чужаземнаю Часткаю НКУС прыкладваюцца адпаведныя правілы з гэтай інструкцыі.

31. Гэта інструкцыя ўваходзіць у сілу з моманту атрыманьня яе на мясцох.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Заг. Чужаземнай Часткі Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР **І. Губскі.**

29 мая 1928 г.,
№ 84.

---

*Дадатак № 1.*

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР

### пра зацьверджаньне палажэньня аб прыезьдзе на абшары Саюзу ССР і аб выезьдзе за межы Саюзу ССР.

*(З. З. Саюзу ССР 1925 г., № 37, арт. 276).*

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляюць:

1. Зацьвердзіць палажэньне аб прыезьдзе на абшары Саюзу ССР і аб выезьдзе за межы Саюзу ССР.

2. Запрапанаваць цэнтральным выканаўчым камітэтам саюзных рэспублік узгодніць з паказаным вышэй палажэньнем адпаведнае заканадаўства саюзных рэспублік.

Старшыня ЦВК Саюзу ССР *М. Калінін.*
Старшыня СНК Саюзу ССР *А. Рыкаў.*
За Сакратара ЦВК Саюзу ССР *А. Талаконцаў.*

5 чэрвеня 1925 г.

## Палажэньне аб прыезьдзе на абшары Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і аб выезьдзе за межы Саюзу ССР.

Разьдзел І.

### Аб прыезьдзе на абшары Саюзу ССР і аб выезьдзе за межы Саюзу.

**А. Аб прыезьдзе на абшары Саюзу ССР.**

1. Прыезд на абшары Саюзу ССР чужаземным і саюзным грамадзянам дазваляецца, апроч прадугледжаных у другой частцы гэтага артыкулу і ў артыкулах 6 і 7 выпадкаў, Народным Камісарыятам Замежных Спраў Саюзу ССР, паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі і консульствамі Саюзу ССР, а таксама спэцыяльна ўпаўнаважнымі дэлегацыямі Саюзу ССР у чужаземных дзяржавах.

Асобам саюзнага грамадзянства, якія атрымалі замежныя пашпарты пасьля абвяшчэньня гэтага палажэньня і выехалі за межы

Саюзу ССР, пашпарт, які ня згубіў свае моцы, зьяўляецца дазволам на зварот.

Дазвол на прыезд, паказаны ў першай частцы гэтага артыкулу, даецца ў форме накладзенай на пашпарту візы; калі выдаецца дазвол Народным Камісарыятам Замежных Спраў, то віза накладаецца памянёнымі вышэй прадстаўніцтвамі, консульствамі і дэлегацыямі па прапанове Народнага Камісарыяту Замежных Спраў.

2. Прыезд на тэрыторыю Саюзу ССР працоўным сельска-гаспадарчым ці прамысловым імігрантам і рээмігрантам дазваляецца з захаваньнем парадку, устаноўленага пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу за 17 лютага 1925 г., аб Сталай Камісіі Савету Працы і Абароны працоўнай сельска-гаспадарчай і прамысловай іміграцыі і эміграцыі (З. З. Саюзу ССР 1925 г., № 16, арт. 119).

**Б. Аб выезьдзе за межы Саюзу ССР.**

3. Выезд за межы грамадзян саюзных рэспублік і тым самым Саюзу ССР дазваляецца толькі па замежных пашпартох, якія выдаюцца ў парадку, прадугледжаным у разьдзеле II гэтага палажэньня.

4. Выезд за граніцу чужаземных грамадзян, якія знаходзяцца на абшары Саюзу ССР і маюць дыплёматычныя і службовыя пашпарты, і членаў чужаземных дэлегацый, якія прыбываюць на міжнародныя канфэрэнцыі, ажыцьцяўляецца па візах Народнага Камісарыяту Замежных Спраў, альбо па візах упаўнаважаных Народнага Камісарыяту Замежных Спраў пры саветах народных камісараў адпаведных саюзных рэспублік, а таксама асобна ўпаўнаважаных для выдачы такіх візаў агэнтаў Народнага Камісарыяту Замежных Спраў.

5. Іншыя чужаземныя грамадзяне, што знаходзяцца на абшарах Саюзу ССР, скарыстоўваюць сваё права на выезд праз атрыманьне для выезду візы, якая накладаецца беспасрэдна на іх нацыянальных пашпартох народным камісарыятам унутраных спраў саюзных і аўтаномных рэспублік, ці іх губэрскімі, або адпаведнымі губэрскімі органамі.

**В. Аб кароткатэрміновых пераходах граніцы Саюзу ССР.**

6. Парадак выдачы дазволаў для пераходу граніцы сталым жыхаром пагранічнае паласы і для асобных выпадкаў пераходу граніцаў Саюзу ССР на Усходзе (мясцовыя кірмашы і інш.) вызначаецца згодамі з суседнімі дзяржавамі, а таксама пастановамі Народнага Камісарыяту Замежных Спраў, якія выдаюцца пасьля ўзгадненьня з Аб'яднаным Дзяржаўным Палітычным Кіраўніцтвам, Народным Камісарыятам Замежнага Гандлю Саюзу ССР і Народным Камісарыятам Унутраных Спраў Саюзных Рэспублік.

7. Пропуск і прабываньне на беразе чужаземных суднавых экіпажаў у часе пастою суднаў у партох Саюзу ССР рэгулюецца правіламі, зацьверджанымі Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР па паданьні Народнага Камісарыяту Замежных Спраў.

## Разьдзел II.

## Аб замежных пашпартох.

**А. Агульныя правілы.**

8. Грамадзянам саюзных рэспублік і тым самым Саюзу ССР выдаюцца для выезду за граніцу, пражываньня там і звароту на тэрыторыю Саюзу ССР загранічныя пашпарты:

а) агульнаграмадзянскія,

б) службовыя,

в) дыплёматычныя.

9. Консульскі збор за замежныя пашпарты бярэцца толькі пры выдачы агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў, а таксама за візу нацыянальных чужаземных пашпартоў (арт. 5) паводле аднастайнага тарыфу, калі іншы тарыф не прадугледжаны спэцыяльнымі згодамі з чужаземнымі ўрадамі на аснове ўзаемнасьці.

10. Замежныя пашпарты маюць сілу на працягу вызначанага ў іх часу, які можа быць адкладзены паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі і консульствамі Саюзу ССР у чужаземных дзяржавах.

Тэрмін для замежных агульнаграмадзянскіх пашпартоў устанаўляецца ў тры месяцы да выезду заграніцу і ў адзін год ад дня фактычнага выезду за межы Саюзу ССР; тэрмін гэты можа быць адноўлен у паказаным вышэй парадку, з аплатаю ўстаноўленага за выдачу такіх пашпартоў збору.

### Б. Аб выдачы дыплёматычных пашпартоў.

11. Дыплёматычныя пашпарты выдаюцца Народным Камісарыятам Замежных Спраў, яго упаўнаважанымі пры саветах народных камісараў саюзных рэспублік і паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі Саюзу ССР наступным асобам:

а) старшыням, членам і кандыдатам у члены Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР;

б) старшыні Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і яго намесьнікам; народным камісарам Саюзу ССР і іх намесьнікам;

в) старшыні, намесьнікам старшыні і членам Савету Працы і Абароны Саюзу ССР;

г) старшыням і членам прэзыдыумаў цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік;

д) старшыням саветаў народных камісараў саюзных рэспублік і іх намесьнікам, народным камісарам саюзных рэспублік і іх намесьнікам;

е) старшыні Вышэйшага Суду Саюзу ССР і Пракурору Вышэйшага Суду Саюзу ССР;

ж) паўнамоцным прадстаўнікам Саюзу ССР за граніцаю, раднікам паўнамоцных прадстаўніцтваў, першым і другім сакратаром гэтых прадстаўніцтваў, аташэ пры паўнамоцных прадстаўніцтвах, а таксама генэральным консулам, консулам і віцэ-консулам, а таксама іншым асобам, якія карыстаюцца правам экстэрытарыяльнасьці;

з) ганлёвым прадстаўнікам Саюзу ССР, іх намесьнікам і членам саветаў гандлёвых прадстаўніцтваў;

і) членам дэлегацый Саюзу ССР на міжнародныя канфэрэнцыі;

к) асобам, якіх пасылаюць за граніцу з асобнымі даручэньнямі дыплёматычнага характару;

л) дыплёматычным кур'ерам і іх правадніком у ліку ня больш, як аднаго правадніка на кожнага кур'ера;

м) іншым асобам на падставе спэцыяльнай пастановы Калегіі Народнага Камісарыяту Замежных Спраў.

**В. Аб выдачы службовых пашпартоў.**

12. Службовыя пашпарты выдаюцца Народным Камісарыятам Замежных Спраў, яго упаўнаважанымі пры саветах народных камісараў саюзных рэспублік, ці асобна ўпаўнаважанымі на выдачу такіх пашпартоў агэнтамі Народнага Камісарыяту Замежных Спраў, а таксама поўнамоцнымі прадстаўнікамі і консуламі Саюзу ССР за граніцай наступным асобам:

а) супрацоўнікам народных камісарыятаў Саюзу ССР, якія едуць за кардон на службовыя пасады;

б) супрацоўнікам народных камісарыятаў Саюзу ССР, саюзных і аўтаномных рэспублік, якія для службовых справаў камандыруюцца за граніцу па пісьмовых хадайніцтвах адпаведнага народнага камісара ці яго намесьніка;

в) іншым асобам паводле спэцыяльнай пастановы Калегіі Народнага Камісарыяту Замежных Спраў.

*Увага.* Калі Народны Камісарыят Замежных Спраў ці яго ўпаўнаважаны знойдуць, што прычын для атрыманьня камандыроўкі ня выстарчае, то яны маюць права пашпарту ня выдаць.

**Г. Аб выдачы агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў.**

13. Выдача агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў і накладваньне візы на выезд ускладаецца на Народны Камісарыят Унутраных Спраў і на асобна ўпаўнаважаныя гэтымі камісарыятамі мясцовыя органы.

*Увага.* За межамі Саюзу ССР агульнаграмадзянскія замежныя пашпарты выдаюцца паўнамоцнымі прадстаўніцтвамі і консульствамі Саюзу ССР, чыннымі паводле паказаньняў Народнага Камісарыяту Замежных Спраў.

14. Выдача агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў служачым у войску і каманднаму складу Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Флёту, які лічыцца ў бястэрміновым водпуску ці ў запасе, дазваляецца толькі тады, калі яны маюць дазвол на выезд з Саюзу ССР, атрыманы па месцы службы ці сталага месца пражываньня, ад рэвалюцыйных ваенных саветаў франтаў, арміяў, акруг і флётаў, ад камандуючых войскамі акруг (дзе няма рэвалюцыйнага ваеннага савету), ці ад іншых органаў Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў, асобна ўпаўнаважаных Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР.

15. Выдача агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў:

а) грамадзянам прызыўных гадоў па працягу шасьцімесячнага тэрміну перад чарговым заклікам да войска і б) грамадзянам, равесьнікі якіх пакліканы на сапраўдную вайсковую службу ці залічаны ў тэрытарыяльныя часьці (апроч асоб, зьнятых з падлічэньня з прычыны хваробы), дазваляецца толькі тады, калі яны маюць дазвол на выезд, атрыманы па месцы сталага пражываньня ад рэвалюцыйных ваенных саветаў ці камандуючых войскамі адпаведных акруг, па належнасьці, у парадку, імі ўстаноўленым.

Усе іншыя вайсковапавінныя грамадзяне атрымоўваюць замежныя пашпарты пры ўмовах выкананьня правілаў вайсковага падлічэньня

## Разьдзел III.

### Аб інструкцыях да палажэньня і адказнасьці за яго парушэньне.

**А. Аб парадку выданьня інструкцыяў пра ўжываньне гэтага палажэньня.**

16. Спэцыяльныя інструкцыі па пытаньнях, прадугледжаных арт. арт. 1, 2, 4, 11 і 12 і ўвагаю да арт. 13 выдаюцца Народным Камісарыятам Замежных Спраў Саюзу ССР пасьля ўзгадненьня з Аб'яднаным Дзяржаўным Палітычным Кіраўніцтвам, а па арт. 2—таксама са Сталаю Камісіяю Савету Працы і Абароны для іміграцыі і эміграцыі, і па арт. 12—з Народным Камісарыятам Ваенных і Марскіх Спраў, Замежнага Гандлю, Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі і Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі Саюзу ССР.

Народныя камісарыяты ўнутраных спраў саюзных рэспублік павінны пры выданьні інструкцыяў па пытаньнях, прадугледжаных арт. арт. 13, 14 і 15 гэтага палажэньня, узгадняць іх па арт. 13 з Народным Камісарыятам Замежных Спраў і Аб'яднаным Дзяржаўным Палітычным Кіраўніцтвам і па арт. арт. 14 і 15—з Народным Камісарыятам Ваенных і Марскіх Спраў і Аб'яднаным Дзяржаўным Палітычным Кіраўніцтвам.

**Б. Аб адказнасьці за парушэньне палажэньня.**

17. Адказнасьць за парушэньне гэтага палажэньня вызначаецца адпаведнымі артыкуламі крымінальных кодэксаў саюзных рэспублік

Старшыня ЦВК Саюзу ССР *М. Калінін.*

Старшыня СНК Саюзу ССР *А. Рыкаў.*

За Сакратара ЦВК Саюзу ССР *А. Талаконцаў.*

5 чэрвеня 1925 году.

Апублікована ў № 131 „Известий" ЦВК Саюзу ССР і УсеЦВК за 12 чэрвеня 1925 году.

*Дадатак № 2.*

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету народных Камісараў БССР

### пра скасаваньне пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 2/III—1920 году аб выдачы пашпартоў і дазволаў на выезд за граніцу.

*(З. З. БССР 1925 г., № 33, арт. 309)*

На падставе арт. 2 пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР за 5/VI—1925 г. пра зацьверджаньне палажэньня аб прыезьдзе на абшары Саюзу ССР і аб выезьдзе за межы Саюзу ССР („Известия ЦИК Союза ССР и ВЦИК" 1925 г. № 131). Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

У зьвязку з выданьнем Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР палажэньня аб прыезьдзе на абшары Саюзу ССР і аб выезьдзе за межы Саюзу ССР за 5/VI—1925 г. пастанову Савету Народных Камісараў БССР за 2 сакавіка 1923 г. аб выдачы пашпартоў і дазволаў на выезд за межы (З. З. БССР 1923 г., № 5, арт. 47) скасаваць.

Старшыня ЦВК БССР *А. Чарвякоў.*

Нам. Старшыні СНК БССР *С. Гэльтман.*

За Сакратара ЦВК БССР *А. Хацкевіч.*

24 ліпеня 1925 г.

*Дадатак № 3*

(да арт. 2 Інструкцыі).

Адміністрацыйны Аддзел . . . .
Акруговага Выканаўчага Камітэту.

**Карэнчык квітка №** . . . .

Атрымана „ . . “ . . . . 192 г.
ад гр. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
(якія дакуманты)
аб выдачы дазволу на выезд за граніцу, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 5 чэрвеня 1925 г.

Зьявіцца за адказам „ . . “ . . . . . . . . . . . . 192 г.

Заг. Чужазем. Стала

Адміністрацыйны Аддзел . . . .
Акруговага Выканаўчага Камітэту.

**Квіток №** . . . .

Атрымана „ . . “ . . . . 192 г.
ад гр. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
(якія дакуманты)
аб выдачы дазволу на выезд за граніцу, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 5 чэрвеня 1925 г.

Зьявіцца за адказам „ . . “ . . . . . . . . . . . . 192 г.

Заг. Чужазем. Стала

Месца для штампу

*Дадатак № 4*

(да арт. 2 Інструкцыі).

**Пасьведчаньне.**

Дана гэта грам. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(грамадзянства)
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(прозьвішча, імя і па бацьку і гады)
аб тым, што ён адпраўляецца ў Чужаземную Частку НКУС для атрыманьня дазволу на выезд за граніцу.

Ад Адміністрацыйнага Аддзелу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Акруговага Выканаўчага Камітэту перашкод да выезду за граніцу няма.

Грамадзяніну . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . трэба заплаціць за візу . . . . руб. . . . кап. на падставе § . . . . правіл аб зборах.

Загадчык Адміністрацыйнага Аддзелу

Заг. Чужаземнага Стала

Для грамадзян СССР

*Дадатак № 5*
(да арт. 11 Інструкцыі)

## У Чужаземную Частку Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

Гр. . . . . . . . . . . . . . . . .
(прозьвішча, імя і па бацьку)

### ЗАЯВА

Прашу выдаць мне ўстаноўлены Палажэньнем аб прыезьдзе на абшары СССР і аб выезьдзе за межы СССР, зацьверджаным ЦВК і СНК СССР 5 чэрвеня 1925 г., дазвол на выезд заграніцу.

### СЛУЖБОВЫЯ АДЗНАКІ

Атрымана паводле квітка „ “ . . . . . . . 192 г.

Тэрмін назначаны для адказу „ “ . . . . . . . 192 г.

### СПРАВА № . . . .

*камандыровачнае* *прыватнае*

Выезд

Віза / нявыдача № . . . . . . „ . . “ . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

Віза / нявыдача № . . . . . . „ . . “ . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

### АПЫТАЛЬНЫ ЛІСТ

Усе графы павінны быць запоўнены дакладнымі і выразнымі адказамі.

Калі анкета будзе запоўнена невыразнымі і недакладнымі адказамі, то дазвол на выезд заграніцу ня будзе выданы.

За няправільнае паказаньне ў анкеце вінаватыя асобы будуць прыцягвацца да адказнасьці паводле арт. 226-б Крымінальнага Кодэксу.

| ПЫТАНЬНІ: | АДКАЗЫ: |
|---|---|
| 1. Прозьвішча, імя і па бацьку (жанчыны, якія жывуць пад прозьвішчам мужа, паказваюць сваё бацькаўскае прозьвішча). Асобы, якія маюць некалькі прозьвішчаў, або псэўдонім, павінны паказваць таксама і іх. | |
| 2. Час і месца нараджэньня (год, месяц і дзень, дзяржава, горад і інш.) | |
| 3. Нацыянальнасьць і з якога часу знаходзіцеся ў грамадзянстве СССР, калі перайшлі з чужаземнага, дык з якога. *Увага.* У гэтай графе абавязкова паказваецца асноўнае грамадзянства Саюзу і Саюзнай Рэспублікі. | |

| ПЫТАНЬНІ: | АДКАЗЫ: |
|---|---|
| 4. Сямейнае становішча (ці знаходзіліся або знаходзіцеся ў зарэгістраваным шлюбе). | |
| 5. Прафэсія і чым дабывалі сродкі да існаваньня: да 7 лістапада 1917 г., пасьля 7 лістапада 1917 г. да гэтага часу; асобы, якія маюць капітал, паказваюць яго велічыню, служачыя—месца службы і пасаду, вучні—школы, утрыманцы паказваюць, хто іх утрымоўвае, адрэс гэтай асобы, заняткі і месца працы.<br>*Увага.* У даведцы, якая падаецца служачымі дзяржаўных установ, аб тым, што няма перашкод на выезд заграніцу, павінны быць паказаны адносіны выяжджаючага да сакрэтнай перапіскі ўстановы. | |
| 6. Ранейшае сацыяльнае становішча (рабочы, селянін, мешчанін, дваранін). | |
| 7. Да якога прафэсіянальнага саюзу належыце і з якога часу (№ праф. білету). | |
| 8. Да якой палітычнай партыі належыце і з якога часу, калі вышлі з партыі, дык калі і чаму (паказ. № білету). | |
| 9. Ці служылі ў Чырвонай Арміі; у станоўчым выпадку—у якім парадку (мабілізацыя, добравольна), у якіх часьцях і якія пасады займалі, калі дэмабілізаваліся і ў якім парадку (па гадох і інш.). | |
| 10. Ці служылі ў белай арміі і ці прымалі актыўны ўдзел супроць Чырвонай Арміі (дзе, калі), апошні чын і займаемая пасада. | |
| 11. Ці знаходзіцеся пад судом і дазнаньнем і ці ня былі прыцягнены да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку, або ці ня былі часова затрыманы (арышт, падпіска аб нявыезьдзе, штраф і інш.), у станоўчым выпадку—пакажыце кім, дзе, калі, за што, на які тэрмін або суму і ў якім парадку вызвалены ад кары або ад падпіскі або ад штрафу. | |
| 12. Ці падымалі Вы хадайніцтва пасьля 7 лістапада 1917 г. аб выдачы дазволу ў іншых гарадох, дзе і калі. Ці былі заграніцаю, калі былі, то пакажыце калі, у якой дзяржаве і па якіх справах (калі выяжджалі пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, пакажыце кім, калі і за якім № выдадзены пашпарт і віза). | |

| ПЫТАНЬНІ: | АДКАЗЫ: |
|---|---|
| 13. Пакажыце сваякоў, якія знаходзяцца ў СССР, спарадненьне, прозьвішча, імя і па бацьку, адрэс іх. | |
| 14. Пакажыце сваякоў, якія знаходзяцца заграніцаю (прозьвішча, імя, калі і па якіх дакумэнтах выехалі з СССР, дзе жывуць і чым займаюцца). | |
| 15. Пакажыце месца, дзе Вы жылі пачынаючы з 1914 г. (горад, вуліца, № дому, № кватэры, колькі часу жылі). | |
| 16. Ваш апошні адрэс (горад, вуліца, № дому, № кватэры, № тэлефону і колькі часу жывеце). | |
| 17. Куды зьбіраецеся ехаць (дзяржава, горад), калі выяжджаеце і праз які заграмічны пункт. | |
| 18. Мэта паездкі (калі камандыроўка, то паказаць ад якой установы і па якой справе), калі едзеце па асабістых справах, то пакажыце падрабязна матывы. | |
| 19. Калі з вамі едуць дзеці, дык пакажыце іх адносіны, як сваякоў, імя і гады кожнага. | |
| 20. Як доўга думаеце быць заграніцаю. | |
| 21. Пералічыце, якія дакумэнты да заявы прыкладаеце. | |

*Подпіс заяўніка*

„ “ . . . . . . . . 192 г. *Атрымаў*

ПРЫМЕТЫ:

Гады: Вочы: Асобныя прыметы:

Нос: Валасы:

**Да ведама заяўніка**

Збор за пашпарт павінен уносіцца ў касу Акруговага Фінансавага Аддзелу ў дзень падачы заявы.

Для чужаземцаў.

*Дадатак № 6*
(да арт. 4 Інструкцыі).

## У Чужаземную Частку Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### З А Я В А

Прашу выдаць мне ўстаноўлены пастановай ЦВК і СНК СССР за 5 чэрвеня 1925 г. дазвол на выезд за межы СССР.

### СЛУЖБОВЫЯ АДЗНАКІ.

Атрымана паводле квітка № . . . . „ . . “ . . . . . . . . . . 192 . . г.
Тэрмін назначаны для адказу „ . . “ . . . . . . . . . . . 192 . . г.

### С П Р А В А №. . . .

*камандыровачнае* *прыватнае*

Выезд.

Віза / Нявыдача № . . . . . „ . . “ . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

Віза / Нявыдача № . . . . . „ . . “ . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г

### АПЫТАЛЬНЫ ЛІСТ

Усе графы павінны быць запоўнены дакладнымі і выразнымі адказамі. Калі анкета будзе запоўнена нявыразнымі і недакладнымі адказамі, то дазвол на выезд заграніцу ня будзе выданы. За няправільнае паказаньне ў анкеце вінаватыя асобы будуць прыцягвацца да адказнасьці паводле арт. 226-б Крымінальнага Кодэксу.

| ПЫТАНЬНІ: | АДКАЗЫ: |
|---|---|
| 1. Прозьвішча, імя і па бацьку (жанчыны, якія жывуць пад прозьвішчам мужа, паказваюць бацькаўскае прозьвішча). | |
| 2. Час і месца нараджэньня (год, месяц, дзень, дзяржава і горад). | |
| 3. Нацыянальнасьць і грамадзянства (калі вышлі з саюзнага грамадзянства, то пакажыце калі і якая ўстанова сьцьвердзіла). | |
| 4. Прафэсія, чым займаліся ў БССР (калі служылі, то пакажыце ў якой установе або на якой пасадзе, ці якое мелі прадпрыемства). | |

| ПЫТАНЬНІ: | АДКАЗЫ: |
|---|---|
| 5. Калі прыехалі ў СССР, то праз які пагранічны пункт, мэта прыезду. | |
| 6. Па якіх дакумэнтах жывеце: Нацыянальны пашпарт выдадзены ў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . (назва дзяржавы) 192 . . г. за № . . . . Візаваны на прыезд у СССР . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . (Упаўн. Прад., Консулам) у . . . . . . . . . . . . . 192 г. (назва дзярж., дзень і мес., №. . .) Жыву на абшарах СССР па . . . . . . . выдадзенаму . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . (назва ўстан., дзень і мес., 192] г. №) | |
| 7. Вашы адрэсы за ўвесь час пражываньня ў СССР (горад, вуліца, № дому, № кватэры, № тэлефону). | |
| 8. Куды жадаеце выехаць, праз які пагранічны пункт і мэта паездкі. | |
| 9. Калі з Вамі едуць дзеці да 16 гадоў, то пакажыце іх адносіны, як сваякоў, прозьвішча, імя, па бацьку і гады. | |
| 10. Да заявы далучаны: а) Нацыянальны пашпарт. б) фатаграф. карткі. | |

„ “ . . . . . . . . . . . . . . . . 192 г.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(подпіс на расійскай і роднай мовах)

Атрымаў „ “ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(подпіс атрымальніка)

Месца для фатаграфічнай карткі.

На першай старонцы фатаграфічнай карткі заяўнік павінен расьпісацца.

*Дадатак № 7*

(да арт. 12 інструкцыі).

## Даведка.

Дана гэта гр. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(прозьвішча, імя, па бацьку)
які . . . нарадз . . . . у . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(падрабязна паказаць месца нараджэньня)
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
жыве . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(паказаць падрабязна месца пражываньня, горад, вуліцу . . дом, кватэру і г. д.).
. . . . . . . . . . . з „ “ . . . . . . . . . 192 . . г. і займаецца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Сродкамі да існаваньня грам. . . . . . . . . . . . . зьяўляецца . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(калі на сродкі іншых асоб, то паказаць падрабязна іх прозьвішча, імя, і па бацьку і чым яны займаюцца)
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
„ “ . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

Подпіс

Начальнік . . . . Аддзяленьня . . . . Акруговай Міліцыі
або Старшыня Сельскага Савету і Сакратар.

*Дадатак № 8*

(да арт. 14. Інструкцыі).

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР

**пра зборы, што спаганяюцца органамі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў за выдачу агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў, дазволаў і віз на прыезд у Саюз ССР і выезд з Саюзу ССР і пасьведчаньняў на пражываньне для чужаземцаў.**

(*З. З. Саюзу ССР 1926 г. № 27, арт. 167*).

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляюць:

1. З усіх, апроч паказаных у арт. 2, грамадзян Саюзу ССР і членаў іх сем'яў, што знаходзяцца на іх утрыманьні, за выдачу агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў бярэцца: . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 200 руб.

2. З грамадзян Саюзу ССР, якія жывуць на непрацоўны прыбытак, а таксама і членаў іх сем'яў, што знаходзяцца на іх утрыманьні, за выдачу агульнаграмадзянскіх замежных пашпартоў бярэцца . . . . . . . . . . . . . . . 300 „

3. За ўнясеньне якіх-небудзь зьмен у выданы агульнаграмадзянскі замежны пашпарт бярэцца:
з асоб, паказаных у арт. 1 . . . . . . . . . . . . . 10 „
з асоб, паказаных у арт. 2 . . . . . . . . . . . . . 30 „

4. За выдачу дазволу на аднаразовы пераход ці пераезд граніцы насельнікамі пагранічнай паласы бярэцца:

а) з грамадзян, паказаных у арт. 1 . . . . . . . . . . — р. 50 к.
б) з грамадзян, паказаных у арт. 2 . . . . . . . . . . 2 „ — „

5. За выдачу дазволу на 3 месяцы на шматразовы пераход або переезд граніцы насельнікамі пагранічнай паласы бярэцца:

а) з грамадзян, паказаных у арт. 1 . . . . . . . . . . 2 „ 50 „
б) з грамадзян, паказаных у арт. 2 . . . . . . . . . . 15 „ — „

6. За яўку (візу) замежнага пашпарту на выезд з Саюзу ССР бярэцца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5 „ — „

7. За яўку (візу) замежнага пашпарту адначасова на выезд з Саюзу ССР і на зваротны праезд бярэцца . . . 10 „ — „

8. За візаваньне замежнага пашпарту на шматразовы пераезд граніцы бярэцца . . . . . . . . . . . . . . . 30 „ — „

9. За выдачу або працягненьне чужаземцам пасьведчаньня на пражываньне ў межах Саюзу ССР, незалежна ад тэрміну, а таксама за рэгістрацыю замежных пашпартоў бярэцца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5 „ — „

10. Збор за выдачу агульнаграмадзянскага замежнага пашпарту бярэцца пры падачы заявы аб выдачы пашпарту і калі пашпарт ня будзе выданы, варочаецца з утрыманьнем 10 проц. збору.

11. Калі замежны пашпарт або віза ня будуць скарыстаны, то ўзятыя за выдачу пашпарту, а таксама за накладаньне візы, грошы назад не аддаюцца.

12. Прадугледжаныя гэтаю пастановаю зборы бяруцца народнымі камісарыятамі ўнутраных спраў саюзных рэспублік і на падставе ўпаўнаважаньня гэтых народных камісарыятаў, іх мясцовымі органамі.

13. Незаможныя грамадзяне ад платы прадугледжаных гэтаю пастановаю збораў вызваляюцца ў парадку, устаноўленым Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу ССР.

14. Народнаму Камісарыяту Замежных Спраў, паводле згоды з Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу ССР, даецца права зьмяняць разьмеры збору, якія бяруцца за накладаньне візаў на замежных пашпартох і за выдачу чужаземцам пасьведчаньняў на пражываньне, на падставах узаемнасьці ў адпаведнасьці з платаю, устаноўленаю тою ці іншаю дзяржаваю і адносінах да грамадзян Саюзу ССР.

15. Сумы, узятыя на падставе гэтай пастановы, павінны здавацца ў касы Народнага Камісарыяту Фінансаў ва ўстаноўленым парадку і залічаюцца на прыбытак належных саюзных рэспублік па каштарысах народных камісарыятаў унутраных спраў.

16. Пры выдачы замежных агульнаграмадзянскіх пашпартоў, дазволаў, віз і пасьведчаньняў на пражываньне для чужаземцаў на сумы адпаведных збораў налічваецца 10 проц., якія павінны ісьці ў прыбытак Таварыства Чырвонага Крыжу або Чырвонага Паўмесяцу адпаведнай саюзнай рэспублікі па месцы браньня збораў.

17. Інструкцыя пра ўжываньне гэтай пастановы выдаецца Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу ССР паводле згоды з прадстаўніцтвамі саюзных рэспублік пры Ўрадзе Саюзу ССР.

Старшыня ЦВК Саюзу ССР *М. Калінін.*

Старшыня СНК Саюзу ССР *А. Рыкаў.*

Сакратар ЦВК Саюзу ССР *А. Енукідзе.*

Масква—Крэмль,
6 красавіка 1926 году.

Апублікована ў № 79 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР і ЎсеЦВК за 7 красавіка 1926 году.

*Дадатак № 9*

(да арт. 4 Інструкцыі).

**Узор штампу, які ставіцца на пасьведчаньне на пражываньне для чужаземцаў пры атрыманьні імі нацыянальных пашпартоў для візаваньня.**

Нацыянальны дакумант паказчыка гэтага пакінуты ў . . . . . . . . . Адміністрацыйным Аддзеле Акруговага Выканаўчага Камітэту для атрыманьня візы на выезд заграніцу. Да атрыманьня візы гэтае пасьведчаньне на пражываньне правадзейна для пражываньня на абшарах БССР.

ПАДСТАВА. Інструкцыя НКУС № . . . . . . . за . . . . 1926 г.

„ “ . . . . . . . . . . 192 . . г.

г. . . . . . . . .

Загадчык Чужаземнага Стала.

*Дадатак № 10*

(да арт. арт. 7 і 22 Інструкцыі).

**Узор штампу візы на адзін выезд.**

С Віза № / Виза . . . . . . . . (горад) . . . . . . . . . . 192 . . г.

Правадзейна да / Действительно по . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

С Уласьніку гэтага / Владельцу наст. . . . . . . . № . . . . . . . ад / от . . . . .

С Грамадз. / Граждан. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Р Дазволен выезд заграніцу / Разрешен выезд за пределы СССР у / в . . . . . . . . .

Праз пагранічны пункт / Через погранпункт . . . . . . . . . . . . . . . .

На падставе ўпаўнаважаньня НКУС / По уполномочию НКВД БССР

Заг. Чужаземнай Часткі / Зав. Иностранной Частью

Узята / Взыскано Р. . . . . . . . . . . . К. . . . .

*Дадатак № 11*

(да арт. 7 Інструкцыі).

**Сьпіс кантрольна-пагранічных пунктаў.**

| Ленінградз. акруга. | З чым гранічаць. | | |
|---|---|---|---|
| 1. Архангельск | Белае мора | 6. Пскоў | Эстонія |
| 2. Чыжоўка | „ „ | 7. Востраў | Латвія |
| 3. Мурманск | Паўн.-Лед. Акіян | 8. Ленінпорт | Фінская затока |
| 4. Белавостраў | Фінляндзія | 9. Мезень | Белае мора |
| 5. Кінгісэп | Эстонія | 10. Пячора | „ „ |
| | | 11. Сарокі | „ „ |

| | |
|---|---|
| 12. Анега | Белае мора |
| 13. Кемь | „ „ |
| 14. Керэт | „ „ |
| 15. Коўда | „ „ |
| 16. Кандалашка | „ „ |
| 17. Себеж | Латвія |

**Заходняя акруга**

| | |
|---|---|
| 1. Полацак (Бігосава) | Польшча |
| 2. Негарэлае | „ |
| 3. Смаленск (водлінія) | Нямеччына |
| 4. Жыткавічы | Польшча |

**Украіна**

| | |
|---|---|
| 1. Шэпятоўка | Польшча |
| 2. Валачыск | „ |
| 3. Адэса | Чорнае мора |
| 4. Бердзянск | „ „ |
| 5. Марыупаль | „ „ |
| 6. Хэрсон | „ „ |

**К р ы м**

| | |
|---|---|
| 1. Севастопаль | Чорнае мора |
| 2. Феадосія | „ „ |
| 3. Керч | Керчэн. пратока |

**Паўднёвы-Ўсход**

| | |
|---|---|
| 1. Новарасійск | Чорнае мора |
| 2. Туапсэ | „ „ |
| 3. Ейск | Азоўскае мора |
| 4. Таганрог | „ „ |

**Закаўказьзе**

| | |
|---|---|
| 1. Сухум-Кале | Чорнае мора |
| 2. Поці | „ „ |
| 3. Батум | „ „ |
| 4. Аджарыс-цхалі (Мачахліс) | Турцыя |
| 5. Ахалцых (Арджошан) | „ |
| 6. Ленінакан | „ |
| 7. Джульфа | „ |
| 8. Джэбраіл (Худферын) | Пэрсія |
| 9. Балясувар | „ |
| 10. Руская Астара | Пэрсія, Касп. мора |
| 11. Ленкарань | Каспійск. мора |
| 12. Баку | „ „ |
| 13. Маркара | Турцыя |
| 14. Шахтаты | Пэрсія |
| 15. Карзах | Турцыя |

**Туркестан**

| | |
|---|---|
| 1. Краснаводзк | Пэрсія |
| 2. Гасан-Кулі | „ |
| 3. Гаудан | „ |
| 4. Артык | „ |
| 5. Сехарс | „ |
| 6. Душак | „ |
| 7. Хіве-Абат | „ |
| 8. Меручак | Афганістан |
| 9. Чэльдухтэр (кушка) | „ |
| 10. Керкі (Басага) | „ |
| 11. Патта-Гісар (Цермез) | „ |
| 12. Узген | Заход. Кітай |
| 13. Нарынь | „ „ |
| 14. Каракол б. Пржэвальск | „ „ |

**Кіркрай**

| | |
|---|---|
| 1. Бахты | Заход. Кітай |
| 2. Чылікты (Кузеупь) | „ „ |
| 3. Майкапчыгай | „ „ |
| 4. Катон-Карагай | „ „ |
| 5. Кольджат | „ „ |
| 6. Харгос | „ „ |

**Сібір**

| | |
|---|---|
| 1. Кош-Агач | Манголія |
| 2. Семіазёркі | Уранхай (Танну-Тувін. Рэсп.). |

**Д. У. Краіна**

| | |
|---|---|
| 1. Троіцка-Саўск | Манголія |
| 2. Мацыеўская | Манчжурыя |
| 3. Благавешчанск | „ |
| 4. Хабараўск | „ |
| 5. Міхайлаў-Сямёнаўск | „ |
| 6. Градзекава | Манчжурыя |
| 7. Уладзівасток | Узьбярэжжа Ціхага акіяну |
| 8. Нікалаеўск (на Амуры) | Ахоцкае мора |
| 9. Аляксандраўск (на Сахаліне) | „ „ |

*Дадатак № 12*

(да арт. 7 Інструкцыі).

## Узор візы, якая прымацоўваецца да дакумэнтаў чужаземцаў, на якіх немагчыма ставіць візы

**СССР** **БССР**

**Народны Камісарыят Унутраных Спраў**
**Народный Комиссариат Внутренних Дел**

Узята . . . . . . . . . . . . руб. . . . . кап.
Взыскано

„ “ . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.

Віза
Виза № . . .

г . . . . . . . . . . Правадзейна да „ “ . . . . . . . . . 192 . . г.
Действительно по

Месца для фатаграфічнай карткі

Уласьніку . . . . . . . . . . ад . . . . . . . да якога
Владельцу от к которому

прымацована гэта віза гр. . . . . . . . . . . . . . . . . .
прикреплена настоящая виза гр.

дазволен выезд за межы СССР . . . у . . . . . . . .
разрешен выезд за пределы СССР в

. . . . . . . . . праз пагранічны пункт . . . . . . .
через пограничный пункт

На падставе ўпаўнаважаньня НКУС БССР
По уполномочию НКВД БССР

Заг. Чужаземнай Часткі
Зав. Иностранной Частью

*Дадатак № 13.*

(да арт. 8 Інструкцыі).

## Узор штампу—адкладаньне тэрміну дзеяньня візы.

Тэрмін візы № . . . . . . . . . . . (горад) . . . . . . . . . .
Срок визы

192 . . г. адкладзены да . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.
продлен до

(горад)
месяц дзень
число

Заг. Чужаземнай Часткі
Зав. Иностранной Частью

Узята Взыскано . . . . . . . . Р. . . . . . К.

*Дадатак № 14*

(да арт. арт. 10 і 22 Інструкцыі).

## Узор штампу візы на права зваротнага прыезду ў СССР.

Узята Р. . . . . . . К. . . .
Взыскано

Віза . . . . . . . . . . . (горад) . . . . . . . . . . . 192 . . г.
Виза

Правадзейна да . . . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.
Действительно по

на зваротны праезд у / на обратный в'езд в СССР

(горад)

месяц / месяц — дзень / число

На падставе ўпаўнаважаньня НКУС / По уполномочию НКВД БССР

Заг. Чужаземнай Часткі
Зав. Иностранной Частью

*Дадатак № 15*

(да арт. арт. 10 і 22 Інструкцыі).

## Узор штампу візы, якая ставіцца на пасьведчаньнях службовага пэрсаналу дзяржаўных установ, што пераяжджаюць граніцу.

Узята Р. . . . . . . К. . . . .
Взыскано

С Віза № . . . . . . . . . . . (горад) . . . . . . . 192 . . г.
Виза

С Правадзейна да . . . . . . . . . . . . . . . . 192 . . г.
Действительно по

С на права пэрыадычнага пераезду дзяржаўнай граніцы СССР за граніцу

Р на право периадического переезда госграницы СССР за границу

і назад праз пагранічны пункт
и обратно через пограничный пункт

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(пасада, месца службы)
(должность, место службы)

гр. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Прозьвішча, імя і па бацьку)
(Фамилия, имя и отчество)

На падставе ўпаўнаважаньня НКУС / По уполномочию НКВД БССР

Заг. Чужаземнай Часткі
Зав. Иностранной Частью

*Дадатак № 16*

(да арт. 13 Інструкцыі).

## Выпіска з інструкцыі пра ўжываньне дэкрэту Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў аб замежным гандлі.

*(З. З. РСФСР 1923 г., № 32, арт. 359).*

### Пра парадак гандлёвых камандыровак за граніцу.

1. Дазваляюцца наступныя выпадкі гандлёвых камандыровак за граніцу на падставе ўпаўнаважаньня дзяржаўных органаў:

а) на падставе ўпаўнаважаньня дзяржаўных прадпрыемстваў або іх аб'яднаньняў, якія атрымалі права ўчыняць замежныя гандлёвыя апярацыі на падставе дэкрэту Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 16 кастрычніка 1922 г. (З. З. РСФСР 1922 г., № 65, арт. 846);

б) на падставе ўпаўнаважаньня дзяржаўных органаў, якія атрымалі паводле арт. 5 дэкрэту Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 12 красавіка 1923 г. (З. З. РСФСР 1923 г., № 31, арт. 343) права мець сваіх агэнтаў або спэцыяльных прадстаўнікоў у складзе гандлёвых прадстаўніцтваў за граніцаю;

в) на падставе ўпаўнаважаньня дзяржаўных органаў для тэхнічнай дапамогі рэалізацыі праз гандлёвыя прадстаўніцтвы заказаў, прадугледжаных дзяржаўным прывозным плянам;

г) на падставе ўпаўнаважаньня дзяржаўных органаў для дапамогі рэалізацыі заказаў у парадку ліцэнзійным;

д) на падставе спэцыяльнага ўпаўнаважаньня Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю, Савету Працы і Абароны і Савету Народных Камісараў.

2. Даверанасьці і пасьведчаньні прадстаўнікоў, якія камандыруюцца за граніцу, павінны мець візу Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю і падавацца ў Народны Камісарыят Замежнага Гандлю з двума копіямі, з якіх адна пакідаецца ў Народным Камісарыяце Замежнага Гандлю, другая накіроўваецца Народным Камісарыятам Замежнага Гандлю ў адпаведнае гандлёвае прадстаўніцтва.

Прыбыўшы ў краіну назначэньня, дзе ёсьць гандлёвае прадстаўніцтва РСФСР, камандыраваныя асобы павінны зарэгістравацца ў адпаведным гандлёвым прадстаўніцтве.

*Увага 1.* У пашпартох камандыраваных адзначаецца „па гандлёвых справах".

*Увага 2.* Народны Камісарыят Чужаземных Спраў і Народны Камісарыят Унутраных Спраў не выдаюць віз на выезд па гандлёвых справах, калі даверанасьці і пасьведчаньні камандыраваных ня маюць візы Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю.

*Увага 3.* Пашпарт з адзнакаю „па гандлёвых справах" ня візуецца ўпаўнаважаным прадстаўніцтвам РСФСР за граніцай па прыбыцьці камандыраванага ў краіну назначэньня без паданьня візы гандлёвага прадстаўніка на даверанасьці і пасьведчаньні.

3. Пасьведчаньні і даверанасьці асоб, якія камандыруюцца дзяржаўнымі прадпрыемствамі, памянёнымі ў п. „а" арт. 1, складаюцца паводле даданых да гэтай інструкцыі формаў (дадатак № 1 і 2).

4. Прадстаўнікі дзяржаўных устаноў, памянёныя ў п. „б“ арт. 1, спэцыяльнай даверанасьці не атрымоўваюць; правы іх паказваюцца ў пасьведчаньні, форма якога прыкладаецца (дадатак № 3).

5. У пасьведчаньнях асоб, якія камандыруюцца для тэхнічнай дапамогі рэалізацыі заказаў праз гандлёвыя прадстаўніцтвы (п. „в“ арт. 1), паказваецца, што паказчык камандыруецца ў распараджэньне гандлёвага прадстаўніцтва. Пасьведчаньне павінна быць абменена ў гандлёвым прадстаўніцтве.

6. Асобам, якія камандыруюцца для рэалізацыі заказаў у парадку ліцэнзійным (п. „г“ арт. 1), выдаюцца пасьведчаньні, у якіх паказваецца, што яны камандыруюцца ў распараджэньне гандлёвага прадстаўніцтва.

Гэтым-жа асобам выдаецца на права заключэньня ўмовы даверанасьць, якая можа быць імі скарыстана толькі ў выпадках і ў парадку, паказаных у арт. 16 дэкрэту Савету Народных Камісараў аб кантынгэнтах, ліцэнзіях і пасьведчаньнях на ўвоз і вываз. Формы пасьведчаньня і даверанасьці прыкладаюцца (дадаткі 4 і 5).

7. Кандыдатуры прадстаўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў і дзяржаўных устаноў, якія камандыруюцца для сталай працы за граніцай на падставе дэкрэту Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 16 кастрычніка 1922 г. (З. З. РСФСР 1922 г., № 65, арт. 846) і 12 красавіка 1923 г. (З. З. РСФСР 1923 г., № 31, арт. 343), павінны быць узгоднены з Народным Камісарыятам Замежнага Гандлю.

8. Асобам, якія выяжджаюць за граніцу па неганддёвых справах, забараняецца прадстаўніцтва гандлёвых інтарэсаў дзяржаўных органаў.

9. Асобы, якія заўсёды жывуць у краіне, дзе знаходзіцца гандлёвае прадстаўніцтва, могуць назначацца прадстаўнікамі дзяржаўных органаў толькі са згоды гандлёвага прадстаўніка.

*Дадатак № 1-а.*

Форма пасьведчаньня для прадстаўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, якія камандыруюцца за граніцу, паводле п. „а“ арт. 1 Інструкцыі.

Правадзейна да . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Дана гэта грамадзяніну . . . . . . . . . . . у тым, што ён зьяўляецца прадстаўніком . . . . . . . . . . у . . . . . . . . . . . . . з раёнам дзейнасьці . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На грамадзяніна . . . . . . . . . . ускладаецца . . . . . . . .

На падставе дэкрэту Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў аб замежным гандлі за 16 кастрычніка 1922 г. (З. З. РСФСР 1922 г., № 65, арт. 846) грамадзянін . . . . . . . . . . . . . . . . . дзейнічае за граніцай пад беспасрэдным кіраваньнем і кантролем гандлёвага прадстаўніка РСФСР. Аб ўсіх апярацыях, якія грамадзянін . . . . . . . . . . мяркуе правесьці, ён паведамляе гандлёвага прадстаўніка да іх правядзеньня.

У сваёй дзейнасьці за граніцаю грамадзянін . . . . . . . . . . . павінен абавязкова выконваць дэкрэты Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў аб замежным гандлі за 16 кастрычніка 1922 г. і 12 красавіка 1923 г. (З. З. РСФСР 1923 г., № 31, арт. 343), а таксама інструкцыю Савету Працы і Аба-

роны да дэкрэту за 12 кастрычніка 1923 г. (З. З. РСФСР 1923 г., № 32, арт. 359).

Усе ўгоды заключаюцца грамадзянінам . . . . . . . . . . толькі пасьля зацьверджаньня іх гандлёвым прадстаўнікам, прычым, аднак, гэта зацьверджаньне не накладае на ўрад БССР ніякай адказнасьці за гэтыя ўгоды.

Гэтае пасьведчаньне павінна быць зарэгістравана ў гандлёвым прадстаўніцтве на працягу 48 гадзін пасьля прыбыцьця на месца назначэньня.

(Подпіс, месца для пячаткі).

*Увага.* Пакінутыя пропускі запаўняюцца камандыруючым органам, прычым падрабязна паказваецца сутнасьць даручаных апярацый.

*Дадатак № 2-а.*

Форма даверанасьці для прадстаўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, якія камандыруюцца паводле п. „а" арт. 1 Інструкцыі.

## ДАВЕРАНАСЬЦЬ

Паказчык гэтага . . . . . . . . зьяўляецца прадстаўнікам . . . . . . . . . . . з раёнам дзейнасьці . . . . . . . . . . . . . . . .

У адпаведнасьці з гэтым грамадзянін . . . . . . . . упаўнаважваецца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Для выкананьня паказаных вышэй заданьняў грамадзяніну . . . . . . . . . . . . . . . . даецца права . . . . . . . . . . . . . . .

На падставе дэкрэту Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 16 кастрычніка 1922 г. (З. З. РСФСР 1922 г., № 65, арт. 846) усе ўгоды, якія заключаюцца грамадзянінам . . . . . . . . . . . на падставе гэтай даверанасьці, павінны абавязкова зацьвярджацца гандлёвым прадстаўнікам СССР у . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ва ўсіх без выключэньня ўгодах і дагаворах, якія заключаюцца грамадзянінам . . . . . . . . . . . на падставе гэтай даверанасьці, абавязкова павінен быць уключан пункт, паводле якога кантрагэнт абавязваецца заяўляць усякія, якія могуць вынікнуць з угоды, прэтэнзіі, толькі да . . . . . . . . . . (назва дзяржаўнага прадпрыемства) і адмаўляецца ад заяўленьня якіх-небудзь прэтэнзій да дзяржавы, да гандлёвага прадстаўніцтва, народных камісарыятаў або цэнтральных установаў, якім . . . . . . . . . . . . . . . (назва дзяржаўнага прадпрыемства) падпарадкавана.

Даверанасьць гэта выдадзена . . . . . . . . . . . . . . . . і правадзейна да . . . . . . . . . . . . . .

(Подпіс, месца для пячаткі).

*Увага.* Пакінутыя пропускі запаўняюцца камандыруючым органам, прычым падрабязна паказваецца сутнасьць даручаных апярацый, а таксама аб'ём і характар дадзеных праў.

*Дадатак № 3-а.*

Форма пасьведчаньня для прадстаўнікоў дзяржаўных установў, якія камандыруюцца за граніцу паводле п. „б" арт. 1 Інструкцыі.

Правадзейна да . . . . . . . . . . . . . . . . .

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Дана гэта грамадзяніну . . . . . . . . . . у тым, што ён камандыруецца ў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . пад загад гандлёвага прадстаўніцтва СССР, як прадстаўнік . . . . . . . . . . . . . . (назва дзяржаўнай установы).

На грамадзяніна . . . . . . . . . . . . . . ускладаецца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Грамадзянін . . . . . . . . . . . . . . . учыняе гандлёвыя апарацыі за граніцаю ў складзе гандлёвага прадстаўніцтва на падставе арт. 5 дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў аб замежным гандлі за 12 красавіка 1923 г. (З. З. РСФСР 1923 г., № 31, арт. 343) і паводле інструкцыі Савету Працы і Абароны да паказанага дэкрэту (З. З. РСФСР 1923 г., № 32, арт. 359).

Гэтае пасьведчаньне павінна быць падана гандлёваму прадстаўніку на працягу 48 гадзін пасьля прыбыцьця падаўца на месца назначэньня і заменена адпаведным пасьведчаньнем гандлёвага прадстаўніцтва.

(Подпіс, месца для пячаткі).

*Увага.* Пакінутыя пропускі запаўняюцца камандыруючым органам, пры чым падрабязна паказваецца сутнасьць даручаных апарацый.

*Дадатак № 4-а.*

Форма пасьведчаньня для супрацоўнікаў, якія камандыруюцца за граніцу дзяржаўнымі органамі для дапамогі рэалізацыі заказаў у парадку ліцэнзійным (п. „г" арт. 1 інструкцыі).

Правадзейна да . . . . . . . . . . . . . . . .

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Дана гэта грамадзяніну . . . . . . . . . . . . . . у тым, што ён камандыруецца ў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . пад загад гандлёвага прадстаўніцтва СССР для дапамогі ў рэалізацыі заказу ў парадку ліцэнзіі Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю за . . . . . . . . . . . . . . . . № . . . . . . . . . . . . . . .

Усе апарацыі, зьвязаныя з выкананьнем паказанага вышэй даручэньня, грамадзянін . . . . . . . . . . . . . праводзіць у адпаведнасьці з пастановаю Савету Народных Камісараў аб кантынгэнтах, ліцэнзіях і пасьведчаньнях на ўвоз і вываз, а таксама дэкрэтамі Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў аб замежным гандлі і інструкцыямі да паказаных дэкрэтаў і дзейнічае за граніцаю пад беспасрэдным кіраваньнем гандлёвага прадстаўніка СССР.

У выпадках, прадугледжаных арт. 16 дэкрэту Савету Народных Камісараў аб кантынгэнтах, ліцэнзіях і пасьведчаньнях на ўвоз і вываз, грамадзянін . . . . . . . . . . . . . . можа з дазволу гандлёвага прадстаўніка, на падставе выдадзенай яму даверанасьці, заключыць адпаведную ўгоду па даручанай яму апярацыі, прычым гэтая ўгода павінна быць зацьверджана гандлёвым прадстаўніком.

Зацьверджаньне гандлёвага прадстаўніка, аднак, не накладае на Ўрад РСФСР ніякай адказнасьці па гэтай угодзе.

Гэтае пасьведчаньне павінна быць зарэгістравана ў гандлёвым прадстаўніцтве па працягу 48 гадзін пасьля прыбыцьця на месца назначэньня.

(Подпіс, месца для пячаткі).

*Дадатак № 5-а.*

Форма даверанасьці для супрацоўнікаў, якія камандыруюцца за граніцу дзяржаўнымі органамі для дапамогі рэалізацыі заказаў у парадку ліцэнзійным (п. „г", арт. 1 Інструкцыі).

## ДАВЕРАНАСЬЦЬ.

Паказчык гэтага . . . . . . . . . . . . . . . . . . камандыраваны . . . . . . . . . . . . . . . . . для рэалізацыі ліцэнзіі, выдадзенай . . . . . . . . . . Народным Камісарыятам Замежнага Гандлю . . . . . . . . . . . . . 192 г. . . за № . . . . .

У адпаведнасьці з гэтым грамадзянін . . . . . . . . . . . . Упаўнаважваецца . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Для выкананьня паказаных вышэй заданьняў гр-ну . . . . . . . . . . . . даецца права . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На падставе дэкрэту Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 16 кастрычніка 1922 г. (З. З. РСФСР 1922 г., № 65, арт. 846) усе ўгоды, якія заключаюцца грамадзянінам . . . . . . . . . . . на падставе гэтай даверанасьці, павінны абавязкова зацьвярджацца гандлёвым прадстаўнікам РСФСР у . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ва ўсіх без выключэньня ўмовах і дагаворах, якія заключаюцца грамадзянінам . . . . . . . . . . . . на падставе гэтай даверанасьці, абавязкова павінен быць уключан пункт, паводле якога кантрагэнт абавязваецца заяўляць усялякія, якія могуць вынікнуць з угоды, прэтэнзіі толькі да . . . . . . . . . . . . . . . . (назва камандыруючага органу) і адмаўляецца ад заяўленьня жадных прэтэнзій да дзяржавы, гандлёвага прадстаўніцтва, жадных камісарыятаў або цэнтральных устаноў, якім . . . . . . . . . . . . . . . (назва камандыруючага органу) падпарадкавана . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Угоды на падставе гэтай даверанасьці могуць заключацца толькі тады, калі на іх будуць надпісы гандлёвага прадстаўніка СССР у . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . , якія дазваляюць заключэньне такіх угод.

(Подпіс, месца для пячаткі).

*Увага.* Пакінутыя пропускі запаўняюцца камандыруючым органам, прычым паказваецца сутнасьць даручаных апярацый.

*Дадатак № 17*

(да літ. „д“ арт. 14 Інструкцыі).

## Загад Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету СССР № 63.

*2 лютага 1926 г. г. Масква.*

1. Прыняць для кіраўніцтва дададзенае да гэтага загаду палажэньне „Аб прыезьдзе на абшары СССР і аб выезьдзе за межы Саюзу ССР“, зацьверджанае пастановаю ЦВК і СНК Саюзу ССР 5-VI 1925 г. (З. З. СССР 1925 г., № 37, арт. арт. 276 і 277).

2. Выдачу дазволаў на выезд за межы Саюзу ССР вайскоўцам, якія знаходзяцца ў доўгатэрміновым адпуску, а таксама, якія праходзяць навучаньне па-за вайсковым парадкам, ускладаецца на начальнікаў тэрытарыяльных кіраўніцтваў або камандзіраў дывізій, дзе паказаныя катэгорыі грамадзян лічацца на падліку.

3. Увясьці ў дзеяньне дададзеную да гэтага загаду „інструкцыю аб парадку выезду за межы Саюзу ССР вайскоўцаў і вайсковапавінных“.

4. Прыняць для кіраўніцтва дададзеную да гэтага загаду пастанову УЦВК і СНК РСФСР за 31-VIII 1925 г. „Пра скасаваньне законаў, якія страцілі сілу з выданьнем Палажэньня аб прыезьдзе на абшары СССР і аб выезьдзе за межы СССР“.

5. Скасаваць загады РВСР 1922 г. № 2872 (у 1 частцы пастановы СНК РСФСР за 1-XII 1922 г., якія датычацца парадку выезду за межы вайскоўцаў, арт. арт. 6, 7), 1923 г. № 9, загад РВС СССР 1924 г. № 256 і абежнікі Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў 1923 г. № 51 і 1924 г. № 9.

Намесьнік Старшыні Рэвалюцыйна-Ваеннага
Савету СССР *Уншліхт*.

*Зацьвярджаю: 2 лютага 1926 г.*
*Намесьнік Старшыні Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету СССР*
*Уншліхт.*

## Інструкцыя аб парадку выезду за межы Саюзу ССР вайскоўцаў і ваеннапавінных.

### Разьдзел I.

### Агульныя палажэньні.

Арт. 1. Выезд вайскоўцаў РСЧА і ваеннапавінных за межы Саюзу ССР дазваляецца толькі ў парадку, прадугледжаным „Палажэньнем аб прыезьдзе на абшары СССР і аб выезьдзе за межы Саюзу“ (Зацьвер. паст. ЦВК і СНК СССР 5-VI 1925 году. З. З. СССР 1925 году, № 37, арт. арт. 276 і 277).

Арт. 2. Замежныя пашпарты вайскоўцам выдаюцца, у залежнасьці ад мэты выезду за мяжу, наступных відаў: а) дыплёматычныя, б) службовыя або в) агульнаграмадзянскія. Парадак выдачы пашпартоў прадугледжан у разьдзеле II гэтай інструкцыі.

Арт. 3. Замежныя пашпарты ўсіх трох відаў выдаюцца вайскоўцам на агульных з усімі грамадзянамі СССР падставах, калі яны выконваюць правілы вайсковага падліку, апроч паасобных катэгорыяў асоб, прадугледжаных у арт. 18 гэтай інструкцыі, для якіх, апроч выкананьня правілаў вайсковага падліку, трэба мець дазвол на выезд за межы Саюзу ад адпаведных органаў Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў.

Арт. 4. Усе службовыя зносіны з вайскоўцамі і вайсковапавіннымі, якія знаходзяцца за граніцаю, робяцца толькі праз органы Народнага Камісарыяту Замежных Спраў СССР.

Арт. 5. Насіць вайскоўцам РСЧА за межамі Саюзу ССР прысвоеную ім вайсковую форму бязумоўна забараняецца, апроч выпадкаў, прадугледжаных арт. 7 гэтай інструкцыі.

## Разьдзел II.

## Аб парадку выезду за межы СССР вайскоўцаў РСЧА.

### А. Аб выезьдзе за межы па дыплёматычнаму пашпарту.

Арт. 6. Дыплёматычныя пашпарты выдаюцца Народным Камісарыятам Замежных Спраў СССР вайскоўцам РСЧА, калі яны назначаюцца ў камандыроўку за граніцу на наступныя пасады:

а) вайсковых агэнтаў (атташэ) па вайсковых, марскіх і паветраных справах СССР за граніцаю і іх памочнікаў пры ўпаўнаважаных прадстаўніцтвах СССР;

б) вайсковых экспэртаў па вайсковых, марскіх і паветраных справах пры міжнародных дэлегацыях СССР і іншых асобах спэцыяльнаю пастановаю Калегіі Народнага Камісарыяту Замежных Спраў СССР.

Арт. 7. Насіць за граніцаю вайсковую форму дазваляецца вайскоўцам, камандыраваным за граніцу афіцыйнымі прадстаўнікамі Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў СССР, толькі тады, калі яны выступаюць афіцыйна па абавязку, як прадстаўнікі Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў (урачыстасьці і прыём ва ўрадавых уладаў чужаземных дзяржаў, дыплёматычныя прыёмы, прадстаўленьні вышэйшым прадстаўнікам чужаземных арміяў, запрашэньні на агляды і вучэньні войск і інш.). Аднак, нават у паказаных выпадках трэба прыстасоўвацца да правіл, існуючых аб гэтым пытаньні ў адпаведнай чужаземнай дзяржаве.

### Б. Аб выезьдзе вайскоўцаў за граніцу ў камандыроўку.

Арт. 8. Камандыраваньне па службовых патрэбах за граніцу вайскоўцаў РСЧА робіцца па прапанове Начальнікаў Кіраўніцтваў РСЧА, беспасрэдна падпарадкаваных Народнаму Камісару Ваенных і Марскіх Спраў, і зацьвярджаецца ў кожным паасобным выпадку Рэволюцыйна-Ваенным Саветам СССР.

Арт. 9. Начальнік Кіраўніцтва, калі трэба камандыраваць супрацоўніка (оў) Кіраўніцтва па службовых патрэбах за граніцу, падае матываванае хадайніцтва ў Рэвалюцыйна-Ваенны Савет СССР аб зацьвярджаньні камандыроўкі і хадайнічае аб зносінах з Народным Камісарыятам Замежных Спраў СССР для выдачы службовага пашпарту для выезду з Саюзу данаму (ым) супрацоўніку (ам).

Арт. 10. У справе пражываньня за граніцаю і звароту на абшары СССР камандыраваныя за граніцу вайскоўцы падпарадкоўваюцца органам СССР за граніцаю (упаўнаважаным, прадстаўніцтвам, консулам) у парадку, прадугледжаным адпаведнымі палажэньнямі аб савецкіх органах за граніцаю.

### В. Аб выезьдзе за граніцу вайскоўцаў па прыватных справах.

Арт. 11. Вайскоўцы РСЧА маюць права выехаць за межы СССР па асабістых справах паводле наступных артыкулаў.

Арт. 12. Калі вайсковец захоча скарыстаць дадзены яму водпуск за граніцаю, то ён павінен падаць рапарт па камандзе з матываваным

хадайніцтвам аб дазволе выехаць за межы Саюзу на час водпуску, да якога дадаюцца адпаведныя дакумэнты, якія пасьвядчаюць патрэбу паездкі.

Арт. 13. Калі начальнік, якім дазваляецца вайскоўцу водпуск, прызнае паднятае хадайніцтва аб дазволе на выезд за граніцу заслугоўваючым увагі, то ён дае адпаведнае заключэньне і ўваходзіць па камандзе з адпаведным хадайніцтвам перад інстанцыямі, прадугледжанымі арт. 14 гэтай інструкцыі.

Арт. 14. Дазволы на выезд вайскоўцаў за межы Саюзу для скарыстаньня водпуску выдаюцца Рэвалюцыйна-Ваенным Саветам франтоў, армій, акруг, флётаў, камандуючымі вайскамі акруг (дзе няма Рэвалюцыйна-Ваенных Саветаў), або іншымі органамі Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў, асобна ўпаўнаважанымі РВС СССР адпаведна па месцы службы вайскоўца.

Арт. 15. Аб выдачы дазволу, з даданьнем яго, або аб нявыдачы дазволу паведамляецца начальнік, памянёны ў арт. 13-м, для паведамленьня вайскоўцу, які падаў хадайніцтва.

Арт. 16. Вайскоўцы, якія атрымалі паводле арт. арт. 12—15 дазвол на выезд за межы Саюзу на час водпуску, пасьля здачы спраў і атрыманьня вайсковых дакумэнтаў зварочваюцца ў мясцовыя губэрскія (краёвыя) адміністрацыйныя аддзелы з хадайніцтвам аб выдачы агульна-грамадзянскага замежнага пашпарту, на агульных з усімі грамадзянамі падставах.

Арт. 17. Прыбыўшы на месца водпуску, а таксама ад'яжджаючы з яго, вайскоўцы павінны зарэгістравацца ў савецкіх органах за граніцаю, паводле парадку, прадугледжанага арт. 257 Часовага Статуту Гарнізоннай Службы РСЧА.

## Разьдзел III.

### Аб парадку выезду за межы Саюзу ССР вайсковапавінных.

Арт. 18. Вайсковапавінныя грамадзяне СССР маюць права выехаць за граніцу па замежных пашпартох—дыплёматычных, службовых або агульнаграмадзянскіх — калі яны выканаюць правілы вайсковага падліку, на агульных з усімі грамадзянамі падставах, апроч: а) начальніцкага складу РСЧА, які знаходзіцца ў запасе; б) грамадзян прызыўных гадоў на працягу 6 месяцаў да прызыву; в) грамадзян, равесьнікі якіх прызваны на сапраўдную вайсковую службу (апроч асоб, якія зьняты з падліку па хваробе).

Для пералічаных у п. п. „а“, „б“, „в“ катэгорый асоб, апроч выкананьня правілаў вайсковага падліку, трэба мець дазвол на выезд за межы СССР, які атрымоўваецца па месцы пражываньня або службы ад рэвалюцыйна-ваенных саветаў франтоў, армій, акруг, флётаў, камандуючых вайскамі акруг (дзе няма РВС), або ад іншых органаў Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў, асобна ўпаўнаважаных РВС СССР.

Да адпаведных загадаў дазволы паводле літар „б“ і „в“ разьдзелу 3 патрэбны для грамадзян, якія нарадзіліся ў 1901, 1902, 1903, 1904, 1905 і 1906 г. г., апроч грамадзян паказаных гадоў, якія зьняты з падліку па хваробе.

Начальнік ГК РСЧА (подпіс).

*Дадатак № 18*
(да арт. 14 Інструкцыі).

**Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР**

**аб парадку атрыманьня мэдычнымі працаўнікамі дазволаў на часовы выезд заграніцу.**

Для ўрэгуляваньня пытаньня аб часовым выезьдзе за граніцу мэдычнага пэрсаналу ўстанаўляецца наступны парадак:

1. Для асоб, якія камандыруюцца заграніцу:

Установы, якія жадаюць камандыраваць свайго супрацоўніка заграніцу (для ўдзелу на зьездах, для навуковага ўдасканаленьня, для азнаямленьня з пастаноўкаю мэдыцынскай справы і г. д.) за дзяржаўны кошт або за кошт камандыраванага просяць праз акруговыя аддзелы аховы здароўя дазвол на гэта ў Народным Камісарыяце Аховы Здароўя з даданьнем анкет паводле наступнай формы.

Пасьля атрыманьня пісьмовай згоды ад Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя ўстановы, якія камандыруюць супрацоўніка заграніцу, зварочваюцца ў мясцовыя сакратарыяты акруговых выканаўчых камітэтаў за атрыманьнем пасьведчаньня аб тым, што няма перашкод на выезд заграніцу. Апошнія выдаюцца на рукі камандыраваным, на падставе чаго, прыбыўшы ў Менск, атрымоўваюць у Народным Камісарыяце Аховы Здароўя камандыровачныя пасьведчаньні і ў Народным Камісарыяце Ўнутраных Спраў на аснове іх замежныя пашпарты.

ФОРМА АНКЕТЫ:

Прозьвішча, імя, па бацьку, займаемая пасада і назва ўстановы, падрабязнае матываваньне мэты камандыроўкі, месца і тэрмін камандыроўкі, за кошт каго паездка, подпіс і пячатка акруговага аддзелу аховы здароўя.

2. Для асоб, якія выяжджаюць па прыватных справах:

Мэдыцынскія лекары, якія жадаюць выехаць на пэўны час заграніцу па прыватных справах (лячэньне, пабачаньне з сваякамі, урэгуляваньне маемасных пытаньняў і г. д.) паднімаюць хадайніцтва перад акруговым аддзелам аховы здароўя, паказваючы мэту паездкі, тэрмін і месца, куды яны едуць.

Калі пытаньне будзе вырашана ў станоўчым сэнсе, то лекары зварочваюцца ў сакратарыяты акруговых выканаўчых камітэтаў за пасьведчаньнем аб тым, што няма перашкод на выезд заграніцу.

Апошнія выдаюцца на рукі заяўнікам для ўзгадненьня з Народным Камісарыятам Аховы Здароўя і атрыманьня заграночнага пашпарту ад Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў.

*Увага.* Іншыя мэдычныя працаўнікі (зубныя лекары, фармацэўты і працаўнікі ніжэйшай кваліфікацыі) ня просяць дазволу ад Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

17 мая 1925 г.,
№ 179.

*Дадатак № 19*

(да арт. 14 Інструкцыі).

## Правілы аб парадку выезду грамадзян СССР заграніцу марскім або мяшаным чыгуначна-марскім шляхам.

1. Пастановаю Савету Працы і Абароны за 11/III-1923 г. (газэта „Экон. Жизнь“ № 66 за 23/III-25 г.) зацьверджан статут Пасажырска-Перавознага Акцыйнага Т-ва „Союзфлот“, да якога, паводле § 1 статуту, пераходзіць ажыцьцяўленьне ўсіх дадзеных паст. УЦВК і СПА за 9/V-1923 г. (З. З. РСФСР 1923 г., № 41, арт. 446) Дабравольнаму Флёту і Дзяржаўнаму Гандлёваму Флёту выключных праў па абслугоўваньні эміграцыйнай і іміграцыйнай справы.

2. Выключнае права перавозкі эмігрантаў Саюзфлёту пашыраецца на грамадзян саюзных рэспублік, якія выбываюць за межы СССР і едуць заграніцу марскім або мяшаным чыгуначна-марскім шляхам для свайго гаспадарчага ўпарадкаваньня ў іншай краіне, напр.:

а) для адшуканьня сабе сталай або сэзоннай працы;

б) для вядзеньня свае ўласнай гаспадаркі, або прадпрыемства;

в) для сталага пражываньня на сродкі іншых асоб, якія жывуць заграніцаю.

*Увага.* Манапольнае права Саюзфлёту пашыраецца таксама на перавозку паломнікаў, якія выяжджаюць заграніцу.

3. Усе грамадзяне СССР, якія выяжджаюць з мэтаю, паказанаю ў арт. 2, у Аўстралію, Паўночную і Паўднёвую Амэрыку, Афрыку і Палястыну, павінны падаваць у адміністрацыйныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў для атрыманьня агульнаграмадзянскага замежнага пашпарту копіі рэгістрацыйных картак Саюзфлёту.

4. Агульнаграмадзянскія замежныя пашпарты асобам, якія выяжджаюць у Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты з мэтамі, паказанымі ў арт. 2, выдаюцца пасьля падачы копіі рэгістрацыйнай карткі, атрыманай выключна ад кіраўніцтва Саюзфлёту ў Маскве.

Пашпарты асобам, якія выяжджаюць з тымі самымі мэтамі ў Аўстралію, Паўднёвую Амэрыку, Афрыку і Палястыну, выдаюцца пасьля падачы копіі рэгістрацыйнай карткі ад кіраўніцтва Саюзфлёту ў Маскве або яго мясцовых агэнцтваў.

5. Пры паездках у паказаныя ў арт. 3 краіны на часовае пражываньне, для лячэньня і інш. выпадкі, не прадугледжаныя арт. 2, гр-не, якія жадаюць выехаць, павінны падаць у адміністрацыйныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў даведку Саюзфлёту або яго мясцовых агэнцтваў аб тым, што на перавозку данай асобы манаполія Саюзфлёту не пашыраецца.

6. У пашпартох грамадзян, якія выяжджаюць не ў заакіянскія краіны па прыватных справах, паказваецца, што даны пашпарт для выезду ў Аўстралію, Паўночную і Паўднёвую Амэрыку, Афрыку і Палястыну не праваздейны.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Загадчык Чужаземнай Часткі *І. Губскі.*

*Дадатак № 20*
(да арт. 18 Інструкцыі).

**Узор штампу—папраўленьне пашпарту і візы.**

Узята Р. . . . . . К. . .
Взыскано

Закасаванаму
Зачеркнутому . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

і прыпісанаму
и приписанному . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . Верыць
Верить

Дата

Загадчык Чужаземнай Часткі
Зав. Иностранной Частью

**Блянк установы**

*Дадатак № 21*
(да арт. 22 Інструкцыі).

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Дана гэта . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(кім выдана)

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(каму, прозьвішча, імя і па бацьку)

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(гады) (займаемае пасада)

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(мэта паездкі)

Месца для фатаграфічнай карткі, на пярэднім баку павінен быць уласнаручны подпіс

Правадзейна да . . . . . . . . . 192 . . г.

---

Месца для віз СССР

---

Месца для адзнак пагранічнага пункту СССР пры выезьдзе.

Месца для адзнак пагранічнага пункту СССР пры выезьдзе.

---

(Пераклад тэксту пасьведчаньня на чужаземнай мове).

---

Месца для чужаземных віз.

---

Месца для чужаземных візаў

Месца для чужаземных візаў

*Дадатак № 22*
(да арт. 26 Інструкцыі).

## Даведка аб нявыдачы дазволу на выезд заграніцу.

Б. С. С. Р.

**Чужаземная Частка НКУС.**

„. . .“ . . . 192  г.  На квіток № . . . . .

г. Менск

КАРЭНЧЫК ДАВЕДКІ № . . . .

Гр. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Падстава . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

С. С. С. Р.  Б. С. С. Р.

**Чужаземная Частка НКУС.**

„. . .“ . . . 192  г.  На квіток № . . . . .

. . . . . . . .

ДАВЕДКА № . . . .

Гр. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтым Чужаземная Частка НКУС паведамляе, што дазвол на выезду заграніцу Вам ня можа быць выданы.

Заг. Чужаземнай Часткі

*Дадатак № 23*
(да арт. 29 Інструкцыі).

## Віза з правам прыезду і выезду.

Яўлен у Паўнамоцным Прадстаўніцтве СССР у . . . . . . . . . . . . . . . . . . у г. . . . . . . . . . . . . . . . . . паказчык гэтага гр. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . сьледуючы на абшары СССР і назад з . . . . . . . . . . . . . . . . . . № . . . . . правадзейна для прыезду ў СССР праз пагранічны пункт да . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Правядзейна для выезду з СССР на тэрмін ня больш . . . . . дзён ад дня пераезду граніцы.

Упаўнаважаны Прадстаўнік СССР (подпіс).

| Месца для штампу |
|---|

*Дадатак № 24*
(да арт. 23 Інструкцыі).

ДАВЕДКА

Выдадзена гэта Чужаземнаю Часткаю НКУС у тым, што аб выдачы замежнага пашпарту грамадз. . . . . . . . . . . . . . . . . . . Чужаземная Частка перашкод ня мае.

Дана для падачы ў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . місію каб атрымаць згоду на выдачу візы на ўезд.

Загадчык Чужаземнай Часткі

## 5. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра парадак прызнаньня чужаземцаў стала пражываючымі (даміцыліраванымі) і часова пражываючымі ў БССР.

Выдана для ўжываньня пастановы ЦВК СССР за 3 верасьня 1926 г. аб чужаземцах, якія часова ці заўсёды жывуць у СССР (З. З. СССР 1926 г., № 59, арт. 439), і зьмены і дапаўненьня арт. арт. 13 і 14 палажэньня аб пасьведчаньнях на пражываньне для чужаземцаў (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г. № 3).

1. Стала пражываючымі (даміцыліраванымі) чужаземцамі ў БССР прызнаюцца тыя чужаземцы, якія маюць нацыянальныя дакумэнты, прадугледжаныя арт. 1 „Палажэньня аб пасьведчаньнях на пражываньне для чужаземцаў", законна жывуць у СССР і займаюцца на абшарах СССР ня менш 18 месяцаў прамысловасьцю, гандлем, рамяством і іншымі відамі незабароненай законам дзейнасьці.

2. Законнасьць пражываньня і бязупыннасьць заняцьця незабароненаю законам дзейнасьцю ня менш 18 месяцаў, патрэбныя для прызнаньня стала пражываючымі (даміцыліраванымі), павінны быць пацьверджаны чужаземцамі адпаведнымі дакумэнтамі: у першым выпадку—падачаю пасьведчаньня на пражываньне для чужаземцаў, тэрмін якога ня зышоў, а ў другім выпадку—аднаго з наступных дакумэнтаў, у залежнасьці ад роду заняткаў чужаземцаў:

а) рабочымі і служачымі—разьліковай кніжкі, ці даведкі ад устаноў і прадпрыемстваў, у якіх павінна быць паказана з якога часу працуе чужаземец;

б) сялянамі—даведкі мясцовых саветаў, ці раённых выканаўчых камітэтаў, у якіх павінна быць паказана чым займаўся чужаземец ў апошнія 18 месяцаў, а таксама ці бесьперапынку ён займаўся гэтым родам дзейнасьці на працягу паказанага часу, ці не. Імігранты, якія займаюцца земляробствам, могуць падаваць замест даведак сельскіх саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў аналёгічныя даведкі кіраўніцтваў сельска-гаспадарчых камун;

в) асобамі вольных прафэсій, саматужнікамі, рамесьнікамі, гандлярамі і інш.—даведкі, выдадзеныя дамакіраўніцтвамі, жылішчнымі таварыствамі, сельскімі саветамі, ці раённымі выканаўчымі камітэтамі, у якіх павінны быць паказаны такія самыя зьвесткі, як і ў даведках, прадугледжаных літ. „б" гэтага артыкулу.

3. Члены сем'яў даміцыліраваных чужаземцаў (жонка, бацькі, дарослыя браты і сёстры) прызнаюцца даміцыліраванымі толькі тады, калі яны ня маюць самастойнага заробку, знаходзяцца на поўным утрыманьні і жывуць апошнія 18 месяцаў разам з асобаю, якая займаецца незабароненаю законам дзейнасьцю, для чаго трэба падаць у адміністрацыйны аддзел даведкі жылішчных таварыстваў, дамакіраўніцтваў, ці раённых выканаўчых камітэтаў, у якіх павінна быць паказана з якога часу гэтыя асобы жывуць разам з чужаземцам, на ўтрыманьні якога яны знаходзяцца, а таксама і што яны знаходзяцца на ўтрыманьні і ня маюць самастойных крыніц існаваньня.

4. Пералік дакумэнтаў, паказаных у арт. 2 і 3 гэтай інструкцыі, не зьяўляецца вычэрпваючым, а таму ў тых выпадках, калі чужаземец у сувязі з пераездам у іншае месца жыцьця, альбо з якой-небудзь іншай прычыны ня можа падаць пералічаных дакумэнтаў, то факт заняцьця ня менш 18 месяцаў незабароненаю законам дзейнасьцю можа быць пасьведчаны і іншымі дакумэнтамі, напрыклад: членскімі білетамі прафэсыянальных саюзаў, патэнтамі, паведамленьнямі аб аплаце падаходнага падатку, зраўнальнага збору і інш.

У выключных выпадках адміністрацыйны аддзел акруговага выканаўчага камітэту мае права прыняць замест аднаго з памянёных дакумэнтаў пасьведчаныя ў натарыяльным парадку паказаньні 2 сьведкаў.

5. Калі чужаземец бязупынна на працягу 18 месяцаў займаўся адначасова, ці пасьлядоўна некалькімі прафэсіямі, то ён павінен падаць адпаведныя дакумэнты аб кожнай прафэсіі ў залежнасьці ад роду заняткаў.

6. Ня могуць быць прызнаны стала пражываючымі (даміцыліраванымі) чужаземцамі наступныя катэгорыі чужаземных грамадзян, якія падаюць нацыянальныя дакумэнты, паказаныя ў арт. 1 „Палажэньня аб пасьведчаньнях на пражываньне для чужаземцаў“:

а) грамадзяне, якія ня жывуць на месцы, а вандруюць, ня маюць аселасьці, а таксама і члены іх сем'яў, што знаходзяцца на ўтрыманьні гэтых асоб;

б) грамадзяне, якія знаходзяцца пад судом, ці пад дазнаньнем, альбо асуджаны паводле наступных артыкулаў Крымінальнага Кодэксу 1923 году: 58—73, 75 апроч часткі 4, 76, 77, 78 і 80 апроч 2 і 3 часткі, 83. 84, 85, 85-а, 86 апроч 2 часткі, 91, 92, 97, 98 частка 2, 104, 105, 107—117, 120, 121, 128, 128-а, 129, 130, 132, 136—139, 142—149, 155, 159, 161, 162, 166, 168, 169 169-а, 170, 175, 176, 180—185, 187, 189, 190, 190-а, 193, 194, 196, 198, 199 і 217.

Усе асобы, якія не зьяўляюцца грамадзянамі СССР, бо не падаюць адпаведных нацыянальных дакумэнтаў і ня маюць установуленага 18 месячнага стажу заняцьця незабароненаю законам дзейнасьцю, а таксама і асобы бяз вызначаных заняткаў і прафэсій, павінны прызнавацца часова пражываючымі.

8. Прызнаньне стала пражываючымі (даміцыліраванымі) чужаземцамі робіцца адміністрацыйнымі аддзеламі акруговых выканаўчых камітэтаў толькі тады, калі чужаземец падніме адпаведнае хадайніцтва, да якога павінны быць прыкладзены дакумэнты, якія-б даводзілі законнасьць пражываньня на абшары СССР і заняцьця ня менш 18 месяцаў не забароненаю законам дзейнасьцю (арт. арт. 2, 3 і 4 гэтай інструкцыі).

9. Калі чужаземец будзе прызнаны стала пражываючым (даміцыліраваным), то адміністрацыйны аддзел акруговага выканаўчага камітэту не пазьней як праз сем дзён выдае яму новае пасьведчаньне на пражываньне, паказаўшы ў адпаведным месцы тэксту яго „сталае“ пражываньне.

Пры выдачы новага пасьведчаньня на пражываньне бярэцца кошт блянку пасьведчаньня ў суме 25 кап.

Калі новае пасьведчаньне на пражываньне выдаецца на больш доўгі час, чымся старае пасьведчаньне на пражываньне, то з чужаземца бяруцца зборы, установуленыя пастановаю ЦВК і СНК СССР за 6 красавіка 1926 г. (З. З. СССР 1926 г., № 27, арт. 167).

10. Асобам, якія заяўляюць сябе чужаземцамі, падаюць належныя нацыянальныя дакумэнты, прадугледжаныя арт. 1 „Палажэньня пра пасьведчаньні на пражываньне для чужаземцаў“, і тым самым даводзяць сваё чужаземнае грамадзянства, 18-месячны тэрмін залічваецца з моманту заняцьця незабароненаю законам дзейнасьцю, а не з моманту доваду свайго чужаземнага грамадзянства.

11. Аптанты могуць прызнавацца даміцыліраванымі толькі тады, калі яны пасьля атрыманьня ад адміністрацыйных органаў спэцыяльнага дазволу на пражываньне на абшарах СССР займаліся незабароненаю законам дзейнасьцю ня менш 18 месяцаў.

12. Аптанты, якія выехалі з абшараў СССР і зьвярнуліся ў СССР, прызнаюцца стала пражываючымі (даміцыліраванымі) толькі тады,

калі яны пасьля зваротнага прыезду ў СССР на працягу 18 месяцаў займаліся незабароненаю законам дзейнасьцю.

13. За асобамі, прызнанымі даміцыліраванымі чужаземцамі, якія выяжджаюць за граніцу і тым самым спыняюць сваю дзейнасьць на абшарах СССР, калі яны вернуцца не пазьней 6 месяцаў ад дня выезду, захоўваецца права на прызнаньне даміцыліраванымі.

14. Чужаземцам, якім ужо выдадзена пасьведчаньне на сталае пражываньне, адміністрацыйныя аддзелы павінны запрапанаваць на працягу трох месяцаў падаць дакумэнты, паказаныя ў арт. арт. 2, 3 і 4 гэтай інструкцыі, для прызнаньня іх даміцыліраванымі.

Калі на працягу гэтага тэрміну чужаземцамі ня будуць падаьы запатрабаваныя дакумэнты, то адміністрацыйны аддзел робіць адпаведную папраўку ў выдадзеным пасьведчаньні на пражываньне, замяніўшы слова „сталае“ словам „часовае“. Упісаная папраўка павінна быць паказана ў „службовых“ адзнаках пасьведчаньня на пражываньне і зацьверджана адпаведнымі подпісамі і прыкладаньнем пячаткі.

15. Калі зьмяняецца пасьведчаньне на пражываньне з формы № 2 на форму № 1, то адміністрацыйныя аддзелы павінны гаварыць чужаземцам аб тым, што, каб стаць прызнанымі даміцыліраванымі чужаземцамі, яны павінны не пазьней як праз два тыдні падаць дакумэнты, прадугледжаныя арт. арт. 2, 3 і 4 гэтай інструкцыі.

Калі ў паказаны тэрмін чужаземец не падасьць адпаведных дакумэнтаў, то ў яго пасьведчаньні на пражываньне паказваецца „часовае“ пражываньне, прычым гэтая адзнака можа быць зьменена на „сталае“ пражываньне толькі ў агульным парадку пасьля падачы асобнага хадайніцтва.

16. Прызнаньне даміцыліраванымі чужаземцамі ня зьвязана ні з якімі тэрмінамі і кожны чужаземец, які законна жыве і ня менш 18 месяцаў займаецца незабароненаю законам дзейнасьцю, у любы час можа падняць хадайніцтва перад адміністрацыйным аддзелам аб прызнаньні яго даміцыліраваным.

17. Чужаземцам, прызнаным стала пражываючымі (даміцыліраванымі), пасьведчаньні на пражываньне выдаюцца на год, пасьля сканчэньня якога гэты тэрмін адкладаецца яшчэ на столькі-ж.

18. Чужаземцам, прызнаным часова пражываючымі, пасьведчаньні на пражываньне выдаюцца толькі на тэрміны, устаноўленыя арт. арт. 14, 16, 21 і 23 „Палажэньня пра пасьведчаньні на пражываньне для чужаземцаў“.

19. Калі чужаземцы ня будуць прызнаны адміністрацыйнымі аддзеламі даміцыліраванымі, то яны могуць абскардзіць гэта перад Народным Камісарыятам Унутраных Спраў, перадаўшы скаргу праз той самы адміністрацыйны аддзел.

Адміністрацыйны аддзел, атрымаўшы ад заяўніка скаргу на сваё адмаўленьне аб прызнаньні яго даміцыліраваным чужаземцам, павінен гэтую скаргу з усімі матар'яламі і з сваім заключэньнем на працягу трох дзён накіраваць у Народны Камісарыят Унутраных Спраў.

20. Аб парадку прызнаньня даміцыліраванымі чужаземцамі, паводле гэтай інструкцыі, адміністрацыйныя аддзелы павінны шырока апавясьціць чужаземцаў, якія пражываюць на абшарах акругі, праз адпаведныя абвесткі ў мясцовых часопісах.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

Загадчык Чужаземнай Часткі Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР **І. Губскі.**

11 мая 1928 г.
№ 77.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра падлік спэцыялістаў народнай гаспадаркі.

Для выкананьня пастановы ЦВК і СНК СССР за 23-V 1928 г. і пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 25-VII—1928 г. (газэта „Известия ЦИК СССР и ВЦИК“ за 21-VIII—1928 г. № 193) „Пра арганізацыю пэрсанальнага падліку спэцыялістаў народнай гаспадаркі“, Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Падлік спэцыялістаў у БССР правесьці на працягу верасьня месяца г. г. у тэрміны, устаноўленыя акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

2. Павінны брацца на падлік усе грамадзяне (мужчыны і жанчыны), якія працуюць па сваёй, альбо іншай спэцыяльнасьці, а таксама і тыя, якія зусім не працуюць у наймах, што скончылі ў СССР, у был. Расійскай імпэрыі, альбо замежамі тэхнічныя, альбо сельска-гаспадарчыя вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы і тэхнікумы, а таксама тэхнічныя і сельска-гаспадарчыя факультэты (аддзяленьні) агульна-асьветных вышэйшых навучальных устаноў.

3. Асобы, якія павінны брацца на падлік, абавязаны асабіста зьявіцца ў адпаведныя па месцы пражываньня інспэкцыі працы.

*Увага.* Асобам, якія жывуць далёка да акруговых гарадоў, дазваляецца замест асабістай яўкі ў інспэкцыю працы выслаць дакумэнты праз давераных асоб, альбо поштаю.

4. Для рэгістрацыі асобы, якія павінны брацца на падлік, падаюць у інспэкцыі працы наступныя дакумэнты:

а) запоўненую падлічальна-тэхнічную картку;

б) дакумэнты аб асьвеце і рабоце;

в) падлічальна-вайсковы дакумэнт;

г) прафсаюзныя і партыйныя чл. білеты (для членаў).

*Увага.* Калі асобы, якія павінны брацца на падлік, ня могуць асабіста зьявіцца, то дазваляецца ім замест арыгіналу дакумэнтаў, адзначаных у літ. „а“, прыслаць копіі іх, а замест дакумэнтаў, адзначаных пад літ. „в“ і „г“, копіі іх першай старонкі.

5. Адміністрацыя ўстаноў, прадпрыемстваў і гаспадарак і асобы за атрыманьнем блянкаў падлічальна-тэхнічных картак, павінны звярочвацца ў інспэкцыю працы, альбо да раённых упаўнаважаных па працы.

6. Абавязаць адміністрацыю ўстаноў, прадпрыемстваў і гаспадарак:

а) выдаць асобам, якія павінны брацца на падлік, для падачы ў інспэкцыі працы арыгінал дакумэнтаў аб асьвеце, практычным стажы і падлічальна-вайсковыя дакумэнты, альбо копіі з іх;

б) аслабаніць ад работы на час яўкі ў інспэкцыю працы асоб, якія павінны брацца на падлік, захаваўшы за імі заробак;

в) праверыць пасьля сканчэньня падліку ці маюць асобы, якія павінны брацца на падлік, падлічальна-тэхнічныя білеты (якія будуць выдавацца пры падліку) і не пазьней 15 кастрычніка паведаміць інспэкцыі працы аб асобах, якія ня маюць такіх білетаў.

Нам. Народнага Камісара
Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР **А. Круглік.**

31 жніўня 1928 г.,
№ 56.

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра большы ахоп дзяцей батракоў і беднаты школаю.

*Акруговым інспэктарыятам народнай асьветы.*

Каб больш ахапіць дзяцей батракоў, батрачак і беднаты другім канцэнтрам 7-мігадовых школ, школамі другой ступені, школамі сялянскай моладзі, а таксама 4-хгадоваю школаю, каб затрымаць апошніх на працягу ўсяго школьнага курсу і каб лепш абслугоўваць дзяцей батракоў, батрачак і беднаты, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе:

1. Атрымаўшы гэтае распараджэньне, распачаць падлік дзяцей батракоў і беднаты ад 8 да 11 гадоў, якія ня вучыцца ў 4-хгадовых школах, уцягнуўшы ў гэтую працу культсэкцыі сельскіх саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў, а таксама камсамольскія і піянэрскія арганізацыі.

2. Загадзя правесьці падлік дзяцей батракоў і беднаты, якія скончылі ў апошнія два гады 4-хгадовыя школы, з тым, каб як можна больш уцягнуць іх у другі канцэнтр 7-мігадовых школ, школ сялянскай моладзі і школ II ступені.

3. Распачаць шырокую кампанію для ўцягненьня ў другі канцэнтр 7-мігадовых школ, школ сялянскай моладзі, школ II ступені, а таксама і ў 4-хгадовыя школы дзяцей батракоў, батрачак і беднаты, прычым асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўцягненьне дзяцей батракоў, батрачак і беднаты ў другі канцэнтр 7-мігадовых школ, школ II ступені і школ сялянскай моладзі.

4. Загадзя, да пачатку навучальнага году, правесьці шырокую працу па складаньні школьных фондаў беднаты, як грашмі, так і натураю і па папаўненьні сродкаў, якія адпускаюцца ў каштарысе на гэтую мэту (пры 7-мігодках, і пры 4-хгодках), на асновах грамадзкасьці, уцягваючы ў гэтую справу капярацыю, камітэты сялянскай узаемадапамогі і разгортваючы самадзейнасьць насельніцтва.

5. Пры кожнай раённай і вясковай школе ўтварыць камісію для арганізацыі школьных фондаў беднаты, увёўшы ў склад камісіі: загадчыка школы, прадстаўніка ад сельскага савету (у раённых і гарадзкіх цэнтрах—ад раённага, гарадзкога ці местачковага савету), прадстаўніка ад капярацыі, ад камітэту ўзаемадапамогі, 2-х прадстаўнікоў ад бацькоў вучняў дадзенай школы, ад камсамольскай арганізацыі. Старшыня камісіі выбіраецца на першым арганізацыйным сходзе з ліку членаў камісіі.

6. У абавязкі камісіі ўваходзіць адшуканьне сродкаў (паводле пункту 4) на дапамогу дзецям батракоў і беднаты, а таксама і правільнае іх разьмеркаваньне.

7. Ужыць усе захады да забясьпечаньня дзяцей батракоў і беднаты, якія вучацца ў 7-мігадовых школах, школах сялянскай моладзі і школах II ступені, інтэрнатамі, скарыстоўваючы для гэтай мэты бюджэтныя сродкі, а таксама часткова і сродкі самаабкладаньня.

8. Прадугледзець у каштарысе выдаткі на адчыненьне і належнае абсталяваньне новых інтэрнатаў пры 7-мігадовых школах і начлежак пры 4-хгодках і на палепшаньне існуючых інтарнатаў.

9. Як найшырэй скарыстаць практыку некаторых месц па арганізацыі падвозу вучняў у школу.

10. Пры прыйманьні ў другі канцэнтр 7-мігадовых школ, школ сялянскай моладзі і школ II ступені строга трымацца клясавага прынцыпу, залічваючы ў першую чаргу дзяцей рабочых, батракоў, батрачак,

беднаты, сельска-гаспадарчых рабочых, дзяцей, бацькі якіх працуюць у сельска-гаспадарчых каляктывых, і дзяцей незаможных серадняко́ў.

11. Пры разьмеркаваньні падручнікаў паміж вучнямі, у першую чаргу цалкам трэба забясьпечыць падручнікамі дзяцей батракоў і беднаты, катэгарычна адкідаючы існаваўшую да гэтага часу практыку раўнамернага разьмеркаваньня падручнікаў паміж вучнямі розных сацыяльных груп.

12. На працягу ўсяго году весьці сыстэматычную працу для затрыманьня на больш доўгі час навучаньня дзяцей батракоў і беднаты ў школах праз растлумачальную працу, а таксама, галоўным чынам, праз падвядзеньне матар'яльнай базы.

13. Ужыць усе захады да сваячасовага паступленьня ў школу дзяцей батракоў і беднаты, да нармальнага наведваньня на працягу ўсяго году і нармальнага сканчэньня навучальнага году.

14. Стыпэндыі і школьныя фонды беднаты, якія будуць адпушчаны ў наступным 1928-29 навучальным годзе ў 7-мігадовых і 4-х-гадовых школах для дзяцей беднаты і батракоў, цалкам скарыстаць на беспасрэднае прызначэньне.

15. Запрапанаваць загадчыкам і настаўнікам школ рабіць большую дапамогу ў навучальнай працы ўсім не пасьпяваючым дзецям і асабліва не пасьпяваючым дзецям беднаты.

16. Найбольш слабых вучняў і асабліва вучняў з сялян, батракоў і беднаты прымацоўваць (праз вучнёўскія камітэты і піанэрскія арганізацыі) да найбольш пасьпяваючых вучняў.

17. У школе (у межах раёну, які абслугоўваецца школаю) завесьці дакладны падлік дзяцей батракоў і беднаты ад 8 да 11 гадоў і прытым ня толькі тых, якія вучыцца ў школе, а і тых, якія знаходзяцца па-за сьценамі школы.

18. Пытаньням большага ахопу школай дзяцей батракоў і беднаты, лепшага абслугоўваньня апошніх і іншае надаць шырокую грамадзкасьць.

19. Акруговыя і раённыя інспэктарыяты павінны строга сачыць за выкананьнем усіх пералічаных вышэй дырэктываў.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч**.

Ст. Інспэктар школ сацыяльнага выхаваньня НКА БССР **І. Мазур**.

11 ліпеня 1928 г.,
№ 24.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

**пра зацьверджаньне тыповага дагавору на перадачу выхаванцаў дзіцячых дамоў у працоўныя землябробскія сялянскія сем'і і пра ўстанаўленьне сум на патрэбы, прадугледжаныя ў тыповым дагаворы.**

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

1. Распрацованы на падставе пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 23 лютага 1928 г. (пратакол 33, § 348) і ўзгоднены з Народным Камісарыятам Працы БССР тыповы дагавор на перадачу выхаванцаў дзіцячых дамоў у працоўныя землябробскія сялянскія сем'і, для падрыхтоўкі іх да сельска-гаспадарчай працы зацьвердзіць.

2. На вызначаныя ў тыповым дагаворы патрэбы пры заключэньні апошняга прадугледзіць наступныя сумы:

а) 25 руб. на кожнага перараданага ў сялянскую сям'ю выхаванца для выдачы сельска-гаспадарчаму калектыву, ці двару, які ўзяў выхаванца;

б) па 100 руб. штогод на працягу 3-х гадоў, якая сума ўносіцца ў касу ашчаднасьці на імя перададзенага ў сялянскую сям'ю выхаванца.

3. Абавязаць дагаворам сельска-гаспадарчы каляктыў ці сялянскі двор, каб ён пры выхадзе выхаванца з каляктыву ці двара аддаваў выхаванцу 25 руб., атрыманыя ім пры прыняцьці ў сваю сям'ю гэтага выхаванца.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР П. **Валасевіч**.

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч**.

---

*Дадатак № 1.*

*Форма № 1.*

## ТЫПОВЫ ДАГАВОР.

„ “ . . . . . . . . . . . месяца 19 . . году гэты дагавор складзены Раённым / гарадзкім Інспэктарам Народнай Асьветы . . . . . . . раёну (горад) . . . . . . . . . . . акругі . . . . . . . . (прозьвішча, імя і імя (паказаць назву яго) па бацьку) з аднаго боку і с.-г. каляктывам (сялянскім дваром) у вёсцы . . . . . . . . раёну . . . . . . . . акругі ў асобе (прадстаўніка каляктыву, альбо гаспадара двара) . . . . . . . . (прозьвішча, імя і імя па бацьку) з другога боку аб перадачы с.-г. каляктыву, альбо двару, для падрыхтоўкі для сельска-гаспадарчай працы непаўналетняга (прозьвішча, імя і імя па бацьку), які нарадзіўся . . . . . . . . . месяца 19 . . году (паводле выпісу аб нараджэньні) і знаходзіцца зараз у . . . . . . . . . . . (паказаць поўную назву ўстановы), які (дзіцячы дом) знаходзіцца . . . . . . . . . . . (паказаць дакладны адрэс установы). Дагавор складзены ў прысутнасьці выхаванца (прозьвішча, імя і імя па бацьку).

1. Каляктыў (сялянскі двор) бярэ на сябе абавязак: а) падрыхтаваць выхаванца да сельска-гаспадарчай працы; б) адносіцца да яго, як да роднага члена сям'і, даючы яму харчы і даглядаючы яго, як усіх дзяцей, альбо падлеткаў двара, не ўскладаць на яго больш, чымся на другіх дзяцей-падросткаў, хатняй, сельска-гаспадарчай і інш. працы, якая павінна заўсёды адпавядаць яго сілам, гадом і стану здароўя; в) даць яму магчымасьць скончыць ня менш, чымся 4-хгадовую школу (першы канцэнтр сямігодкі); г) сачыць за здароўем выхаванца і, калі ён захварэе, ужываць захады, каб зрабіць яму лекавую дапамогу; д) перадаць выхаванцу, калі яму будзе 18 гадоў, альбо калі ён выйдзе з каляктыву (двара), для самастойнага вядзеньня гаспадаркі: адзеньне, абутак, бялізну і іншыя рэчы ў той самай колькасьці, што былі ў яго, калі ён ўваходзіў у каляктыў (сялянскі двор), вярнуць яму зямлю, калі зямля каляктывам ці сялянскім дварам была атрымана, і даць выхаванцу адначасовую дапамогу выдачаю . . . . . . . . . . (падрабязна паказаць, якая дапамога і разьмер гэтай

дапамогі, якая выдаецца выхаванцу калактывам (дваром) на самастойнае абсталяваньне гаспадаркі.

*Увага 1.* Выхаванец, які перадаецца сельска-гаспадарчаму калактыву (сялянскаму двару), стаўшы паўналетнім і выходзячы з калактыву (сялянскага двару), ня мае права патрабаваць выдзелу яму з с.-г. калактыва альбо двара нічога, апроч таго, што паказана ў п. „д“ гэтага параграфу.

*Увага 2.* Калі выхаванец пасьля сканчэньня тэрміну працоўнага выхаваньня не астаецца ў двары, то атрыманая на долю выхаванца зямля астаецца за сельска-гаспадарчым калактывам (дваром) толькі тады, калі двор возьме на выхаваньне другога выхаванца. У такім разе паўналетні выхаванец, які выходзіць з калектыву (двара), атрымоўвае зямлю на агульных падставах.

2. Інспэкцыя Народнай Асьветы абавязваецца: а) уносіць, на працягу 3-х гадоў, у касу ашчаднасьці на імя выхаванца па . . . . . . . руб. штогод (паказаць суму), якія апошні, стаўшы паўналетнім, павінен атрымаць для ўтварэньня самастойнай гаспадаркі; б) дапамагаць калактыву (сялянскаму двару) атрымаць на долю выхаванца зямлю з запаснага зямельнага фонду па нормах працоўнага зямлякарыстаньня, а пры правядзеньні зямляўпарадкаваньня на агульных падставах, паводле артыкулу 4 пастановы ЦВК і СНК БССР (прат. № 33, п. 348) за 23/II—28 г.; в) дапамагаць сельска-гаспадарчаму калактыву (двару) у аслабаненьні ад платы адзінага сельска-гаспадарчага падатку за тую зямлю, якая будзе атрымана калактывам (дваром) на выхаванца (пастанова ЦВК і СНК СССР за 2-IV—26 г.); г) выдаць сельска-гаспадарчаму калактыву (двару) для набыцьця патрэбных гаспадарчых прыладаў аднначасовую дапамогу з мясцовых сродкаў у суме . . . . . руб.; д) ня браць з выхаванца платы за навучаньне ў школе і забясьпечыць яго дармовымі навучальнымі дапамогамі і пісьмовымі прыладамі; е) дапамагаць калактыву (двару), калі ён, узяўшы выхаванца, не атрымае зямлі, аб выдачы на набыцьцё гаспадарчых прылад аднначасовай матар'яльнай дапамогі з мясцовых сродкаў у разьмеры . . . . . руб., разьмер гэтай дапамогі павінен быць вызначан акруговымі выканаўчымі камітэтамі, паводле пастановы ЦВК і СНК за 23/II—28 г. (прат. № 33, п. 348).

3. Тэрмін гэтага дагавору вызначаецца да . . . . . . . . (гэты тэрмін ня можа быць меншы як 3 гады).

4. Раней вызначанага тэрміну дагавор можа быць скасованы: а) паводле згоды паміж калактывам (дваром) і выхаванцам, б) паводле патрабаваньня Інспэкцыі народнай асьветы, калі будуць парушаны калактывам (сялянскім дваром) абавязкі, вызначаныя ў дагаворы, альбо будуць такія зьмены існуючага становішча ў калактыве (у сялянскім двары), якія робяць далейшае прабываньне ў іх выхаванца, па думцы інспэкцыі народнай асьветы, не пажаданым.

5. Калі дагавор будзе скасованы раней тэрміну з прычыны невыкананьня калактывам (дваром) вызначаных у дагаворы ўмоў, то зямля, дадзеная на долю выхаванца, павінна быць вернута калактывам (дваром) у зямельны фонд. Пасьля зьняцьця ўраджаю, льгота па адзіным сельска-гаспадарчым падатку, а таксама па мясцовых падатках і зборах касуецца, калактыў (двор) павінен на працягу месяца вярнуць інспэкцыі народнай асьветы суму . . . . . руб., атрыманую для гаспадарчага абсталяваньня выхаванца, а таксама ўсе рэчы, вызначаныя ў наступным параграфе.

6. Выхаванец, які перадаецца ў каляктыў (двор, сялянскую сям'ю), забясьпечаны наступнымі рэчамі . . . . . . . . . (пералічыць рэчы, паказаўшы іх кошт).

Апроч таго, у выхаванца ёсьць наступныя прадметы, якія складаюць яго асабістую ўласнасьць . . . . . . . (пералічыць прадметы і паказаць іх прыблізны кошт).

7. Калятыў (двор) бярэ на сябе абавязак клапаціцца аб захаванасьці ўсіх пералічаных у папярэднім параграфе прадметаў, як аб сваіх уласных.

8. Зьмены ў складзе калятыву (двара) не аслабаняюць апошніх ад прынятых на сябе па дагавору абавязкаў; у выпадку сямейнага падзелу двара патрэбна згода інспэкцыі народнай асьветы для ўстанаўленьня, у якім з двароў будзе знаходзіцца выхаванец і на якім з іх альбо на абодвых ляжыць адказнасьць за выконваньне абавязкаў, вызначаных у дагаворы.

9. Усе непаразуменьні, якія будуць паміж старанамі пры выкананьні гэтага дагавору, вырашаюцца судовымі ўстановамі па месцы знаходжаньня інспэкцыі народнай асьветы, што падпісала дагавор. Тым самым судом вызначаецца і адказнасьць калятыву (двара) за парушэньне гэтага дагавору.

10. Гэты дагавор гэрбавым зборам не аплачваецца. Арыгінал яго павінен знаходзіцца ў інспэкцыі народнай асьветы, а копія ў прадстаўніка калятыву (сялянскага двара).

Інспэктар Народнай Асьветы (подпіс).

Прадстаўнік с.-г. калятыву
(сялянскага двара) (подпіс).

---

Штамп

*Дадатак № 2.*

*Форма № 2.*

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Гэтае пасьведчаньне дадзена Раённым / гарадзкім Інспэктарам Народнае Асьветы . . . . . . . . . . . раёну (гораду) . . . . . . . . . . . акругі (каму) . . . . . . . . . . . (прозьвішча, імя і імя па бацьку) прадстаўніку сельска-гаспадарчага калятыву (гаспадару сялянскага двара) у вёсцы . . . . . . . . . раёну . . . . . . . . . . акругі для падачы у . . . . . . . . . . . . Раённы Выканаўчы Камітэт у тым, што памянёны калятыў (двор) склаў з Інспэкцыяю Народнай Асьветы дагавор і ўзяў для падрыхтоўкі да сельска-гаспадарчай працы выхаванца . . . . . . . . . . (прозьвішча, імя і імя па бацьку) тэрмінам да . . . . . . . . (год, месяц і дзень), і з гэтае прычыны, паводле артыкулу 4 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23-II—28 г. (пр. № 33, п. 348), памянёны калятыў (двор) мае права атрымаць на долю выхаванца . . . . . . . . . (прозьвішча) зямлю з запаснага зямельнага фонду па нормах працоўнага землякарыстаньня, а пры правядзеньні землеўпарадкаваньня—на агульных падставах.

(М. П.)

Інспэктар Народнай Асьветы (подпіс).

Штамп

*Дадатак 3.*
*Форма № 3.*

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Гэтае пасьведчаньне дадзена . . . . . . . . Раённым / гарадзкім Інспэктарам Народнай Асьветы . . . . . . . . раёну . . . . . . . . (гораду) . . . . . . . . . . . . акругі (каму, прозьвішча, імя і імя па бацьку) прадстаўніку каляктыву (гаспадару сялянскага двару) у вёсцы . . . . . . . . . . . . раёну . . . . . . . . . акругі для падачы ў раённую (гарадзкую) падатковую камісію ў тым, што адзначаны каляктыў (двор) склаў з інспэктарам народнай асьветы дагавор і ўзяў для падрыхтоўкі да сельска-гаспадарчай працы выхаванца (прозьвішча, імя і імя па бацьку) тэрмінам да . . . . . . . . . (год, месяц і дзень) і з гэтай прычыны, паводле арт. 1 пастановы ЦВК і СНК БССР за 2-IV—26 г. (прат. № 33 п. 348), вызначаны гэтаму каляктыву (двару) для выхаванца . . . . . . . . . (прозьвішча, імя) дадатковы надзел зямлі павінен быць звольнены ад платы адзінага сельска-гаспадарчага падатку на працягу трох гадоў з часу атрыманьня надзелу зямлі.

Інспэктар Народнай Асьветы (подпіс).

(М. П.)

Штамп

*Дадатак № 4.*
*Форма № 4.*

## ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Гэтае пасьведчаньне дадзена . . . . . . . . Раённым / гарадзкім Інспэктарам Народнай Асьветы . . . . . . . . . раёну . . . . . . . . . акругі . . . . . . . . . . . (каму, прозьвішча, імя і імя па бацьку) прадстаўніку каляктыву (сялянскага двара) у вёсцы . . . . . . . . . . раёну . . . . . . . . . акругі . . . . . . . . . для падачы . . . . . . (назва ўстановы) у тым, што памянёны каляктыў (двор), які склаў з інспэкцыяю народнай асьветы дагавор аб прыняцьці для падрыхтоўкі да сельска-гаспадарчай працы выхаванца (прозьвішча, імя), выконвае свае абавязкі ў адносінах да выхаванца сумленна і з гэтае прычыны, паводле арт. 6 пастановы ЦВК і СНК БССР за 23-II—1928 г. (пр. № 33 п. 348), мае права на дадатковыя льготы па мясцовых падатках і зборах, устаноўленыя раённым або акруговым выканаўчым камітэтам.

Інспэктар Народнай Асьветы (подпіс).

(М. П.)

---

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

### пра незаконныя перакіды настаўнікаў з аднае школы ў другую.

*Усім акруговым інспэктарыятам народнай асьветы.*

Заметкі, зьмешчаныя ў апошнія часы ў газэце „Савецкая Беларусь“, скаргі настаўнікаў у Народны Камісарыят Асьветы, Саюз Працасьветы, сьведчаць аб шэрагу незаконных перакідак некаторымі раённымі інспэктурамі настаўнікаў з аднае школы ў другую. Зварочваючы на гэта Вашую ўвагу, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе Вам:

1. Спыніць, у самым тэрміновым парадку, незаконныя перакідкі настаўніцтва з аднае школы ў другую.

2. Інспэктароў, якія зрабілі незаконныя перакідкі, прыцягнуць да адказнасьці.

3. Пры ўкамплектаваньні школ строга трымацца абежніку за 12-VI—1927 году, № 62.

4. Менскі Акруговы Інспэктарыят павінен зрабіць дасьледваньне па заметцы, зьмешчанай у газэце „Савецкая Беларусь“ за 26-VIII гэтага году, аб перакідках ў горадзе Барысаве, і аб выніках дасьледваньня паведаміць Народны Камісарыят Асьветы.

Народны Камісар Асьветы БССР **А. Баліцкі.**

Ст. Інспэктар школ сацыяльнага выхаваньня
Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **І. Мазур.**

1 верасьня 1928 г., № 10104.

---

## 10. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі

**пра працу рэвізійных камісій.**

*Усім раённым камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР.*

З актаў абсьледваньня раённых і сельскіх камітэтаў і матар‘ялаў пры выслухоўваньні дакладаў відаць, што сельскія і раённыя рэвізійныя камісіі ў пераважнай сваёй частцы слаба вядуць працу, на працягу гаспадарчага году замест 4-х рэвізій, намечанных у пляне, робяць толькі адну-дзьве, пры гэтым ня робяцца справаздачы перад выбаршчыкамі. У актах рэвізій няма кіраўнічых прапаноў прарэвізаванаму камітэту— робіцца толькі праверка матар‘яльных сродкаў. Раённыя камітэты слаба кіруюць сельскімі рэвізійнымі камісіямі.

На падставе памянёнага вышэй і каб палепшыць працу рэвізійных камісій, Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі прапануе ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

1. Устанавіць, каб раённыя камітэты заўсёды кіравалі сельскімі рэвізійнымі камісіямі праз: а) скліканьне раённых нарад старшынь сельскіх рэвізійных камісій для інструктаваньня іх аб парадку правядзеньня рэвізій, кіруючыся інструкцыяю за 1925 г., № 11; б) нагляд, каб рэвізіі рабіліся рэгулярна па кварталах, 4 разы ў год; в) рэвізійныя камісіі павінны пры правядзеньні рэвізій абсьледваць працу сельскіх камітэтаў і з арганізацыйнага і з гаспадарчага бакоў, даючы кірунак для далейшай працы прарэвізаванага камітэту, а адзін экзэмпляр акту рэвізіі накіраваць у Раённы Камітэт Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі; г) пасьля кожнай рэвізіі, рэвізійная камісія абавязкова павінна зрабіць справаздачу перад выбаршчыкамі разам з дакладам камітэту, г. зн. на сходзе с/упаўнаважаных і на агульных сходах вялікіх вёсак.

2. Раённыя рэвізійныя камісіі павінны рабіць рэвізіі паводле пляну, 4 разы ў год, а пасьля правядзеньня кожнай рэвізіі адзін экзэмпляр акту рэвізіі накіроўваць у Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі. Справаздачу перад выбаршчыкамі яны павінны рабіць паводле пляну раённага камітэту.

3. Рэвізійныя камісіі павінны рэвізаваць толькі той камітэт, пры якім яны выбраны. Калі рэвізійная камісія выявіць растрату, то яна тэрмінова накіроўвае справу ў народны суд, паведамляючы аб гэтым вышэйшы за сябе камітэт сялянскіх т-ваў узаемадапамогі.

4. Члены раённай рэвізійнай камісіі за час свае працы па рэвізіі раённага камітэту сялянскіх таварystваў узаемадапамогі могуць атрымоўваць плату—у дзень 1/30 частку заработнай платы старшыні раённага камітэту (ці 2 р. у дзень)—з агульных сродкаў раённага камітэту сялянскіх таварystваў узаемадапамогі. Не аплачваецца праца членаў раённых камісій, якія атрымоўваюць заработную плату па сваёй беспасрэднай працы. Члены рэвізійных камісій сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі за сваю працу па рэвізіі сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі ніякай платы не павінны атрымоўваць.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх
Т-ваў Узаемадапамогі **Л. Жарын.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

7 верасьня 1928 г., № 2.

---

## 11. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі

**пра парадак выдачы даведак беднаце.**

*Усім раённым камітэтам сялянскіх таварystваў узаемадапамогі БССР.*

З матар'ялаў, якія ёсьць у Цэнтральным Камітэце Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі, відаць, што на мясцох старшыні сельскіх камітэтаў да гэтага часу не ўявілі сабе ўсяе важнасьці пытаньня дапамогі беднаце беспасрэдна сродкамі камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі і выдачаю розных льгот і крэдытаў, дадзеных савецкаю ўладаю. Ёсьць выпадкі, калі насеньне выдаецца заможным, у той час, як яго не хапае для бядняцкіх гаспадак (Будзкі с-камітэт Багушэўскага раёну). На атрыманьне льгот даюцца даведкі заможным гаспадаркам (Бягомльскі раён Менскай акругі). Такія выпадкі дыскрэдытуюць працу сялянскай узаемадапамогі і зьмяншаюць яе аўтарытэт, як масавай арганізацыі, высунутай дапамагаць бядняцкім гаспадаркам, сем'ям чырвонаармейцаў, інвалідам і асобам, якія маюць недастатак з прычыны навальных бядот.

На падставе памянёнага Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварystваў Узаемадапамогі прапануе Вам даць дакладныя тлумачэньні ўсім сельскім камітэтам, каб яны мелі сталы падлік бядняцкіх гаспадарак (сьпіс гэтых гаспадарак) і пры выдачы дапамогі з фондаў камітэтаў і даведак на дзяржаўныя льготы і крэдыты абавязкова рабіліся адзнакі ў сьпісах аб зробленай дапамозе. Пытаньні аб выдачы даведак на атрыманьне дзяржаўных льгот і крэдытаў абавязкова праводзіць праз пасяджэньні прэзыдыуму сельскага камітэту, які павінен вынесьці належную пастанову.

Пад асабістую адказнасьць старшынь раённых камітэтаў устанавіць строгі нагляд за сельскімі камітэтамі па пытаньні больш правільнай выдачы беднаце хадайніцтваў і даведак у належныя ўстановы на атрыманьне льгот і выдачы пазычак з фондаў сельскіх камітэтаў.

За няправільна выдадзеную даведку ці хадайніцтва старшынь сельскіх камітэтаў у кожным асобным выпадку прыцягваць да крымінальнай адказнасьці.

Для праверкі правільнасьці выдачы даведак і хадайніцтваў, трэба весьці сьпісы беднаты і ў раённым камітэце сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх
Т-ваў Узаемадапамогі **Л. Жарын.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

7 верасьня 1928 г., № 2.

---

## 12. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі

### пра застрахаваньне насенных магазынаў, натуральных фондаў і ўласных прадпрыемстваў камітэтаў.

*Усім раённым камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР.*

Маючы на ўвазе выпадкі незастрахаваньня некаторымі камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі насенных магазынаў і ўласных прадпрыемстваў, ня гледзячы на дадзеныя аб гэтым пытаньні прапановы, а таксама і знаходзячы патрэбным застраханьне ад пажару насенных натуральных фондаў камітэтаў, Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі прапануе:

1. Раённым і сельскім камітэтам тэрмінова застрахаваць ад пажару ўсе насенныя магазыны і ўласныя вытворчыя прадпрыемствы і маемасьць, якія не застрахаваны да гэтага часу.

2. Застрахаваць ад пажару натуральныя фонды, прычым апошнія застрахаваць на тэрмін знаходжаньня іх на захаваньні ў магазынах (да часу раздачы) на 7—8 месяцаў.

3. Страхаваньне павінна рабіцца за кошт таго камітэту, якому належыць маемасьць.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх
Т-ваў Узаемадапамогі **Л. Жарын.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

7 верасьня 1928 г., № 2.

---

## 13. Абежнік Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі

### пра дапамогу вучням сялянскіх бядняцкіх гаспадарак.

*Усім раённым камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР.*

З матар'ялаў камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі відаць, што да гэтага часу праца па аказаньні дапамогі вучням сялянскіх бядняцкіх гаспадарак, хаця і вялася, але плянавай дапамогі і дасканальнага падліку ня было.

Дапамога вучням бядняцкіх сялянскіх гаспадарак зьяўляецца адной з галоўных задач сялянскай узаемадапамогі і праца гэта павінна пра-

водзіцца не выпадкова, а штодзённа і плянава. На гэтую мэту частку сродкаў дае дзяржава, трэба таксама і камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі вылучаць у сваіх каштарысах частку сродкаў.

Для выкананьня гэтай задачы Цэнтральны Камітэт прапануе ўсім раённым і сельскім камітэтам сялянскіх т-ваў узаемадапамогі ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

1. Зрабіць сталы падлік усіх дзяцей школьнага веку бядняцкіх сялянскіх гаспадарак.

2. Кожны сельскі камітэт павінен вызначыць у гадовым пляне працы 2—3 вучняў на сельскі камітэт (самых бедных), каб рабіць ім штодзённую дапамогу, вылучыўшы для гэтай мэты ў гадовым каштарысе патрэбную суму сродкаў.

3. Дапамога павінна рабіцца наступнымі відамі: а) закупкаю падручнікаў і сшыткаў; б) закупкаю адзеньня і абутку; в) выдачаю на харчаваньне; г) удзелам камітэтаў у разьмеркаваньні сродкаў, адпушчаных дзяржаваю на дапамогу вучням бядняцкіх гаспадарак і д) удзелам камітэтаў у належных камісіях па разьмеркаваньні мясцоў і стыпэндый у навучальныя ўстановы і абаронаю ў гэтых камісіях інтарэсаў вучняў бядняцкіх сялянскіх гаспадарак.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх
Т-ваў Узаемадапамогі **Л. Жарын.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту
Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

7 верасьня
1928 г., № 2.

---

Час. адказны рэдактар **Л. Дубавіцкі.**

